# Манеты Беларусі

## (да 1707 г.)

ІЗРОЙ–MAGDUCLIT 2007

Даведнік

**МІНСК**
*Выд. І. П. Логвінаў*
**2007**

УДК 737.11(476)(035)
ББК 63.2(476)я2
М 23

СКЛАДАЛЬНІКІ:
Гулецкі Дзмітры,
Грамыка Аляксандар,
Крываручка Аляксандар

**Манеты Беларусі (да 1707 г). ІЗРОЙ-MAGDUCLIT 2007:** даведнік / склад. : Д. Гулецкі, А. Грамыка, А. Крываручка. – Мінск: І. П. Логвінаў, 2007. – 216 с. : іл.

ISBN 978-985-6800-34-7.

Даведнік змяшчае інфармацыю аб манетах, што курсавалі на тэрыторыі Беларусі ад старажытных часоў да 1707 г., у якім была выбітая апошняя манета Вялікага Княства Літоўскага. Выхад кнігі дастасаваны да трохсотгоддзя гэтага чыну. Упершыню ў Беларусі друкуюцца якасныя фотаздымкі ўсіх асноўных тыпаў манетаў, пададзеныя арыентацыйныя цэны на калекцыянерскіх рынках краіны. Даведнік складзены подле заўваг і прапаноў наведнікаў нумізматычных бачынаў ІЗРОЙ (www.belcoins.com) і MAGDUCLIT (www.magduclit.com).

**УДК 737.11(476)(035)**
**ББК 63.2(476)я2**



**ISBN 978-985-6800-34-7**

# Змест

# Перадмова

Гісторыя грашовага абарачэння на Беларусі налічвае доўгія стагоддзі, цягам якіх нашыя продкі зведалі нямала войнаў, пошасцяў і галадамораў. Гэтыя негатыўныя з'явы адлі дазваляюць нам сёння азірнуцца назад і абачыць мінуўшчыну ў матэрыяльным увасабленні, узяць у рукі манету – драбнюткі кавалак кову, які так шмат кажа пра тое, чым калісьці жылі яны, незалежна ад свайго назову: і беларусы-крывічы, і беларусы-ліцьвіны, і безыменныя жыхары забранага краю. Манета – адносна недарагі і даступны рэлікт былога – апынулася ў нашых руках "дзякуючы" перыядам ліхалеццяў, якія прычыніліся да таго, што бясцэнныя скарбы дажылі да нашых часоў і працягваюць цвяліць нам гістарычную памяць і прыносіць незабыўнае пачуццё повязі з мінулым.

Манеты на Беларусі хадзілі з антычных часоў, перабывала за стагоддзі шмат іх як з Захаду, гэтак і з Усходу, пакуль урэшце нашыя продкі не пачалі паслугоўвацца собскім грашовым сродкам – віцебскім ізроем. Ягонае з'яўленне датуецца 12 стагоддзем. З фармаваннем і цэнтралізацыяй старажытнабеларускага гаспадарства – Вялікага Княства Літоўскага – у другой палове 14 ст. узнікаюць і першыя дробныя манеты з надпісамі на старабеларускай мове. Адначасова пашыраецца другі тып срэбнае грыўні – літоўскі рубель.

Да канца 1390-х гадоў, калі ўзмацнілася цэнтралізацыя дзяржаўнае ўлады ў руках Вітаўта, нумізматыку ВКЛ варта разглядаць у рэчышчы эмісіяў удзельных княстваў. Дакладна вызначана, што апроч вялікага князя Ягайлы ў Вільні, свае манеты білі Уладзімір і Скіргайла Кіеўскія, Дзмітры Ноўгарад-Северскі, Касцянцін і Тодар Падольскія і іншыя князі. Апроч гэтага, існуе імавернасць, што недастатковыя высілкі ў археалагічных пошуках на сучасным этапе прычыняцца да невядомасці манетаў некаторых удзельных княстваў гэтага перыяду.

Каля 1392 г., з атрыманнем улады, пачынае масавыя эмісіі пенязяў Вітаўт Вялікі. На рубяжы стагоддзяў Вітаўт атрымаў тытул Вялікага князя і змяніў тып манетаў. У гэты час усталявалася дзесяцічная – першая ў Эўропе – грашовая сыстэма дзяржавы: 1 рубель = 100 праскім грашом = 1000 пенязяў.

Напрыканцы 15 ст. адбываецца вэстэрнізацыя мынцарства Вялікага Княства, манеты становяцца падобнымі да заходнеэўрапейскіх і нясуць

ужо вылучна лацінскія надпісы. Тым не менш, адметная вялікалітоўская грашовая сыстэма працягвала сваё існаванне і была скасаваная толькі за часоў Сцяпана Батуры, калі адбылася поўная уніфікацыя грашовых сыстэмаў з Польшчай.

Манеты ВКЛ працягвалі біцца з перапынкамі да пачатку 18 стагоддзя, калі апошняя з іх – шастак Аўгуста II – выйшла з-пад варштату мынцмайстра.

Гэтыя перыяды грашовага абарачэння і асвятляе даведнік, які шаноўны чытар трымае ўруччу. У ім упершыню ў Беларусі друкуюцца якасныя фотаздымкі бальшыні асноўных тыпаў манетаў, якія курсавалі на землях нашае краіны, пададзеныя іх арыентацыйныя цэны на беларускіх калекцыянерскіх рынках. Найбольшая ўвага нададзеная перыяду ўзнікнення першых мясцовых грошай – ізрояў, рублёў і дробных манетаў.

Інтарэс да іх у беларускіх калекцыянераў неабгрунтавана невялікі. Гэта можна патлумачыць не гэтулькі іх высокімі цэнамі, колькі амаль поўнай адсутнасцю грунтоўных айчынных працаў па ранняй нумізматыцы ВКЛ. Таму, нягледзячы на папулярны характар выдання, у раздзеле, прысвечаным першым вялікалітоўскім манетам, аўтары дазволілі сабе змясціць падрабязнае навуковае даследванне віцебскага нумізмата Аляксандра Грамыкі. З яго высновамі могуць не цалкам згаджацца пазыцыі іншых суаўтараў даведніка. Матэрыял для даследвання быў сабраны ім жа, з дапамогай менскага даследніка Дзмітра Гулецкага. Таксама А. Грамыкам былі прастаўленыя ступені рэдчыні першых манетаў ВКЛ па агульнапрынятай 8-бальнай шкале (R1-R8). Гэта адзіны раздзел кнігі, які мае характар навуковага даследвання. Усе засталыя раздзелы напісаныя ў папулярным стылі, з прытрыманнем аб'ектыўнага пагляду ў сучаснай нумізматыцы. Для ўсіх *вельмі* рэдкіх манетаў у іншых раздзелах, незалежна ад ступені рэдчыні, даецца толькі ўказанне на гэта ў выглядзе літары R. Для меней рэдкіх манетаў прастаўленая арыентацыйная цана сярод беларускіх калекцыянераў.

Для гэтага і пазнейшых перыядаў пададзеныя звесткі не толькі пра айчынныя манеты, але і пра замежныя, якія курсавалі на нашых землях. Манеты Вялікага Княства пранумараваныя ў межах раздзелаў дзеля палягчэння вызначэння манетаў пры спасылцы на даведнік. Пададзеныя прыблізныя цэны для манетаў у III стане захавання. Пры тым, што калекцыянерскі рынак падлеглы частым ваганням коштаў, аўтары намагаліся вызначыць актуальнае значэнне цаны, за якую варта набыць адпаведную манету і існуе вялікая верагоднасць, што набыўца не пераплаціць. Разам з тым, трэба мець наўвеце суб'ектыўнасць падобнае ацэнкі, бо калекцыйная цана – не сталая велічыня, і залежыць ад часовага, прасторавага, чалавечага і іншых суб'ектыўных чыннікаў.

краінаў і новых тэндэнцыях калекцыянерскага рынку. Раскрытыя базісныя захады па чышчэнні манетаў і выкрыццю фальсыфікатаў. Дзеля заахвочвання інтарэсу калекцыянераў да даследванняў у галіне нумізматыкі і падвышэння роўню ведаў пра прадметы збіральніцтва раскрытая тэхніка біцця старажытных манетаў. Сабраная і апублікаваная інфармацыя пра месцы сустрэч калекцыянераў на Беларусі і ў некаторых суседніх дзяржавах.

Складальнікі даведніка загадзя дзякуюць чытароў за заўвагі і прапановы ў свой адрас:

Дзмітры Гулецкі (Dźmitry Hulecki) dhulecki@belcoins.com
Аляксандар Грамыка (Alaxandar Hramyka) grom.alex@tut.by
Аляксандар Крываручка (Alaxandar Kryvaručka) krivoruchko@tut.by

Першымі манетамі, якія з'явіліся ў значнай меры на тэрыторыі сучаснае Беларусі ў канцы першага стагоддзя AD, былі рымскія срэбныя **пенязі** (дынары). Нашмат радзей сустракаюцца ў скарбах медзяныя і залатыя рымскія манеты.



**Рымскі медзяны фоліс**



**Рымскі срэбны пенязь**

Цэны на найзвыклейшыя тыпы гэтых манетаў вагаюцца на калекцыянерскіх рынках Беларусі адпаведна ў межах 20–25, 5–10 і 250–300 у.а.

Трапляюцца і рэдкія манеты Рыма, а таксама Грэцыі і Бізанты (у нязначнай меры), але наагул колькасць знаходак антычных манетаў на тэрыторыі Беларусі невялікая.




**Рымскі залаты аўрэўс Траяна 98–117 гг.**

У 9-м стагоддзі пачынаецца экспансія **арабскіх дырхемаў**, звязаная з пашырэннем гандлёвых сувязяў старажытнабеларускіх плямёнаў з краінамі Усходу. Гэтыя манеты біліся шматлікімі дынастыямі на працягу доўтага часу ў мынцах Азіі і Афрыкі. На Беларусі найбольшае распаўсюджанне атрымалі эмісіі Абасідаў, Саманідаў і Умаядаў. Глыбокае калекцыянаванне дырхемаў у нашай краіне не пашыранае, таму арыентацыйная цана на які-колечы складае звычайна каля 15 у.а.



**Куфічны дырхем**



**Залаты арабскі дынар 10 ст.**

Досыць часта ў скарбах трапляюцца часткі дырхемаў (паловы ці кварты). Разразанне гэтых манетаў з мэтай атрымання дробных грашовых адзінак паўсюдна тарнавалася ў тыя часы.

**Залатыя арабскія манеты** носяць назоў дынараў. Іх вага складае каля 4,5–5,5 г. Арыентацыйная цана дынараў – каля 200 у.а.

Сустракаюцца срэбныя дырхемы большае вагавае нормы – бітыя ў 5–6 стст. праз іранскую дынастыю **Сасанідаў**. Сярод калекцыянераў яны найчасцей гэтак і мянуюцца – "сасанідамі", і каштуюць у межах 35–40 у.а.



**"Сасанід"**

Прыбыццё дырхемаў на беларускія землі скончылася кагадзе перад канцом першага тысячагоддзя.

Трапляюцца на Беларусі і сярэднявечныя манеты **Бізанты**, дапрыкладу, залатыя соліды (300 у.а.), але ў вельмі абмежаваных колькасцях.

У канцы 10 ст. пашыраюцца гандлёвыя сувязі Полацкага і іншых старажытнабеларускіх княстваў з Заходняй Эўропай. З пачаткам новага тысячагоддзя набывае сталы характар імпарт на нашыя землі **пенязяў** (дынараў), бітых перадусім у княствах Нямеччыны, а таксама ў Чэхіі, Вугоршчыне, Францыі, Скандынавіі, Ангельшчыне, Італіі. Самастойныя эмісіі манетаў у раннесярэднявечнай Эўропе, абслугаванае даўней пенязямі Рымскае імперыі і, у пэўнай меры, куфічнымі дырхемамі, насілі спачатку наслядоўны характар што да рымскіх пенязяў. Пачаткі біцця нямецкіх пенязяў, найбольш пашыраных на Беларусі, звязваюцца з імём Людвіка Немца, памерлага ў 876 г. Паслей прадукцыя нямецкіх мынцаў набыла шырокі

маштаб, што спрыяла імпарту манеты, якая ставала міжнароднай, на Беларусь.

У 60-я гады 11 ст. наплыццё пенязяў сканчаецца, што было выклікана, як і ў выпадку з дырхемамі, вонкавымі прычынамі – значна ўпалі маштабы эмісіяў. Сярэдняя цана на заходнеэўрапейскія пенязі на калекцыянерскім рынку краіны складае 30 у.а.



**Чэскі пенязь Бжэціслава 1037–1055 гг.**

Вялікае значанне маюць недастаткова яшчэ вывучаныя першыя рускія манеты – **срэбнікі і золатнікі Кіеўскага княства**, нягледзячы на абмежаваны характар эмісіяў. Вядомыя золатнікі Уладзіміра Святаславіча (княжыў у 980–1015 гг.), а срэбнікі трох князёў, таго ж Уладзіміра, Святаполка, князя Тураўскага (на кіеўскім пасадзе ў 1015–1016, 1018 гг.) і Яраслава, князя Наўгародскага (срэбнікі бітыя верагодна ў Ноўгарадзе ў 1014–1015 гг.).



**Уладзіміраў срэбнік**

Повязь гэтых манетаў з Беларусяй станаўко даводзіцца іх знаходкамі на тэрыторыі краіны, найзначнейшая з якіх – Пінскі скарб 1804 г., які месціў 6 золатнікаў Уладзіміра.



**Кіеўскі золатнік**

Вядомыя і тагачасныя наслядоўніцтвы старажытнарускіх срэбнікаў, а таксама іх знаходкі далёка за межамі верагодных цэнтраў эмісіяў (Кіеў і Ноўгарад), што сведчыць аб іх часовай пашыранасці, у той час, як іх вялікая рэдчыня гаворыць аб абмежаванасці выпускаў у часе. Дзеля яе неразвязанымі застаюцца шмат пытанняў, у тым ліку магчымасць выбіцця некаторых срэбнікаў ці іх імітацыяў на землях сучаснае Беларусі. Прынамсі, існуе версія, што Святаполк выбіў першыя свае манеты ў самім Тураве.

З канца 11 стагоддзя распаўсюджваюцца грашовыя сродкі буйнога гандлю – срэбныя пруткі. Яны адліваліся ў розных рэгіёнах па розных вагавых стандартах, але мелі міжземнае хаджэнне. Найранейшай адзінкай такога кшталту была **кіеўская грыўня**, назоў якое распаўсюдзіўся і на будучыя тыпы пруткоў. Яе вагавы нарматыў быў заснаваны на пашыраным на землях Кіеўскага княства бізантыйскім фунце.



**Кіеўская грыўня**

Іншым шыракаўжываным назовам, якім пераважна менаваліся пруткі другое вагавае нормы (каля 204 гр.) – наўгародскія, быў **рубель**.

Спробы уніфікацыі грашовых сыстэмаў поўдня і поўначы адлюстроўваюць рэдкія знаходкі пруткоў "кіеўскае" формы, але "наўгародскае" вагі (гл. "кіеўскі рубель" у табліцы), а таксама даволі распаўсюджаныя **чарнегаўскія рублі** рамбавіднае формы. Апошнія маюць крыху зменшаную сярэднюю вагу ў параўнанні з пруткамі наўгародскага тыпу.



**Наўгародскі рубель**





**Чарнегаўскі рубель**

Існавала таксама практыка падзялення пруткоў на часткі дзеля атрымання фракцыйных грашовых адзінак, найчасцей **палцінаў** – паловаў рубля.

Блізкімі подле метралагічных характарыстык да наўгародскіх і чарнегаўскіх рублёў былі і срэбныя пруткі, рыхтаваныя праз татараў (саманазоў "**саўм**"), якія колькі стагоддзяў заставаліся найважнейшымі палітычна-эканамічнымі гульцамі на тэрыторыях Паўднёвае і Усходняе Русі. Эмітавалі грыўні і іншыя нашыя суседзі – палякі.

На сучасным калекцыянерскім рынку цана на срэбныя грыўні вышэйадзначаных тыпаў вагаецца каля 1000 у.а., а на палціны і іншыя буйныя фракцыі – да 600 у.а. Дробныя часткі не карыстаюцца попытам.

Захаваліся і вельмі рэдкія залатыя пруткі.

Платныя пруткі былі пашыраным грашовым сродкам у сярэднявеччы, і толькі шырокае іх выкарыстанне наступнымі

пакаленнямі ў сваёй манетнай вытворчасці абумовіла іх сучасную рэдчыню.



**Татарскі саўм**

*Пруткі срэбра суседскіх земляў*

| Тып | Час шырокага распаўсюджання | Вага, г. | Верагодная нарматыўная вага, г. |
|---|---|---|---|
| Кіеўская грыўня | Кан. 11 – сяр. 13 ст. | 140-165 | 163,73 |
| Наўгародскі рубель | 12 – пач. 14 ст. | 190-210 | каля 204,5 |
| Кіеўскі рубель | Кан. 12 – 13 ст. | ~204 | каля 204,5 |
| Чарнегаўскі рубель | 12 – 13 ст. | 190-204 | каля 204,5 |
| Татарскі саўм | 14 – пач. 15 ст. | 200-210 | |

Сярэдзіну 12 стагоддзя можна ўважаць за пачатак старажытнабеларускага мынцарства. З'яўляецца першая мясцовая грашовая адзінка – **віцебскі ізрой** (па грамаце 1298 г.) паўкруглага сячэння, якая мае адметную ад суседскіх пруткоў метралогію. Ізрой стаўся і першай грашовай адзінкай задзіночанага Вялікага Княства Літоўскага, заклаўшы пашыраную ў краіне вагавую сыстэму ў спалучэнні з двума іншымі найважнейшымі чыннікамі – полацка-віцебскай рэгіянальнай вагавай сыстэмай і праскім грошам. З 60–70-х гг. 13 ст. ізрой набывае агульнадзяржаўнае значанне і мае тэарэтычную вагу ў 108 г. Лік "на капу", які потым стане базісным для ўсіх разлікаў на доўгія стагоддзі, з'явіўся верагодна ў той жа час, бо такі вагавы нарматыў адпавядаў 60 віцебскім нагатам.



**Літоўскі ізрой**

У 14 стагоддзі, неўзабаве пасля пачатку эмісіі ў чэскай Кутняй Гары, пачынаецца прыток на беларускія землі праскіх грашоў (гл. раздзел *Праскія грошы на Беларусі*). Пазней яны занялі пазыцыю паноўнае манеты ў абарачэнні ВКЛ і наўпрост паўплывалі на далейшы развой яго грашовай сыстэмы. Замацаванню полацка-віцебскай вагавае сыстэмы на дзяржаўным узроўні ў першай палове 14 ст. паспрыяла не толькі набліжанасць да цэнтральных раёнаў дзяржавы, эканамічная моц рэгіёну і высокі ступень развою, абумоўлены традыцыйнасцю вагавых сыстэмаў, якія фармаваліся яшчэ ў 11–12 ст. Паспрыяла гэтаму і выпадковая акалічнасць – праскі грош з тэарэтычнаю вагаю ў 3,837 г. вельмі хутка (яшчэ ў першым дзесяцігоддзі 14 ст.) замеў сярэднюю вагу толькі 3,6 г., што дакладна адпавядала 1/30 частцы ізроя альбо 2 нагатам!

У канцавы перыяд вытворчасці ізрояў выпускаліся і **залатыя** платныя пруткі. Вага экзэмпляру з Драгелішскага скарбу складае 28,61 г., адкуль верагодны намінал гэтага залатніка быў 2,5 ізроя, альбо 2 залатнікі за 5 ізрояў (108x2,5 = 270 г. / 9,3 = каля 29 г., дзе 9,3 – прыблізныя суадносіны цэнаў золата і срэбра на той час).

У апошняй чвэрці стагоддзя пачынаюцца эмісіі другога гатунку літоўскіх срэбных пруткоў – **рубля** трохкутнага сячэння.

Не вылучана, што яшчэ раней у полацка-віцебскім рэгіёне выпускаліся рублі, якія цалкам паўтаралі вагу і форму наўгародскіх. Але час дыктаваў свае правілы, і ў выніку рэформы мяняецца вагавы нарматыў рубля (105 віцебскіх нагатаў).



**Літоўскі рубель**

*Першыя грашовыя адзінкі Вялікага Княства Літоўскага*

| Тып | | Час шырокага распаўсюджання | Вага, г. | Нарматыў, г. | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Віцебскі ізрой | Сяр. 12 – сяр. 13 ст. | 100–110 | 104,8 | 500 |
| | Літоўскі ізрой | Кан. 13 – сяр. 14 ст. | | 108 | |
| 2 | Літоўскі рубель | Кан. 14 ст. | 170–190 | 189 | 500 |
| | | Пач. 15 ст. | | 180 | |
| 3 | Залатнік | Кан. 13 – сяр. 14 ст. | 28,61 | каля 29 | R |

Знойдзеныя экзэмпляры літоўскіх рублёў і палцінаў пацвярджаюць тэарэтычную вагу рубля, прыблізна акрэсленую Ш. Бекцінеевам у 189 г. [3].

Магчыма, што ў пачатку 15 ст. вагавы нарматыў літоўскіх рублёў спаў да 180 г., пра што сведчаць дакументы з літоўска-наўгародскіх дачыненняў.

У другой палове 15 ст. літоўскія рублі спынілі сваё курсаванне, саступаючы дарогу заходнеэўрапейскім дукатам і новым манетам ВКЛ. У скарбах рублі і палціны знаходзяць пераважна разам з першымі манетамі княства.

У 1300 г. у Кутняй Гары чэскі кароль Вацлаў Другі пачаў эмісію **праскіх грашоў**. Гэта найбуйнейшая на свой час срэбная манета была выкананая на высокім мастацкім узроўні, дзеля чаго былі запрошаныя разьбяры штэмпеляў з Італіі. З праскае грыўні вагай 253,26 г. мела выходзіць 66 манетаў, што давала тэарэтычную вагу аднае манеты ў 3,837 г. Адлі рэальная вага грашоў Вацлава II, як і ягонага наступцы Яна Люксембурскага найчасцей ляжала ў межах 3,5–3,7 г., да чаго прычыніліся тайныя распараджэнні манархаў, якія жадалі даставаць болей прыбытку з сваёй манетнае рэгаліі.



**Грош праскі Вацлава II**

Да канца праўлення Яна I (1346 г.) дэвальвацыя праскага гроша была відаць толькі ў нязначным паніжэнні пробы да 905-е ў сярэднім. За часоў ягоных наступцаў абясцэненне манеты набывае трывалы характар, пры адначасовым пагаршэнні якасці мастацкага выканання.

Бітыя ў вялікіх колькасцях грошы разыходзіліся па ўсёй Эўропе, асабліва важную ролю адыграўшы на яе ўсходзе, які на той час не меў сваіх развітых грашовых сыстэмаў.

У Польшчы на прыклад праскага гроша каралём Казімірам Вялікім (гаспадарыў у 1333–1370 гг.) быў адбіты свой грош – кракаўскі. Ягоны дызайн імітаваў дызайн свайго прататыпа. Польская лічэбная грыўня другое паловы 14 ст. раўнялася 60 кракаўскім грашом, альбо 48 праскім. Гэтыя суадносіны (5 да 4) зацвердзіліся пасля ў ВКЛ і праіснавалі да рэформы Сцяпана Батуры ў 1578 г. Роль наступцы праскага гроша ў менаванай лічэбнай сыстэме дасталася грошу літоўскаму, насамперш лічэбнаму, а потым і манетнаму.



**Грош праскі Яна I**

Найважнейшую ролю адыгралі праскія грошы ў станаўленні грашовае сыстэмы ВКЛ. Ужо ў 14 ст. яны дасталі шырокае прызнанне ў краіне, стаўшы ў шэрагу з грыўнямі асноўным сродкам нутранога і вонкавага гандлю як з Захадам, так і з Усходам (перадусім Наўгародскай рэспублікай).



**Грош праскі Караля**

Масавы прыток праскіх грашоў на землі нашае дзяржавы прыпыняецца праз пэўны час па смерці Вацлава IV у 1419 г. Ягоныя ж грошы і ёсць найбольш пашыранымі ў манетных скарбах Беларусі, адлі ступень іх захавання – найгоршая перад грошамі ўсіх ягоных папярэднікаў.



**Грош праскі Вацлава IV**

Абмежаваныя па колькасці эмісіі новых уладароў Чэхіі сяр. 15 – сяр. 16 стст. не набралі ўжо былое папулярнасці ў ВКЛ, але манеты першых чатырох эмітэнтаў працягвалі сваё курсаванне.



**Грош праскі Уладзіслава з дынастыі Ягайлавічаў**

Асабліва гэта тычыцца грашоў Вацлава IV, бо даўнейшыя высокапробныя грошы перш за ўсё адбіраліся з абарачэння і пераплаўляліся: як у Чэхіі, гэтак і ў нас.

*Праскія грошы*

| Эмітэнт | Гады | Вага, г. | Проба, % |
|---|---|---|---|
| Вацлаў II | 1300–1305 | 3,5 – 3,78 (**3,837**) | 92,2 – 93,2 (**93,8**) |
| Ян Люксембурскі | 1311–1327 | 3,5 – 3,7 | 90,6 – 91,8 |
| | 1327–1346 | | 90,2 – 90,8 |
| Караль | 1346–1378 | 2,8 – 3,4 | 75,0 – 84,0 |
| Вацлаў IV | 1378–1419 | 2,7 – 2,9 | 61 – 63 |
| Гусіцкія з імём Вацлава IV | 1419 – каля 1422 | да 2,9 , білон (прыроўненыя да тагачасных фальсыфікатаў) | |
| Уладзіслаў Пагробак | 1453–1457 | каля 2,7 | 56,4 – 58,1 |
| Юры з Падзябрадаў | 1458–1471 | каля 2,7 | 56,4 – 58,1 (**62**) |
| Уладзіслаў з дынастыі Ягайлавічаў | 1471–1516 | 2,3 – 3,0 | 42,8 – 56,3 |
| Людвік I | 1517–1526 | 2,76 – 2,93 | 42,8 – 56,3 |
| Фердынанд I | 1527–1547 | | |

У 1547 годзе Фердынанд I назаўсёды спыніў эмісію гэтае знакамітае манеты. У табліцы ў дужках пададзеныя тэарэтычныя дадзеныя.



**Грош праскі Фердынанда**

Вялікая і больш-менш якасная манета карысталася найшыршым даверам у старажытных беларусаў і істотна паўплывала на фармаванне адметнае грашовае сыстэмы Вялікага Княства. На ёй базаваўся кошт пазнейшага літоўскага гроша ў пенязях (10:1), які праіснаваў болей за 2 стагоддзі. Праскі грош заставаўся асноўным платным сродкам краіны да канца 15 ст., не знік з абарачэння і ў шаснадцатым – стагоддзі росквіту вялікалітоўскага мынцарства.

На сучасным калекцыянерскім рынку праскія грошы якога-лень з першых чатырох уладароў у стане III каштуюць каля 30 у.а. Пры гэтым

варта зазначыць, што грошы Вацлава II часта сустракаюцца ў лепшым стане і каштуюць болей, а грошы Вацлава IV – наадварот, надзвычай рэдка ў стане, лепшым за IV–V. Апошнія ж выступаюць у аграмаднай колькасці і каштуюць не болей за колькі у.а.

Познія праскія грошы на Беларусь практычна не паступалі, іхні кошт у Чэхіі і Нямеччыне вагаецца каля 50 у.а. Вынятак складаюць рэдкія манеты Уладзіслава Пагробка.

Асобная група праскіх грашоў на беларускім рынку – грошы, контрамаркаваныя нямецкімі местамі. Гэта рабілася дзеля адрознення добрае манеты Вацлава IV ад нізкапробнага прадукту гусітаў і іншых тагачасных падробак. На грашох менавіта гэтага ўладара і сустракаюцца найчасцей контрамаркі.

Сярэдні кошт такое манеты ў Беларусі складае 10 у.а., дзеля вялікае ступені недаверу да сапраўднасці контрамарак. Недавер гэты цалкам абгрунтаваны, бо сапраўдных контрамарак на праскіх грошах у Беларусі амаль няма.



**Грош праскі з сапраўднай контрамаркай**



**Грош праскі з фальшывай контрамаркай**

# Першыя манеты Вялікага Княства Літоўскага



# Вялікакняскія эмісіі

## Манеты Альгерда і Ягайлы ў 1376–1392 гадох

Першыя манеты ВКЛ невыпадкова працяглы час ёсць прадметам навуковых спрэчак паміж даследнікамі ранняе нумізматыкі ВКЛ. У першую чаргу гэта звязана з цяжкасцю атрыбуцыі і перыядызацыі першых манетаў дзяржавы. Ананімны характар абсалютнае бальшыні з іх і адсутнасць пісьмовых звестак аб тагачасных мынцах толькі ўскладняюць гэтае пытанне. На сённяшні дзень сярод даследнікаў няма адзінае канцэпцыі наконт пачатку, храналогіі біцця і атрыбуцыі розных тыпаў манет таму ці іншаму князю.

Найбольш востра паўстала пытанне аб пачатку мынцарскай справы ў ВКЛ. Першы вялікі князь, мынцарская дзейнасць якога не выклікае сумневаў – Ягайла (1377–1381, 1382–1392 гг.). Найбольш папулярная тэорыя сярод даследнікаў сцвярджае, што першыя манеты ён пачаў біць у 1387 г., г. зн. пасля хрышчэння паганскае Літвы ў каталіцтва. Адлі шэраг фактаў прымушае перагледзець традыцыйны пункт гледжання.

За найбольш старажытны тып больш абгрунтавана ўважаць манеты з надпісам *ПЕЧАТЬ* на старабеларускай мове з аднаго боку і гротам дзіды і бізантыйскім крыжыкам з другога (**1**), якія пачалі эмітавацца яшчэ да 1387 г. Пра гэта сведчыць архаічны выгляд гэтых манетаў, вялікі памер, вага і высокая проба, не характэрная для манетаў Вітаўта, якому іх цяпер атрыбутуюць. Ужыванне кірылічных надпісаў, якія ніколі не ўжываліся на манетах, ані на пячатках вялікага князя Вітаўта, таксама сведчыць за гэта. Аб больш раннім іх паходжанні гаворыць таксама і спосаб выраблення не з дроту, як усіх больш позніх манетаў Ягайлы і Вітаўта, а выразанне з ліста. Манеты **1** сустракаюцца ў скарбах звычайна без дамешку іншых вялікалітоўскіх манетаў, за выняткам Віленскага скарбу 2002 г., дзе яны былі разам з іншымі манетамі Ягайлы, бітымі каля 1386–1388 гг., што гаворыць пра больш ранняе іх выбіццё адносна іншых манетаў ВКЛ. Найбуйнейшы скарб манетаў **1** знойдзены ў 1933 г. у прадмесці Коўны Шанцах (зараз раён гэтага места). Яго манетную частку складалі 90 манетаў гэтага тыпу і 4 найбольш раннія разнавіднасці грашоў малдаўскага гаспадара Пятра Мушата (1375–1392 гг.), бітыя паміж 1377 і 1387 гадамі.

Асаблівую каштоўнасць складаюць скарбы з літоўска-ардынскага памежжа, дзе разам з манетамі Арды, Кіеўскага і Ноўтарад-Северскага княстваў сустракаюцца і вялікакняскія. Гэтыя скарбы каштоўныя тым, што іх можна дакладна датаваць, бо на манетах Залатое Арды, якія складаюць большую частку падобных скарбаў, пазначаўся год іх

выбіцця і імя хана, а самі манеты біліся рэгулярна і ў дастатковай колькасці, што дазваляла самым "свежым" манетам трапляць у мясцовае абарачэнне і стала абнаўляцца. Паказальным ёсць аналіз Баршчоўскага скарбу (1947 г., Барыспальскі р-н, Кіеўскае вобласці), дзе сярод ардынскіх, северскіх і кіеўскіх манетаў была літоўская манета тыпу **1** (дыяметр 16 мм, вага 0,92 г.). Скарб гэты датаваны 1380 г. па наймалодшых манетах Тактамыша, якія ў ім прысутнічалі ў невялікай колькасці, што не характэрна для скарбаў, ухаваных пасля 1380 г. З гэтага вынікае, што манеты тыпу **1** пачалі біцца яшчэ да 1380 г., а не па 1392 г., як сцвярджаюць летувіскія даследнікі ранняе нумізматыкі Я. Іваноўскі і Э. Рэмецас.

У вызначэнні пачаткаў біцця гэтых манетаў, а значыць і пачаткаў вялікакняскіх эмісіяў у Вільні наагул, можа дапамагчы інтэрпрэтацыя геральдычных сымбаляў – грота дзіды і крыжа. Як вядома, манеты з надпісам *ПЕЧАТЬ* не адзіныя, на якіх прысутнічае падобная сымболіка. Гэткія ж знакі ёсць і на больш позніх манетах тыпу *Падвойны крыж / Грот з крыжам*, якія атрыбутуюць Ягайлу, і на найбольш распаўсюджаных манетах Вітаўта тыпу *Калоны (Стаўпы) / Грот з крыжам*, бітых не раней за 1392 г. Такім чынам, гэты сымбаль прысутнічае на манетах прынамсі двух уладароў адразу, што выключае яго выкарыстанне ў якасці асабістага княскага знака, пагатоў, што і Ягайла, і Вітаўт карысталіся сваімі ўласнымі гербамі – Падвойным крыжам і Калонамі адпаведна. Больш за тое, на жадных пячатках Ягайлы, Кейстута, ані Вітаўта няма падобных знакаў.

Малавераготнай ёсць таксама версія аб "зямельным" паходжанні гэтых знакаў, як "малога" герба Троцкае ці Віленскае земляў. Найбольш раннія выявы Троцкага герба – рыцара з дзідай і павезай, і Віленскага – вершніка на кані з дзідай, вядомыя з вялікай пячаткі Вітаўта, датаванай 1401–1404 гг., у той час як "грот з крыжам" вядомы як мінімум з 1380 г. Сымбаль вершніка на кані з дзідай выкарыстоўваў на некаторых сваіх пячатках і манетах вялікі князь Ягайла па 1386 г., аднак атаясамленне яго з сымболікай "грота і крыжа" ёсць даволі праблематычным.

З гістарычных жаролаў вядома, што Альгерд з прычыны варожых адносінаў з Масквой папрасіў у 1375 г. канстанцінопальскага патрыярха Філафея прызначыць для ВКЛ асобнага мітрапаліта. Падтрымліваючы Альгерда і не жадаючы канчатковага падзелу Кіеўскае мітраполіі, Філафей прыняў кампраміснае рашэнне: 2 снежня 1375 г. ён пасвяціў Кіпрыяна ў мітрапаліта "кіеўскага, рускага і літоўскага" з тым, каб ён па смерці маскоўскага мітрапаліта Аляксея аб'яднаў абедзве часткі мітраполіі, стаўшы мітрапалітам "кіеўскім і ўсяе Русі". Кіпрыян жыў у ВКЛ (Вільні, Наваградку, Кіеве), а ўлетку 1378 г. па смерці Аляксея прыехаў у Маскву, каб ачоліць аб'яднаную мітраполію, адлі быў кінуты ў вязніцу Дзмітрам Іванавічам Маскоўскім (Донскім), а потым высланы з краіны.

Верагодна, што з гэтае нагоды ўжо ў наступным 1376 г. менавіта Альгерд пачаў біць першыя манеты. Трэба адзначыць аўтарытэт асобы Альгерда, высокі імідж дзяржавы, якога яна дасягнула за яго панавання, а таксама досыць высокі ўзровень рынкавых адносінаў, які вымагаў увядзення дробнае разменнае манеты поруч з буйнымі срэбнымі пруткамі і прывазнымі праскімі грошамі, і, як вынік гэтага – біцця ўласнае манеты. Пасвячэнне асобнага мітрапаліта, безумоўна, уздымала статус Вялікага Княства як хрысціянскае дзяржавы, а Альгерда – як хрысціянскага ўладара, што адбілася на сымболіцы першых манетаў, дзе слова *ПЕЧАТЬ* увасабляла ўладу Вялікага князя, а грот з крыжам быў знакам Кіеўскага мітрапаліта, ці мітраполіі наагул, а таксама паказваў хрысціянскасць Вялікага князя. Патронам Кіева із старажытных часоў быў Арханёл Міхал, які трымае дзіду. Зразумела, змяшчэнне постаці арханёла на манетах вымагала вялікага майстэрства ад мынцараў, таму быў прыняты спрошчаны варыянт – грот дзіды і крыж, якія найбольш поўна перадавалі хрысціянскі характар гэтага сымбалю і атаясамленне з Арханёлам Міхалам. Таксама нельга выключаць і вельмі папулярны ў тыя часы культ Святога Юр'я, які таксама меў дзіду, што магло паўплываць на крышталізацыю гэтага сымбалю.

Пасля захопу ўлады Кейстутам на пачатку 1381 г. і зняволеннем Ягайлы, біццё манетаў у ВКЛ прыпыняецца. Па аднаўленні сваёй улады ў 1382 г., Ягайла, як праваслаўны ўладар, працягвае біццё манетаў, якія захавалі свой ранейшы выгляд (**1b**), але відавочна страцілі ў якасці. Сярэдняя іх вага стала каля 0,7 г. Біццё гэтых манетаў працягвалася да пачатку 1386 г.

З 1386 г. у мынцарстве ВКЛ пачынаецца новы этап. Гэтаму спрыяў новы статус Ягайлы, які прыняў каталіцтва і адначасова стаў каралём Польскім пад імём Уладзіслава II. Пэўна, з гэтага ж 1386 г. пачынаецца біццё новых пенязяў з партрэтам князя на адным баку і лявом, над якім змешчана пляцёнка. Манеты гэтага тыпу маюць лацінамоўную легенду, выкананую гатычнымі літарамі вакол партрэта князя ў кароне: *MAGNA REG IHA*, што чытаецца як "вялікага караля Ягайлы" (**2a**). Даволі загадкавымі ёсць сымбалі на другім баку – леў на чатырох лапах, над ім пляцёнка. Сюжэт лява вельмі распаўсюджаны на манетах Ягайлы. Ён прысутнічае на чатырох з дзевяці вядомых на сёньняшні дзень яго пенязяў. Усе гэтыя манеты аб'ядноўвае тое, што яны былі выбіваныя паміж 1386 і 1392 гадамі – перыядам намесніцтва ў Вялікім Княстве Скіргайлы Альгердавіча. Вядомая віслая пячатка Скіргайлы, якой ён карыстаўся яшчэ ў 1380 г., дзе з аднаго боку была выява крыжа, а з другога боку леў. Вядомая таксама ягоная пячатка 1387 г., на якой была выява збройнага вершніка на кані з дзідай і тарчай, а на тарчы таксама выява лява. Такім чынам, леў ёсць нічым іншым, як асабістым

гербам Скіргайлы, а змяшчэнне яго на вялікакняскіх манетах паказвае высокі статус Скіргайлы, як намесніка вялікага князя. Пляцёнка над лявом, верагодна, была перанятая з кіеўскіх ці залатаардынскіх манетаў, дзе яна шырока выкарыстоўвалася вылучна ў якасці дэкаратыўнага матыву і ніколі як тамга хана, што не дазваляе разглядаць гэты знак, як сымбаль залежнасці чаго-кольвек ад Залатое Арды. Партрэтныя пенязі выкананыя на даволі высокім мастацкім узроўні, маюць сярэднюю вагу каля 0,8 г. і высокую пробу. Адлі, не ўсе манеты гэтага тыпу маюць лацінамоўныя легенды і высокі мастацкі ўзровень выканання. Большая частка партрэтных пенязяў Ягайлы мае стылізаваны партрэт князя і нечытальныя літары вакол яго (**2b**), з чаго можна зрабіць выснову аб няведанні лацінскае мовы разьбяром штэмпеляў. Асноўная колькасць вядомых пенязяў гэтага тыпу паходзіць з раскопак Дольняга Замка ў Вільні, дзе толькі ў складзе скарба, знойдзенага на яго тэрыторыі, было 18 партрэтных манетаў. Вядомыя таксама і адзінкавыя знаходкі, якія пераважна паходзяць з Віленшчыны. Адзін партрэтны пенязь знойдзены на Гарадзеншчыне ў 2006 г. (вага 0,69 г., тут публікуецца ўпершыню), яшчэ адзін на Валыні (Украіна). Гэты тып манетаў біўся каля 1386–1388 гг.



**Манета тыпу 2b, знойдзеная на Гарадзеншчыне**

Тыпалагічна блізкім да партрэтных пенязяў ёсць наступны тып манетаў, дзе з аднаго боку змешчаная легенда *ПЕЧАТЬ*, як на ранніх манетах Ягайлы, а з другога – усё той жа Леў з пляцёнкай (**3**). Усе вядомыя манеты гэтага тыпу выкананы на даволі нізкім мастацкім узроўні, літары легенды маюць розны памер і займаюць амаль усё поле манеты, часта малачытальныя. Асноўны арэал знаходак гэтых манетаў абмежаваны Віленшчынай, бальшыня знойдзеная падчас археалагічных раскопак Дольняга Замка ў Вільні. Вядомыя таксама знаходкі манетаў гэтага тыпу па-за межамі тэрыторыяў, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ. Адна з іх знойдзеная пры раскопках гарадзішча Локстэне (Латва), другая кагадзе знойдзеная каля Старыцы (Цвярская вобласць

Pacei) [7, 6. 55–57]. У знакамітым скарбе Дольняга Замка ў Вільні 2002 г., датаваным намі каля 1388 г. [6], манетаў тыпу **3** няма, адлі ёсць тыпалагічна і метралагічна блізкія партрэтныя пензі ў значнай колькасці, што дазваляе аднесці пензі тыпу **3** да больш позніх эмісіяў Ягайлы ў 1388–1390 гадох.

Унікальная партрэтная манета была не гэтак даўна знойдзеная блізка старажытных Гальшанаў. На ёй з аднаго боку змешчаны партрэт князя, з другога – Падвойны крыж у чатырохкутнай тарчы і кірылічны надпіс вакол, з якога чытаецца толькі тры літары *ЯГА* (**4**). Манета мае вагу 0,479 г. і 960 пробу [2]. Гэты ўнікальны тып манетаў можна аднесці да эмісіяў Ягайлы каля 1388–1389 гг.



**Унікальная манета тыпу 4 (з калекцыі Юр'я Барэйшы)**

Пры раскопках тэрыторыі Віленскага Дольняга Замку былі выяўленыя і іншыя тыпы ранніх манетаў ВКЛ, аднесеныя да эмісіяў Вялікага князя Ягайлы. Некаторыя з іх больш нідзе не сустракаюцца. Перш за ўсё гэта пензі з арлом і лявом (**5**). Гэтых манетаў вядома дзве, адна з іх была знойдзена ў складзе скарбу Дольняга Замку, другая, як адзінкавая знаходка, таксама паходзіць з раскопак гэтага ж замку. Нажаль, абедзве пашкоджаныя, што не дазваляе ўсебакова іх даследваць. Як ужо гаварылася вышэй, леў ёсць асабістым гербам Скіргайлы, а выява арла вельмі нагадвае герб Польскага каралеўства, які выступае на шэрагу каронных манетаў, бітых за часоў караля Ягайлы. Асаблівасцю арла на літоўскім пензі ёсць брак кароны, што не дазваляе ўважаць яго польскім гербам. Адлі, відавочна, што гэтая выява мае непасрэднае дачыненне да Ягайлы, які ў 1386 г. стаў каралём Польскім.

Таксама з тэрыторыі Дольняга Замка паходзіць унікальная манета, на якой з аднаго боку ў трохкутнай тарчы змешчаны падвойны крыж – асабісты герб Ягайлы, з другога – леў – асабісты герб намесніка Скіргайлы (**7**). Манета мае даволі адметны стыль выканання. Абапал тарчы з падвойным крыжам і над ёй размешчаныя тры колцы, а на персях лява – "краты". Манета мае дыяметр 15,7 мм і вагу 0,535 г. Метралагіч-

ныя характарыстыкі дазваляюць аднесці яе прыблізна да 1388–1389 гадоў.

Наступным тыпам манетаў Ягайлы ёсць пенязі з падвойным крыжам і рыбай, скручанай у колца, вакол якой – кірылічная легенда *КНЯЗЬ ЯГА*. Да знаходкі Віленскага скарбу 2002 г. былі вядомыя толькі дзве манеты гэтага тыпу. Адна з іх паходзіць з Міткіскага скарбу, знойдзенага ў 1933 г. Другая манета знойдзеная ў 1996 г. падчас археалагічных раскопак на гарадзішчы Шаймінішкелі. Гэтыя манеты маюць адрозненні ў сваім дызайне, што дазволіла вылучыць два падтыпы. На адной з іх вакол тарчы з падвойным крыжам змешчаны арнамент з кропак (**6a**), на другой – арнамент з "сэрцападобных" пляцёнак (**6b**). "Сэрцападобныя" пляцёнкі, як дэталь дэкору манеты, найверагодней пераняты з залатаардынскіх дзенгаў, на якіх яны выконвалі вылучна дэкаратыўную ролю для аздаблення акантоўкі манеты.

Найбольшая колькасць вядомых на сёння манетаў тыпу **6** паходзіць з скарбу Віленскага Дольняга Замку – 16, з якіх падтыпу **a** было 4 манеты, а падтыпу **b** – 12 [54, б. 62–64].

Даволі загадкавай ёсць сымболіка рыбы-пярсцёнка, змешчанае на рэверсе манеты. Паводле Э. Рэмецаса, яна мае хрысціянскі сэнс. У 1387 г. было створана Віленскае каталіцкае біскупства, а 17 красавіка 1388 г. папа Урбан VI афіцыйна вызнаў Вялікае Княства каталіцкай краінай. Пэўна, з гэтае нагоды і быў выбіты гэты тып манетаў каля 1388 г. Вельмі рэдкія знаходкі пенязяў гэтага тыпу пацвярджаюць кароткі тэрмін іх выбіцця, які цягнуўся не болей за год.

Яшчэ адным цікавым тыпам манетаў Ягайлы ёсць пенязі *Падвойны крыж / Грот дзіды з крыжыкам* (**8**). Вядома толькі дзве манеты гэтага тыпу, з якіх адна паходзіць з тэрыторыі Дольняга Замка ў Вільні, а месца знаходкі другой невядомае. Гэты тып мае падабенства з найбольш раннімі манетамі Ягайлы, з якімі іх лучыць сымболіка грота дзіды з крыжам, адлі замест слова *ПЕЧАТЬ* яны нясуць Ягайлаў герб – Падвойны крыж. Вагі вядомых манетаў – 0,42 і 0,48 г., што сведчыць за іх выбіццё ў канцы 1380-х – пачатку 1390-х гг. Як ужо казалася раней, грот дзіды з крыжам мае хрысціянскае, праваслаўнае паходжанне, якое можна звязаць з прызначэннем мітрапалітам Літоўскім Кіпрыяна. Нягледзячы на афіцыйны статус ВКЛ як каталіцкае дзяржавы, абсалютна большая частка насельніцтва заставалася праваслаўнай, з чым прыходзілася лічыцца Ягайлу, а потым і Вітаўту. Мітрапаліт Кіпрыян зусім не страціў сваіх пазыцыяў у дзяржаве, а наадварот, у 1389 г. рашэннем канстанцінопальскага патрыярха Антонія абвешчаны мітрапалітам "кіеўскім і ўсяе Русі". Такім чынам, ВКЛ афіцыйна прызнавалася канстанцінопальскім патрыярхам за цэнтр праваслаўя ўсіх Рускіх земляў, улучна з Масквой. Магчыма, менавіта з гэтае нагоды каля 1389–1390 гг. былі выбітыя манеты з сымболікай Кіеўскай мітраполіі.

Найбольш распаўсюджаным сярод усіх тыпаў манетаў Ягайлы ёсць тып *Падвойны крыж / Пагоня*. Гэты тып дзеліцца на тры падтыпы подле іканаграфічнае выявы Пагоні.

Манеты першага падтыпу маюць на адным баку выяву Падвойнага крыжа ў трохкутнай тарчы і легенду *+ПОКНЯЗЬ ЯГА*, якая чытаецца як "пячаць князя Ягайлы", а на другім выяўлены вершнік на кані з дзідай і такой самай легендай *+ПОКНЯЗЬ ЯГА* (**9a**). Манеты другога падтыпу адрозніваюцца іншым выглядам Пагоні, блізкім да "класычнага" або "Ягайлава" – вершнік трымае перад сабой меч (**9b**), маюць легенду *КНЯЗЬ ЯГА* з абодвух бакоў манеты. Пенязі трэцяга падтыпу маюць "архаічную" Пагоню, дзе вершнік трымае меч адведзенай за спіну рукой (**9c**) і гэткую ж легенду, як і манеты другога падтыпу.

Пенязі **9** біліся адносна працяглы час паміж 1387 і 1392 гадамі. Найноўшыя даследванні, якія абапіраюцца на аналіз найбольш вядомых скарбаў, дзе сустракаюцца манеты тыпу *Падвойны крыж / Пагоня* – Віленскага, Міткіскага і Чырвонадворскага, паказваюць, што манеты гэтага тыпу мелі тры перыяды выбіцця з паступовым пагаршэннем іх якасці і змяненнем манетнай стапы [6]:

1 перыяд, каля 1387–1388 гг. Біліся пенязі вылучна падтыпу **9a**, характэрнай асаблівасцю якіх ёсць высокі мастацкі ўзровень выканання, высокая вага, якая імкнецца да 0,7–0,75 г. і высокая проба каля 745–955. Пагоня ў гэты перыяд павернутая толькі ўлева.

2 перыяд, каля 1389–пач. 1390 гг. Біліся пенязі падтыпу **9b**. Пенязі гэтага перыяду важаць каля 0,55 г., даволі якасна выкананыя, часткова чытаецца легенда, проба засталася нязменнай. Пагоня павернута вылучна ў левы бок.

3 перыяд, каля 1390–1392 гг. Пенязі гэтага перыяду найбольш распаўсюджаныя адносна першых двух падтыпаў, складаюць каля 80% ад агульнай колькасці вядомых манет **9** тыпу. Асаблівасцю гэтага перыяду ёсць з'яўленне новага тыпу Пагоні – "архаічнай", з мячом у руцэ за спінай вершніка. Пагоня найчасцей павернутая ў правы бок, але вядомы варыянт і з левым накірункам Пагоні. У гэты перыяд таксама біліся пенязі з папярэднімі тыпамі Пагоні – з дзідай і мячом перад вершнікам, павернутымі ў абодва бакі. Усе гэтыя манеты маюць меншы дыяметр, нізкі ўзровень выканання, нізкую сярэднюю вагу каля 0,37 г., часта нізкую пробу, наяўнасць легенды ледзьве прасочваецца, часта зусім не чытаецца, ці цалкам адсутнічае.

Рэзкае зніжэнне якасці манетаў Ягайлы цягам 1390–1392 гадоў можна патлумачыць станам грамадзянскае вайны паміж Ягайлам і Вітаўтам за ўладу ў ВКЛ, што часткова спрычынілася да хуткага псавання манеты. Да 1390 г. пенязі мелі даволі стабільную вагу і высокую пробу, а затым хутка замясціліся ў абарачэнні менш якаснымі. Другое, асабліва ў часе вайны адчуваўся дэфіцыт срэбра, спрычынены бракам

уласных радовішчаў. І трэцяе, як вядома з польскіх жаролаў, кароль Ягайла ў польскіх "справах манетарных кіраваўся вылучна даходам" [47, б. 159]. Безаглядна зніжаць якасць манетаў заміналі яму найболей каралеўскія Паны-Рада. З разгляданага становішча відавочна, у якой ступені мынцарству Ягайлы было характэрнае псуццё манеты.

Колькі словаў трэба сказаць аб наміналах манетаў, бітых паміж 1376 і 1392 гг. Як ужо гаварылася, за першыя агульнадзяржаўныя манеты ВКЛ найбольш абгрунтавана ўважаць тып **1**. Аднак, гэтая група манетаў неаднародная па метралагічных паказніках, а перадусім па вазе. Найбольш раннія экзэмпляры, бітыя да 1381 г., маюць сярэднюю вагу каля 1,2 г. пры ваганні 0,89–1,45 г., высокую пробу каля 937 праміле. Фактычна, яны адпавядалі палове тагачаснага праскага гроша. За гэта таксама сведчыць той факт, што некаторыя манеты тыпу **1** перабітыя з рускіх грошыкаў з часоў Людвіка Вугорскага, бітых у Львове да 1382 г. Гэткі "паўгрош" з легендай *ПЕЧАТЬ* і слядамі перабіцця знойдзены ў складзе Шанцаўскага скарбу (вага 1,31 г.).



**Манета тыпу 1 з слядамі перабіцця**

Адлі манеты гэтага ж тыпу, бітыя на пачатку 1380-х гадоў, маюць ужо сярэднюю вагу каля 0,7 г. Відавочна, нельга гаварыць аб увядзенні новага наміналу манетаў пры захаванні іх абсалютна ідэнтычнага вонкавага выгляду, бо гэта выключае магчымасць іх адрозніць паспалітаму люду, што калі б не паралізавала рынкавыя адносіны, то вельмі б іх ускладняла. Такім чынам, усе манеты тыпу **1** павінны належаць да аднаго наміналу.

Тое ж самае можна сказаць і пра манеты, бітыя паміж 1386 і 1392 гадамі, асабліва *Падвойны крыж / Пагоня*, якія маюць дыяпазон вагаў 0,18–0,74 г. Што да астатніх тыпаў манет Ягайлы, то яны маюць прыкладна аднолькавую вагу, якая з цягам часу нязначна паніжалася і высокую пробу каля 750–950, што ізноў жа не дазваляе вылучыць сярод іх нейкія палавінныя ці кратныя ўдвая наміналы. За гэта таксама сведчыць надзвычайна вялікая колькасць тыпаў манет Ягайлы. Толькі асноўных тыпаў, не лічачы падтыпы, бітых за кароткі адцінак часу

паміж 1386 і 1392 гадамі, ёсць восем, а калі браць пад увагу іх даволі нізкую якасць выканання і нязвыкласць насельніцтва да манетаў наогул, амаль цалкам можна адпрэчыць магчымасць існавання сярод гэтых тыпаў розных наміналаў.

Апошнія манеты Ягайлы, асабліва з 1390–1392 гг., маюць нізкую вагу, пробу, блізкую пенязям Вітаўта, а вонкавы выгляд некаторых з іх, як, напрыклад, манетаў тыпу *Падвойны крыж / Грот дзіды з крыжам*, амаль цалкам адпавядае дызайну пенязяў Вітаўта *Калоны / Грот дзіды з крыжам*, што таксама не дазваляе гаварыць пра іх розныя наміналы.

З вышэйсказанага можна зрабіць выснову, што ўсе манеты Ягайлы складаюць адзін намінал, які першапачаткова адпавядаў палове праскага гроша, адлі з цягам часу значна пагоршыўся ў выніку псавання: у сярэдзіне 1380-х гадоў ён складаў каля 1/3–1/4 праскага гроша, а на пачатку 1390-х гадоў ужо каля 1/10 праскага гроша.

Што да назова наміналу, то ў гістарачных жаролах фігуруюць "пенязі" і ніколі "паўгрошы" ці "квартнікі". Аб старажытным паходжанні тэрміна "пенязь" гаворыць таксама выкрыстанне яго ў збіральным сэнсе грошай наогул. Першыя буйныя пенязі не зусім правільна называць паўгрошамі, бо яны толькі фактычна адпавядалі палове праскага гроша, але заставаліся пенязямі. Таксама супраць тэрміна "паўгрош" сведчыць вонкавы выгляд першых вялікалітоўскіх манетаў, які не наследуе эўрапейскім квартнікам, а ёсць цалкам арыгінальным і, відавочна, самастойным наміналам, што меў розныя курсы ад 1/2 да 1/10 адносна праскага гроша ў розныя часы. Толькі ў выніку рэформы Вітаўта 1392/93 гг. пенязь быў трывала прывязаны ў прапорцыі 10:1 да праскага гроша, які набыў вельмі шырокае распаўсюджанне ў ВКЛ. Грашовая сыстэма ВКЛ фактычна складалася з двух асноўных наміналаў – прывазнога праскага гроша і разменнага мясцовага пенязя.

| **Альгерд, Ягайла. ПЕНЯЗЬ** | | |
|---|---|---|
| 1<br>a | | Av ПЕЧАТЬ<br>Rv Грот дзіды і крыжык<br>Вільня, каля 1376–1381 гг., срэбра, дыяметр 16–18 мм, вага 0,89–1,45 г. (сярэдняя вага каля 1,18 г.), проба каля 937 |
| 1<br>b | | Av ПЕЧАТЬ<br>Rv Грот дзіды і крыжык<br>Вільня, каля 1382–1385 гг., срэбра, дыяметр 12,5–14 мм, вага 0,59–0,81 г. |

| Ягайла. ПЕНЯЗЬ | | |
|---|---|---|
| 2 a | | Av Партрэт князя ў кароне + REG IHA MAGNA<br>Rv Леў, над ім пляцёнка<br>Вільня, каля 1386 г., срэбра, дыяметр 15–16,5 мм, вага 0,72–1,05 г. |
| 2 b | | Av Партрэт князя ў кароне, псеўдалегенда альбо брак легенды<br>Rv Леў, над ім пляцёнка<br>Вільня, каля 1387–1388 гг., срэбра, дыяметр 13–15 мм, вага 0,50–0,67 г., проба каля 812–870 |
| 3 | | Av ПЕЧАТЬ<br>Rv Леў, над ім пляцёнка<br>Вільня, каля 1388–1390 гг., срэбра, дыяметр 14–17 мм, вага 0,53–0,89 г., проба 750–950 |
| 4 | | Av Партрэт князя<br>Rv Падвойны крыж у чатырохкутнай тарчы, кірылічны надпіс ...ЯГА<br>Вільня, каля 1388–1389 г., срэбра, дыяметр каля 15 мм, вага 0,479 г., проба 960 |
| 5 | | Av Леў, па коле кірылічны надпіс<br>Rv Арол, па коле кірылічны надпіс<br>Вільня, каля 1387–1388 гг., срэбра, дыяметр 14–15 мм, вагі вядомых (пашкоджаных) манетаў – 0,264; 0,278 г. |
| 6 a | | Av Падвойны крыж у трохкутнай тарчы, арнамент з кропак<br>Rv "Рыба-пярсцёнак", па коле легенда: КНЯЗЬ ЯГА<br>Вільня, каля 1388 г., срэбра, дыяметр 12–15 мм, вага 0,35–0,62 г. |
| 6 b | | Av Падвойны крыж у трохкутнай тарчы, арнамент з "сэрцападобных" пляцёнак<br>Rv "Рыба-пярсцёнак", па коле легенда: КНЯЗЬ ЯГА<br>Вільня, каля 1388 г., срэбра, дыяметр 12–15 мм, вага 0,35–0,62 г. |

| | | |
|---|---|---|
| 7 | | Av Падвойны крыж у тарчы, кірылічная легенда<br>Rv Леў з "кратамі" на персях<br>Вільня, каля 1388–1389 гг., срэбра, дыяметр 15,7 мм, вага 0,535 г. |
| 8 | | Av Падвойны крыж у тарчы<br>Rv Грот дзіды і крыжык<br>Вільня, каля 1389–1390 гг., срэбра, вага 0,42–0,48 г. |
| 9 a | | Av Вершнік на кані з дзідай, +ПоКНЯЗЬ ЯГА<br>Rv Падвойны крыж у тарчы, +ПоКНЯЗЬ ЯГА<br>Вільня, каля 1387–1392 гг., срэбра, дыяметр 12–17 мм, вага 0,22–0,74 г., проба 745–955 |
| 9 b | | Av Пагоня (рука з мечам наперадзе вершніка), КНЯЗЬ ЯГА<br>Rv Падвойны крыж у тарчы, КНЯЗЬ ЯГА<br>Вільня, каля 1389–1392 гг., срэбра, дыяметр 12–14 мм, вага 0,18–0,62 г., проба 745–955 |
| 9 c | | Av Пагоня (рука з мечам за спінай вершніка), КНЯЗЬ ЯГА<br>Rv Падвойны крыж у тарчы, КНЯЗЬ ЯГА<br>Вільня, каля 1390–1392 гг., срэбра, дыяметр 12–14 мм, вага 0,22–0,46 г., проба 560–940 |

## Манеты Вітаўта Вялікага ў 1392–1430 гадох

З прыходам да ўлады ў краіне Аляксандра І Вітаўта ў 1392 годзе пачынаецца новы перыяд манетнае справы Вялікага Княства. Найбольш ранімі і распаўсюджанымі манетамі Вітаўта ёсць пенязі тыпу *Калоны / Грот дзіды з крыжам* (**10**). Гэта маленькія манеткі сярэдняй вагой каля 0,28 г., пры ваганні непашкоджаных экзэмпляраў 0,14–0,50 г., абсалютная бальшыня якіх ляжыць у дыяпазоне 0,24–0,33 г. Яны біліся з раздушанага срэбнага дроту – па тэхніцы, характэрнай для ўсіх ранніх манетаў ВКЛ за выняткам першых пенязяў *ПЕЧАТЬ / Грот дзіды з крыжам*, якія выразаліся з ліставога срэбра.

Пенязі *Калоны / Грот дзіды з крыжам* сталіся першай сапраўды масавай агульнадзяржаўнай манетай у ВКЛ. Найбольшая колькасць гэтых манетаў выяўлена на Віленшчыне і на Валыні ў складзе скарбаў і шматлікіх адзінкавых знаходак. У Беларусі найбольш распаўсюджаныя на Гарадзеншчыне, вядомыя таксама адзінкавыя знаходкі на Віцебшчыне. Найбуйнейшыя вядомыя скарбы – Луцкі 1898 г. (агульная колькасць манетаў не вызначалася, але па падліках даследнікаў перавышала 2800 пенязяў), і Віленскі 1941 г. – каля 2000 пенязяў гэтага тыпу. Улічваючы іншыя скарбы і адзінкавыя знаходкі, агульная колькасць вядомых на сённяшні дзень манетаў *Калоны / Грот дзіды з крыжам* перавышае 5000. Разам з пенязямі Вітаўта ў абсалютнай бальшыні скарбаў прысутнічалі праскія грошы ў значнай колькасці.

Што тычыцца сымболікі манетаў, то Калоны – гэта асабісты герб Вітаўта, а грот з крыжам, як ўжо гаварылася, ёсць сымбалем мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Русі Кіпрыяна. Змяшчэнне гэтага сымбалю на манетах Вітаўта на першы погляд выглядае даволі дзіўным. Але з гістарычных жаролаў вядома пра асаблівыя дачыненні паміж Вітаўтам і Кіпрыянам. Менавіта Кіпрыян вянчаў Вітаўтаву дачку Соф'ю з Маскоўскім князем Васілём Дзмітравічам. На патрабаванне Вітаўта Кіпрыян пазбавіў сана тураўскага біскупа Антонія, які падбухторваў татарскага хана Шадыбека да нападаў на месты ВКЛ. Кіпрыян быў прыняты Вітаўтам у Вільні ў 1404 г., у 1405 г. прысутнічаў на сустрэчы Вітаўта з Ягайлам. Больш за тое, Кіпрыян спрыяў надзвычай сяброўскім стасункам паміж ВКЛ і Масквой, з зяцем Вітаўта Васілём, якія рэзка сапсаваліся пасля смерці Кіпрыяна ў 1406 г. Таму зусім не дзіўна, што Вітаўт услед за Ягайлам змяшчаў на сваіх пенязях Грот з крыжам.

Біліся першыя пенязі Вітаўта каля 1392/93–1401 гг. (магчыма, верхняя мяжа была крыху шырэйшая, але не сягала за 1406 г.) адразу ў двух цэнтрах – на Валыні ў Луцку і ў Вільні. Толькі так можна патлумачыць лакальныя масавыя знаходкі ў азначаных цэнтрах. Пасля захопу ўлады ў 1392 г. Вітаўт парваў усе адносіны з Ордэнам, у выніку чаго былы хаўруснік ператварыўся ў грознага ворага, а над сталіцай навісла рэальная магчымасць яе страты. У гэткіх складаных умовах праца Віленскай мынцы была вельмі небяспечнай з-за рэальнае магчымасці згубы перш за ўсё сыравіннага срэбра, неабходнага для вядзення вайны. Таму не дзіўна, што мынца была часова пераведзена далей ад Ордэну – на Валынь, асабістае ўладанне Вітаўта, дзе ў Луцку і пачалося выбіццё пенязяў тыпу *Калоны / Грот дзіды з крыжам*. Верагодна, у другой палове 1390-х гадоў мынца зноў запрацавала ў Вільні, пра што сведчаць даволі шматлікія знаходкі манетаў гэтага тыпу на Віленшчыне і суседняй Трочшчыне.

Наступную вялікую групу манетаў Вітаўта складаюць пенязі тыпу *Калоны / Пагоня*. З'яўленне дзяржаўнага герба ВКЛ на манетах гэтага

князя можна звязаць з атрыманнем афіцыйнага тытула Вялікага князя Літоўскага ў 1401 г. Для выразання новых штэмпеляў у Вільню былі запрошаныя найлепшыя майстры. Падабенства ў дызайне і метралогіі з смаленскімі пенязямі Вітаўта, а таксама высокая якасць выканання першых манетаў гэтага тыпу дазваляе меркаваць, што яны былі зробленыя тымі ж мынцарамі, што працавалі ў Смаленску.

У 1985 г. пры археалагічных даследваннях у Бячах (Вількамірская зямля, Летува) знойдзены пенязь, з аднаго боку якога выяўленыя Калоны, абведзеныя па контуры, а з другога – Пагоня, павернутая ўправа. Пенязь выбіты на манетным кружку правільнае круглае формы, выкананы на высокім мастацкім узроўні, мае дыяметр 14,7 мм і важыць 0,451 г. Дзве манеты падобнага тыпу былі знойдзеныя падчас археалагічных раскопак у Вільні ў 1991 і 1997 гадох. Яшчэ чатыры манеты былі знойдзеныя пры археалагічным даследванні тэрыторыі Віленскага Дольняга замку ў 2002 г. Характэрнымі асаблівасцямі ўсіх гэтых пенязяў ёсць наяўнасць мынцарскіх знакаў на баку з Пагоняй – "чатырохлісніка" над Пагоняй і "трылісніка" пад ёй. Пенязі, знойдзеныя ў Вільні, маюць аднолькавы дызайн з Бяцкім пенязем, але выразна адрозніваюцца сваёй метралогіяй: маюць сярэдні дыяметр каля 12 мм і сярэднюю вагу каля 0,23 г. Пры даследванні маленькіх пенязяў аказалася, што іх пробы маюць высокія паказнікі – 844 і 878. Патлумачыць гэта можна тым, што вялікі пенязь мае меншую пробу (пра што сведчыць яго дрэнная захаванасць), якая кампенсавалася большай вагай і дыяметрам. Храналагічна, маленькія пенязі (**11a**) біліся перад тыпалагічна падобнымі ім вялікімі (**11b**), і ўсе вельмі абмежаванымі накладамі. З'ява гэтая не ўнікальная і знаходзіць аналагі ў суседняй Польшчы, дзе вядомыя маленькія, адносна высокапробныя пенязі Ягайлы з Падвойным крыжам, бітыя да 1394 г., і такія ж самыя буйныя, але нізкапробныя, выбітыя каля 1395 г.



**Манета тыпу *Калоны / Пагоня*, знойдзеная каля старадаўняга Нясвіжа ў 2004 г. (адзінкавая знаходка, вага 0,42 г.)**

Да тыпу *Калоны / Пагоня* адносяцца і засталыя, досыць распаўсюджаныя пенязі з мынцарскімі знакамі ў цэнтры Калонаў і каля іх і "архаічнай" ці "Вітаўтавай" Пагоняй (скіраваная ў правы бок, рука з

мечам за спінай вершніка). Гэта цэлая група падтыпаў, якія розняцца міжсобку толькі знакамі, змешчанымі ў цэнтры Калонаў ці каля іх. Метралагічна ўсе яны вельмі блізкія, маюць дыяметр каля 14,7 мм і вагу каля 0,4 г. Асноўным арэалам іх распаўсюджання ёсць Віленшчына і Троччына, дзе знойдзеныя шматлікія скарбы і вялікая колькасць адзінкавых знаходак.

Вядома не менш за 8 скарбаў, у якіх сустракаюцца пенязі *Калоны / Пагоня*. Абсалютная іх бальшыня месцілі праскія грошы (5 з 8), і толькі ў адным (Віленскі 1941 г.) гэты тып манетаў сустракаецца разам з ранейшымі пенязямі Вітаўта *Калоны / Грот дзіды з крыжам*. Пры археалагічных раскопках тып *Калоны / Пагоня* найбольш часта сустракаецца з тыпам *Калоны / Грот дзіды з крыжам* ці асобна, і ніколі – з пенязямі Ягайлы. У Беларусі сустракаецца пераважна на Гарадзеншчыне, вядомыя знаходкі на Меншчыне, Віцебшчыне і Гомельшчыне. Адзінкавая знаходка тыпу *Калоны / Пагоня* зарэгістравана на Украіне пры археалагічных даследваннях у Кіеве. Агульная колькасць вядомых манетаў гэтага тыпу перавышае 700.

Даволі нізкая якасць выканання гэтых пенязяў дазволіла некаторым даследнікам інтэрпрэтаваць знакі ў цэнтры і каля Калонаў як гатычныя літары, прычым як ініцыялы розных вялікіх князёў, што дало падставы для атрыбуцыі пенязяў тыпу *Калоны / Пагоня* князям ад Вітаўта да Казіміра [55, б. 29–32].

Даследванні, праведзеныя А. Грамыкам, паказваюць, што адзінай гатычнай літарай, якая сапраўды сустракаецца ў цэнтры Калонаў, ёсць К. Усе вядомыя віды гэтых манетаў можна падзяліць на чатыры асноўныя падтыпы, подле знакаў, змешчаных у цэнтры Калонаў і каля іх:

1. У цэнтры і пад Калонамі знак ꞁꞁ ( ці люстэркава павернуты ꞁꞁ ), над Калонамі, з якога-лень боку ад іх, знак ꞁ (сустракаюцца павернутыя знакі ꞁ, ꞁ, ꞁ) (**11c**);
2. У цэнтры Калонаў маленькая гатычная 𝔨 [К], пад Калонамі ꞁꞁ (**11d**);
3. У цэнтры Калонаў гатычная вялікая 𝔨 [К], пад Калонамі знак ꞁꞁ, над Калонамі ꞁ (**11e**);
4. У цэнтры Калонаў гатычная вялікая 𝔨 [К] (часта люстэркава павернутая 𝔨 ) (**11f**).

Вышэйзгаданыя знакі дзеля няякасных адбіткаў і нізкага мастацкага ўзроўню выканання штэмпеляў часта прымаюцца даследнікамі за розныя гатычныя літары, якімі насамрэч не ёсць.

Подле свайго падабенства, усе гэтыя падтыпы, разам з двума відамі высокамастацкіх пенязяў з “контурнымі” Калонамі, складаюць адзіны тып *Калоны / Пагоня*, эмітаваны Вітаўтам у першай траціне 15 ст.

Абсалютная бальшыня сучасных даследнікаў ранняе нумізматыкі ВКЛ атрыбутуюць тып *Калоны / Пагоня* Казіміру Ягайлавічу, біты

нібы з 1450-х гадоў, што на наш пагляд ёсць няправільным. Па-першае, манеты *Калоны / Пагоня* ніколі не сустракаюцца разам з пенязямі Аляксандра II Казіміравіча (1492–1506 гг.), што ёсць даволі дзіўным, калі ўлічваць, што тып *Калоны / Пагоня* беспасярэдне папярэднічаў пенязям Аляксандра. Па-другое, становіцца незразумелым, чаму Аляксандрам было зменена абсалютна ўсё ў мынцарстве ВКЛ: спосаб выраблення не з дроту, а з ліста металу; дызайн, які амаль стагоддзе быў нязменным (Пагоня на пенязях Аляксандра ўжо класычная, павернутая ў левы бок, рука з мечам – над галавой вершніка, зніклі Калоны, а замест іх з'явіўся Арол); зменена манетная стапа і проба. Наўрадці ўсе гэтыя змены маглі рэвалюцыйна адбыцца ў 1492 г. Па-трэцяе, літару К у цэнтры Калонаў нельга ўважаць ініцыялам Казіміра, бо ў такім выпадку L-падобныя знакі ў цэнтры і пад Калонамі таксама трэба ўважаць "ініцыяламі" нейкага князя. Найбольш верагодна, што ўсе знакі, змешчаныя ў цэнтры Калонаў і каля іх, ёсць знакамі мынцмайстраў, якія непасрэдна выразалі штэмпелі, або знакамі дзяржаўцы мынцы. Традыцыя змяшчаць свае ініцыялы майстрамі каля гербаў уладароў ці пад каралеўскімі каронамі ёсць вельмі пашыранай у эўрапейскай мынцарскай традыцыі 14–15 стст. і знаходзіць шматлікія аналагі сярод манетаў суседніх дзяржаваў, напрыклад, Польшчы ці Вугоршчыны. Па-чацвертае, герб Калоны не ёсць агульным гербам усіх Гедзімінавічаў, а толькі асабістым гербам Вітаўта, якім ніколі не карысталіся іншыя вялікія князі, пагатоў з дынастыі Ягайлавічаў [5, 6. 30–34]. На пенязях *Калоны / Пагоня* змешчана адметная "архаічная" Пагоня, якой карыстаўся толькі Вітаўт, якая больш ніколі не сустракаецца на пячатках, ані на манетах, пачынаючы з 1430-х гадоў. Не карыстаўся гэткім кшталтам Пагоні і Казімір, за што сведчаць яго захаваныя княскія пячаткі, на якіх адно толькі "класычная", "Ягайлава" Пагоня. Такім чынам, пенязі з Калонамі і "архаічнай" Пагоняй могуць належаць толькі Вітаўту.

Як ужо казалася вышэй, манеты тыпу *Калоны / Пагоня* пачалі выбівацца каля 1401 г., пасля атрымання Вітаўтам афіцыйнага тытулу "Вялікі князь Літоўскі". У невялікай колькасці былі адбітыя высокамастацкія пенязі гэтага тыпу. Што да чатырох апошніх падтыпаў, то знаходкі іх разам з заходнеэўрапейскімі манетамі, бітымі пераважна ў 1420-я гады, і амаль поўны брак знаходак, за адным выняткам, з ранейшымі манетамі *Калоны / Грот дзіды з крыжам,* гаворыць за пэўны перапынак у мынцарстве ВКЛ у пачатку 15 ст. За гэта таксама сведчаць войны з Ордэнам, якія цягнуліся да 1410 г., што вымагала вялікіх грашовых выдаткаў. У 1417 г. Вітаўт "пазычыў" Ягайлу 500 "рублёў літоўскіх чыстага срэбра". Пасля 1419 г. прыпыняецца паступленне ў ВКЛ срэбра ў выглядзе праскіх грошаў, што ізноў жа выклікала нястачу срэбра. Сытуацыя крыху палепшылася толькі ў 1420-я гады. У 1427 г.

Ноўгарад выплаціў Вітаўту 15000 рублёў літога срэбра, а Пскоў трохі раней – 1000. Гэтым можна патлумачыць рэзкі ўсплеск мынцарскае актыўнасці ў ВКЛ у 1420-я гады. Пагатоў, манетная рэгалія была справай прэстыжу для Вітаўта, які рыхтаваўся ўскласці на сябе каралеўскі вянец. Такім чынам, можна меркаваць, што асноўная колькасць манетаў тыпу *Калоны / Пагоня* была выбіта каля 1420–1430 гадоў.

Грамадзянскія войны за ўладу паміж Баляславам Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам, якія пачаліся па смерці Вітаўта ў 1430 г., нястача сыравіннага срэбра, якое больш не паступала з Багеміі ў дастатковай колькасці, не дазваляе гаварыць аб працягу манетных эмісіяў па 1430 годзе.

## Смаленскія пенязі Вітаўта

У складзе Драздоўскага скарбу 1915 г. (Маскоўская вобласць, Расея), які складаўся з 242 манет, сярод пераважна дзенгаў усходне-рускіх княстваў, аказаліся два пенязі заходнеэўрапейскага выгляду. На адным з іх з аднаго боку ёсць выява Калонаў – герба Вітаўта, на другім – два барсы, павернутыя ўправа адзін пад адным (большы і меншы), над якімі – выява ліліі (**12**). На другім з аднаго боку – кірылічная літара Ю, з другога – леў, які стаіць на задніх лапах, павернуты ўлева (**14**). Подле даследванняў расейскага нумізмата Чыжова, гэты скарб ухаваны паміж 1410–1420 гадамі. У Эрмітажы таксама захоўваюцца чатыры падобных пенязя, два з якіх з барсамі, адзін з літарай Ю і яшчэ адзін з Калонамі і лявом, як на манеце з Ю (**13**). Адна манета з барсамі знойдзеная на Віленшчыне ў Кернаве ў 1989 г. Вядома таксама і аб колькіх адзінкавых знаходках падобных пенязяў на Смаленшчыне.

Пасля авалодання вялікакняскім пасадам, галоўнай праблемай Вітаўта стала ліквідацыя ўдзельных, напаўсамастойных княстваў. Падставаю для яе стала адмова прысягнуць Вітаўту і плаціць яму даніну з боку Уладзіміра Кіеўскага, Дзмітра-Карыбута Северскага, Тодара Карыятавіча Падольскага, Юр'я Святаславіча Смаленскага і, магчыма, некаторых іншых князёў. Вітаўт напрыканцы 1392 г. разбіў дружыны Дзмітра-Карыбута, авалодаў Наваградкам і паланіў князя. На пачатку 1393 г. ён здушыў выступ Свідрыгайлы Альгердавіча ў Віцебску. Увосень 1393 г. захапіў Падолле. Напрыканцы 1394 г. Уладзімір Кіеўскі быў пераведзены ў Капыль, а Кіеў па дамове перайшоў Скіргайлу Альгердавічу.

Нарэшце, у 1395 г. Вітаўт заняў Смаленск і пасадзіў там сваіх намеснікаў – Васіля-Яманта Тулунтавіча і Васіля Барэйкавіча. Пенязі з Калонамі можна дакладна атрыбутаваць Вітаўту. Яны біліся паміж 1396 і 1399 гадамі, падчас праўлення ў Смаленску гэтых Вітаўтавых намеснікаў,

і ў 1399–1401 гадох за Рамана Міхайлавіча Бранскага. У 1401 г. былы смаленскі князь Юры Святаславіч забіў вялікакняскага намесніка Рамана Міхайлавіча і авалодаў местам. Па шматлікіх спробах вярнуць Смаленск, у 1404 г. пры падтрымцы Ягайлы і нэўтралітэце Маскоўшчыны, Вітаўт замацаваў Смаленскае княства ў складзе ВКЛ. Смаленскае княства было ператворана ў намесніцтва, якому быў нададзены новы зямельны герб: у чырвоным полі белы мядзведзь, скіраваны ў правы геральдычны (левы ад гледача) бок. Герб гэты вядомы па шэрагу заходнеэўрапейскіх гербароў пачатку 15 ст., а таксама па вялікіх пячатках Вітаўта, пачынаючы з 1401–1404 гг. Вынясенне зямельнага герба на маестатную пячатку Вітаўта сведчыць аб вылучнай значнасці Смаленскае зямлі ў складзе ВКЛ. Стары герб княства – леў, які стаіць на задніх лапах, як сымбаль незалежнасці княства, быў скасаваны.

Такім чынам, пензі з ініцыялам Ю мог эмітаваць Юры Святаславіч паміж 1401–1404 гадамі. За ўзор ім былі ўзятыя пензі з часоў намесніцтва 1396–1401 гг. За гэта сведчыць "контурная" літара Ю, зробленая на ўзор "контурных" Калонаў. На другім баку пензяў Юр'я выяўлены смаленскі герб – леў. Такі ж самы леў ёсць на смаленскіх манетах з Калонамі, якія відавочна біліся беспасярэдне перад захопам улады Юр'ем у 1401 годзе, і былі ўзятыя ім за ўзор. Такім чынам, манеты тыпу *Калоны / Леў* можна датаваць 1399–1401 гг. – часам намесніцтва Рамана Міхайлавіча, а пензі з барсамі – часам намесніцтва Васіля-Яманта Тулунтавіча і Васіля Барэйкавіча (1396–1399 гады). Як ужо гаварылася вышэй, у 1404 г. быў зменены зямельны герб, што выключае магчымасць біцця манетаў *Калоны / Леў* ці *Калоны / Барсы з ліліяй* па 1404 г.

Летувіскімі даследнікамі Я. Іваноўскім і М. Бальчусам пензі тыпу *Ю / Леў* былі беспадстаўна атрыбутаваны полацкаму князю Андрэю Альгердавічу, якія ён нібыта біў у 1398–1399 гадох у Полацку [43, б. 57–59]. Па-першае, Андрэй ніколі не карыстаўся княскім знакам накшталт літары Ю. Па-другое, Полацкае княства ніколі не карысталася гербам Леў, прынамсі гэтаму няма жадных гістарычных дакументальных пацверджанняў. Полацак карыстаўся зямельнай пячаткай без усялякіх выяваў з радковым надпісам "Пячаць Полацкая і Святой Сафіі", вядомай з 1396 г. Апроч таго, Андрэй Полацкі не мог біць собскіх пензяў у Полацку ў 1398–1399 гг., бо страціў Полацкае княства яшчэ на пачатку 1387 г. на карысць Скіргайлы Альгердавіча. Па смерці апошняга ў студзені 1396 г. Полацак перайшоў пад беспасярэдні кантроль Вітаўта. У тым жа годзе Вітаўт прызначыў намеснікам у Полацак Мантыгірда. Трэба таксама мець наўвеце, што Вітаўт праводзіў палітыку цэнтралізацыі ўлады, у выніку якое пазбавіў удзелаў шмат уплывовых удзельных князёў, і наўрад ці добраахвотна аддаў бы адно з найзначнейшых у ВКЛ княстваў у рукі такога небяспечнага ў палітычным плане ўдзельнага князя. І, нарэшце,

апошняе – на Полаччыне няма ніводнае знаходкі манетаў падобных тыпаў, што таксама дзіўна, калі прыпускаць, што яны там біліся. Усе ж вядомыя знаходкі канцэнтруюцца на Смаленшчыне. Таму ранейшая атрыбуцыя манетаў тыпу *Ю / Леў* Андрэю Полацкаму ёсць заўчаснай і беспадстаўнай.

## Манеты, контрамаркаваныя Калонамі

Асобную групу складаюць залатаардынскія (**15**) і генуэска-крымскія (**16**) манеты з контрамаркай у выглядзе Калонаў – асабістага герба Вітаўта. Р. Керсноўскі, які даследваў старажытныя вялікалітоўскія манеты, адзначаў, што найстарэйшай вядомай манетай з контрамаркай ёсць залатаардынскі дзенг Тактамыша 1386 г. (788 г.х.), а наймалодшай – аспр м. Кафы, біты да 1420 г. Адлі новыя знаходкі контрамаркаваных манетаў паказваюць, што наймалодшымі манетамі ёсць залатаардынскія дзенгі з першае трэці 15 ст. і генуэска-крымскія аспры з часу паміж 1420–1430 гг.

Амаль усе вядомыя контрамаркаваныя манеты паходзяць з Кіеўшчыны і Падолля, яны былі выяўленыя ў складзе скарбаў і адзінкавых знаходак. Адзін скарб, у якім было 30 контрамаркаваных залатаардынскіх дзенгаў разам з заходнеэўрапейскімі манетамі, знойдзены ў 1890 г. на тэрыторыі Малдовы (с. Страенцы, Дубасарскага уезду). Вядомыя адзінкавыя знаходкі контрамаркаваных дзенгаў на тэрыторыі Браншчыны. На тэрыторыі сучаснае Беларусі ў складзе Турэйскага скарбу (Шчучынскі раён) разам з познім пенязем Вітаўта тыпу *Калоны / Пагоня* знойдзеныя 2 контрамаркаваныя залатаардынскія манеты. Ёсць натуральным, што контрамаркаваныя манеты былі больш распаўсюджаныя на землях, дзе аснову грашовага абарачэння традыцыйна складалі ардынскія дзенгі, перш за ўсё на поўдні ВКЛ, які непасрэдна межаваў з Залатой Ардой.

З'яўленне асабістага герба Вітаўта Калонаў у выглядзе контрамаркі на залатаардынскіх манетах было перш за ўсё палітычным захадам Вялікага князя Літоўскага, які жадаў падпарадкаваць сабе Залатую Арду. Гэтак, пры апісанні ў Ніканаўскім летапісе пахода Вітаўта супраць хана Цімур Кутлука ў 1399 г. гаворыцца, што ў час перамоваў *"восхоте Витовт во всей орде быти на денгах ординских знамение Витовтово"*, што сведчыць не за эканамічныя, а за палітычныя матывы гэтай акцыі.

Пасля 1430 г. контрамаркаванне спыняецца, але контрамаркаваныя Калонамі дзенгі яшчэ пэўны час заставаліся ў абарачэнні, на што паказваюць знаходкі ў скарбах, дзе наймалодшымі былі дзенгі крымскага ханства, бітыя ў другой палове 15 ст., як, напрыклад, у скарбе з Райкоўцаў 1886 г. (Хмяльніцкая вобласць, Украіна), дзе наймалодшымі былі дзенгі крымскага хана Менглі-Гірэя (1466–1514 гг.).

| Аляксандар I Вітаўт. ПЕНЯЗЬ | |
|---|---|
| 10 | Av Калоны<br>Rv Грот дзіды і крыжык<br>Луцк, Вільня, каля 1392–1400 гг., срэбра, дыяметр 12–14 мм, сярэдняя вага каля 0,28 г., проба каля 400 |
| 11 a | Av Калоны "контурныя"<br>Rv Пагоня, скіраваная ўправа, рука з мечам за спінай вершніка; над Пагоняй ✕, пад Пагоняй Y<br>Вільня, каля 1401–1404 гг., срэбра, дыяметр 11,8–12,3 мм, вага 0,21–0,27 г., проба 844–878 |
| 11 b | Av Калоны "контурныя"<br>Rv Пагоня, скіраваная ўправа, рука з мечам за спінай вершніка; над Пагоняй ✕, пад Пагоняй Y<br>Вільня, каля 1404–1405 гг., срэбра, дыяметр 14,7 мм, вага 0,451 г. |
| 11 c | Av Калоны, у цэнтры і пад Калонамі знак ll, над Калонамі знак l<br>Rv Пагоня ўправа<br>Вільня, каля 1420–1430 г., срэбра, дыяметр каля 14,7 мм, сярэдняя вага каля 0,39 г., проба каля 300–350 |
| 11 d | Av Калоны шырокія, у цэнтры маленькая гатычная літара К, пад Калонамі знак ll<br>Rv Пагоня ўправа<br>Вільня, каля 1420–1430 гг., срэбра, дыяметр каля 14,7 мм, сярэдняя вага каля 0,39 г., проба каля 300–350 |
| 11 e | Av Калоны, у цэнтры вялікая гатычная літара К, пад Калонамі знак ll, над Калонамі знак l<br>Rv Пагоня ўправа<br>Вільня, каля 1420–1430 гг., срэбра, дыяметр каля 14,7 мм, сярэдняя вага каля 0,39 г., проба каля 300–350 |
| 11 f | Av Калоны, у цэнтры вялікая гатычная літара К<br>Rv Пагоня ўправа<br>Вільня, каля 1420–1430 гг., срэбра, дыяметр каля 14,7 мм, сярэдняя вага каля 0,41 г., проба каля 300–350 |

| | | |
|---|---|---|
| 12 | | Av Калоны "контурныя"<br>Rv Два леапарды адзін пад адным (большы і меншы), над імі лілея<br>Смаленск, каля 1396–1399 г., срэбра, дыяметр каля 14 мм, вага 0,42–0,45 г. |
| 13 | | Av Калоны "контурныя"<br>Rv Леў на задніх лапах, павернуты ўлева<br>Смаленск, каля 1399–1401 г., срэбра, дыяметр каля 14 мм, вага каля 0,45 г. |
| **Юры Святаславіч Смаленскі (незалежна ад ВКЛ). ПЕНЯЗЬ** | | |
| 14 | | Av Літара Ю<br>Rv Леў на задніх лапах, павернуты ўлева<br>Смаленск, каля 1401–1404 г., срэбра, дыяметр каля 14 мм, вага 0,39–0,48 г. |
| **Аляксандар І Вітаўт. Контрамаркаваныя манеты** | | |
| 15 | | Av/ Rv Контрамаркаваныя Калонамі залатаардынскія дзенгі розных эмітэнтаў<br>Кіеў, Камянец-Падольскі, каля 1396–1430 г., срэбра, вага 0,63–1,36 г. |
| 16 | | Av/ Rv Контрамаркаваныя Калонамі Крымска-Генуэскія аспры з Кафскае мынцы<br>Кіеў, Камянец-Падольскі, каля 1420–1430 г., срэбра, дыяметр каля 14 мм, вага каля 0,85 г. |

| N | Av | Rv | Rn | Дадатковая інфармацыя |
|---|---|---|---|---|
| 1a | ПЕЧАТЬ | | R5 | Av: легенда, накіраваная ў які-любя бок, часта з памылкамі. Rv: Крыжык з якога-любя боку ад грота дзіды |
| 1b | ПЕЧАТЬ | | R5 | Паменшаная вага |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 2a | | | R7 | Які-любя накірунак лява, гатычныя літары легенды |
| 2b | | | R6 | Які-любя накірунак лява, ніжэйшы ўзровень выканання |
| 3 | ПЕЧАТЬ | | R6 | Які-любя накірунак лява, нізкі ўзровень выканання |
| 4 | | | R* | |
| 5 | | | R8 | |
| 6a | | | R7 | Каля тарчы арнамент з кропак |
| 6b | | | R6 | Каля тарчы арнамент з "сэрцападобных" пляцёнак |
| 7 | | | R* | |
| 8 | | | R8 | |
| 9a | | | R5 | Які-любя накірунак Пагоні |
| 9b | | | R5 | Які-любя накірунак Пагоні |
| 9c | | | R5 | Які-любя накірунак Пагоні |
| 10 | | | R2 | Варыянты Av: ; Rv: |
| 11a | | | R* | Над Пагоняй , пад Пагоняй |
| 11b | | | R7 | Над Пагоняй , пад Пагоняй |
| 11c | | | R4 | У цэнтры і пад Калонамі<br>Над Калонамі з любога боку знак |
| 11d | | | R5 | Маленькая гатычная [К], пад Калонамі |
| 11e | | | R6 | Гатычная [К], пад Калонамі , над Калонамі |
| 11f | | | R6 | У цэнтры Калонаў гатычная [К], часта павернутая |
| 12 | | | R7 | Вядомы варыянт з леапардамі ўлева нізкага ўзроўню выканання |
| 13 | | | R7 | У цэнтры Калонаў тры ці чатыры маленькія кропкі |
| 14 | Ю | | R7 | |
| 15 | | - | R5 | Варыянты: |
| 16 | | - | R5 | |

# Северскія манеты Гедзімінавічаў

У 1362 годзе да Вялікага Княства Літоўскага Альгердам былі далучаныя Северскія землі, дзе свае ўдзелы атрымалі ягоныя сыны Дзмітры і Касцянцін Альгердавічы, крыху пазней Дзмітры-Карыбут, а таксама нашчадкі старэйшага брата Альгерда князі Нарымонтавічы. Як паказваюць найноўшыя даследванні, бальшыня з іх білі свае ўдзельныя манеты, якія разам з кіеўскімі манетамі Уладзіміра Альгердавіча склалі аснову ўласных грашовых сыстэмаў, што існавалі на ўсходніх тэрыторыях ВКЛ у другой палове 14 ст. і былі першымі собскімі манетнымі эмісіямі вялікалітоўскіх князёў.

На памежных землях з Улусам Джучы, у тым ліку і на акраінных землях самае Залатое Арды, вядомыя эмісіі мясцовых наследаванняў. Гэтыя выпускі былі залежныя ад шматлікіх палітычных ды эканамічных чыннікаў, аднак часцей за ўсё мелі сваёй мэтай папаўненне нястачы гатовае манеты на мясцовым рынку. Трэба сказаць, што наяўнасць арабскіх надпісаў на северскіх наследаваннях не ёсць знакам васальнае залежнасці ад Залатое Арды, бо за аснову часта ўзяты бок манет без усялякіх імён. Гэта значыць, што выбар прыкладу для гэтых манетаў быў дастаткова вольны. Арабскія легенды часта зусім нечытальныя, што гаворыць аб няведанні арабшчыны, а легенда пераймалася проста як малюнак. Северскія ўдзельныя манеты наследуюць найбольш распаўсюджаным залатаардынскім манетам, якія абарачаліся ў дадзеным рэгіёне. Іх разьбяры мелі на мэце толькі пэўнае візуальнае падабенства да арыгіналу. Вядомыя выпадкі, калі разьбяры штэмпеляў наўмысна ўносілі ў малюнак манеты дадатковыя знакі, якія паказвалі на эмітэнта, як, напрыклад, наследаванні, аднесеныя кіеўскім нумізматам Г. Казубоўскім да эмісіі Северскага княства з 2-е паловы 1370-х гадоў. За аснову гэтых манетаў быў узяты тып ардынскіх манетаў Мухамеда і дададзены тамгападобны княскі знак, атрыбутаваны Г. Казубоўскім як знак ноўгарад-северскага князя Дзмітра-Карыбута [11].

Да гэтага часу ўсе манеты, бітыя на Севершчыне, звязваюць з імём Ноўгарад-Северскага князя Дзмітра-Карыбута. Падставай для гэтага стала наяўнасць на манетах Карыбута так званага "княскага знака" ў выглядзе крыжа з раздвоеным і закругленым ніжнім канцом. Падобны знак выкарыстоўваў на сваёй пячатцы 1433 г. Хведар Карыбутавіч, што і дало падставы ўважаць яго родавым гербам Карыбутавічаў. З гэтае прычыны, усе манеты, на якіх ёсць гэты знак, атрыбутаваліся як Ноўгарад-Северскія манеты Карыбута.

Адлі, існуе ўсё ж праблематыка атрыбуцыі "княскага знака". Нашыя даследванні паказваюць, што гэты сымбаль нельга лічыць родавым гербам Карыбутавічаў з колькіх прычынаў:

1. Няма жаднае пячаткі Карыбута з падобным знакам. Адзіная вядомая яго пячатка мае на адным баку выяву вершніка з дзідай – увасабленне самога князя, або выява тэзаіменнага св. Дзмітра, хрысціянскае імя якога насіў Карыбут, на другім – радковы надпіс ПЕЧЯТЬ КNЯЗЯ КОРНБУТА.

2. На манетах з імём Карыбута, апісаных М. Догелем у пачатку 20 ст., імя Карыбута напісана вакол мяча, а не вакол "княскага знака", які размешчаны на другім баку манеты разам з арабскімі нечытальнымі надпісамі. На другой аналагічнай манеце, на абароце, падобнага "княскага знака" зусім няма, ёсць толькі арабскія нечытальныя надпісы.

3. З усіх нашчадкаў Карыбута, толькі адзін Хведар карыстаўся падобным знакам, засталыя яго сыны карысталіся іншымі гербамі: Жыгімонт – Пагоняй, Іван – знакам, падобным на колца, на якім стаіць страла вастрыём угару.

### Княскія знакі Гедзімінавічаў*




1. *Хведар Карыятавіч* 1393 П, 1393 М; 2. *Васіль Карыятавіч* 1403 П; 3. *Мікалай Яўнутавіч* 1386 П; 4. *Хведар Карыбутавіч* 1433 П, на северскіх манетах з імём Аляксандра, Карыбута і ананімных; 5. *Іван Карыбутавіч* 1431 П; 6. *Уладзімір Альгердавіч* 1363–1394 М, *Андрэй Уладзіміравіч* 1446 П; 7. *Андрэй Уладзіміравіч* 1433 П; 8. *Іван Уладзіміравіч* 1431 П; 9. *Аляксандар Уладзіміравіч* 1433 П; 10. *Іван Андрэевіч* 1431 П. Літара П і дата азначае, што гэты знак сустракаецца на пячатках, а літара М і дата – на манетах.

---

* Табліца складзена подле: Ivanauskas Eugenijus, Balčius Mikelis "Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės lydiniai ir monetos nuo 1387 iki 1495 metų", Vilnius 1994, табліца 2, б. 90.

4. Вельмі блізкім па іканаграфіі да так званага "знака Карыбута" ёсць асабісты знак Івана Уладзіміравіча, сына Уладзіміра Альгердавіча Кіеўскага, з пячаткі 1431 г., а таксама княскія знакі з пячатак Мікалая Яўнутавіча 1386 г. і Аляксандра Уладзіміравіча 1434 г.

5. На некаторых Северскіх манетах вакол "княскага знака" ёсць кірылічны надпіс з імём князя Аляксандра, што пярэчыць атрыбуцыі гэтага знака, як асабістага герба Карыбута.

6. "Княскі знак" упершыню з'явіўся на северскіх наследаваннях Джанібеку II, датаваных 2-й паловай 1360-х гг., а таксама на северскіх наследаваннях Мухамеду Буляку 1370-х гг. У гэты час ён не мог належаць Карыбуту, бо трэба ўлічваць, што Карыбут – адзін з малодшых сыноў Альгерда ад другога шлюбу з Юльянай Цвярской, які нарадзіўся ў 2-й палове 1350-х гг. і не мог біць свае собскія манеты ў акрэслены перыяд з-за свайго малалецтва.

З вышэйсказанага вынікае, што так званы "княскі знак" не ёсць асабістым гербам Карыбута, а з'явіўся на северскіх наследаваннях у другой палове 1360-х гг., што нашмат раней за атрыманне Ноўгарад-Северскага ўдзела Карыбутам (каля 1380 г.).

## Удзельныя манеты Аляксандра і Патрыкея Нарымонтавічаў

Да манетаў, якія можна атрыбутаваць князям Нарымонтавічам, належаць наследаванні залатаардынскім дзенгам з так званым "княскім знакам" і наследаванні без асаблівых "апазнавальных" знакаў, якія на падставе стылістычных і іншых асаблівасцяў можна аднесці да эмісіяў на тэрыторыі Старадубскага княства.

Трэба адзначыць, што група манетаў з "княскім знакам" не ёсць аднароднай па сваёй вазе і стылю выканання. Тут можна вылучыць дзве групы манет:

1. Манеты з "княскім знакам" і кірылічным надпісам вакол яго, які доўгі час не ўдавалася цалкам прачытаць праз дрэнную захаванасць вядомых экзэмпляраў, ці няякасны адбітак легенды. Чыталіся асобныя словы "пячаць", "князя". Знойдзены ў 2003 г. скарб залатаардынскіх манетаў 14 ст. з Алексіна (Тульшчына, Расея) дазволіў паставіць кропку ў гэтым пытанні. У яго складзе ёсць манета гэтага тыпу (вага 1,43 г.) з выразна чытальным надпісам вакол "княскага знака" ПЕЧТЬ КNЗЯ ОЛКСNДРА (**17**), што чытаецца як "пячаць князя Аляксандра" [15, б. 161–166]. Другі бок манетаў гэтае групы наследуе дзенгам Джанібека II, якія мелі дату 767 г.х. (1365/1366 гады) ці без даты. Вагі вядомых манетаў гэтае групы 1,23, 1,43, 1,48 г., прычым ніжэйшую вагу маюць абрэзаныя манеты, а вага паўнавартасных імкнецца да 1,45 г.

2. Манеты з "княскім знакам", за аснову якіх узяты тып манет Мухамеда Буляка 1370-х гг. (**18 a, b**). Гэтыя манеты не маюць жадных кірылічных надпісаў. Вагі манетаў гэтае групы 0,65–1,04 г., сярэдняя вага каля 0,9 г.

Фактычна да гэтае групы можна далучыць і манеты без "княскага знака", якія таксама наследуюць манетам Мухамеда Буляка 772, 773 і 777 г.х. (**19**). Яны таксама маюць сярэднюю вагу каля 0,9 г. пры ваганні ў межах 0,81–0,92 г. Наследаванні без "княскага знака" аналагічныя манетам з "княскім знакам" паменшанае вагі стылістычна, метралагічна, храналагічна і па тэхналогіі выраблення – загатоўкі маюць большы дыяметр адносна наследаваных манетаў, але малую таўшчыню. Яны выразаныя з ліста металу ці перабітыя з іншых ардынскіх манетаў і даведзеныя шляхам абцінання да нарматыўнае вагі, а не выраблены з дроту [37]. Манеты гэтых тыпаў біліся аднačасова і належаць аднаму эмітэнту.

Асноўная колькасць вядомых манетаў апошніх дзвюх груп паходзіць з Баршчоўскага скарбу (1947 г., Барыспальскі р-н Кіеўскае вобл., Украіна), дзе наймалодшымі былі дзенгі Тактамыша, датаваныя 1380 г. Скарб месціў 10 северскіх наследаванняў Мухамеду Буляку, з якіх 9 адносяцца да вышэйазначаных груп з паменшанай вагой, сярод якіх 4 манеты з "княскім знакам", вагі асобных манетаў – 0,65, 0,94, 0,94, 1,04 г. і 5 наследаванняў без "апазнавальных" знакаў, вагі асобных манетаў – 0,81, 0,85, 0,87, 0,89, 0,92 г. Вядомыя таксама і адзінкавыя знаходкі, якія пераважна паходзяць з захаду Бранскае вобласці Расеі, а таксама з тэрыторыі Чарнегаўскае вобласці Украіны.

Параўнанне "княскіх знакаў" дазваляе ўважаць абодвух эмітэнтаў вышэйзгаданых тыпаў северскіх манет блізкімі родзічамі. Аналіз гістарычных і генеалагічных жаролаў дазваляе прыйсці да высновы, што найбольш верагоднымі эмітэнтамі ёсць князі Нарымонтавічы Старадубскія. З гістарычных жаролаў вядома, што ў апошняй траціне 14 ст. княствам валодаў Патрыкей Нарымонтавіч, згаданы ў Любецкім сінодыку. Старадуб, як і Бранск Дзмітра Альгердавіча стаў мэтай паходу Дзмітра Маскоўскага на Севершчыну ў 1380 г. У 1383–1386 гадох і ў 1397 г. – служылы князь у Вялікім Ноўгарадзе. Пасля Патрыкея Нарымонтавіча Старадубскае княства перайшло да ягонага сына Аляксандра, які ў 1398 г. падпісаў дамову з Ордэнам, а ў 1401 г. склаў прысягу Ягайлу. Адлі на ролю эмітэнта манетаў з імем Аляксандра ён не падыходзіць. Па-першае, манеты з імем Аляксандра, як ужо гаварылася, наследуюць дзенгам Джанібека II 767 года хіджры (1365/1366 гг.). У аснову атрыбуцыі северскіх манетаў пакладзена меркаванне даследніка ўсходняе нумізматыкі К. Хромава, што паміж выпускам арыгінальных ардынскіх манетаў, якія біліся ў непасрэднай блізкасці ад Кіеўскай і Чарнегава-Северскай зямлі (Арда Мамая на парогах

Дняпра), і выпускам наследаванняў не магло прайсці шмат часу, бо ардынскія манеты біліся ў дастатковай колькасці і даволі хутка замяшчаліся больш "свежымі", якія і браліся за ўзор. Такім чынам, час выбіцця наследаванняў мог спазніцца максымум на 2–3 гады адносна арыгіналу [36]. З гэтага вынікае, што час біцця манет з "княскім знакам" і легендай "пячаць князя Аляксандра" можна акрэсліць 1367–1370 гг. Ускосна пра больш ранняе біццё манет гэтага тыпу сведчыць і высокая нарматыўная вага (каля 1,45 г.), не характэрная для ардынскіх манетаў 1390-х гадоў. Па-другое, малаверагодным ёсць біццё собскіх манетаў Аляксандрам Патрыкеевічам у самым канцы 14 ст., г. зн. пасля цэнтралізацыі ўлады Вітаўтам і зыходам з палітычнае арэны куды больш моцных і ўплывовых удзельных князёў, такіх як Уладзімір Альгердавіч Кіеўскі, Дзмітры-Карыбут Северскі, Тодар Карыятавіч Падольскі, якія білі свае ўласныя манеты.

Адзіным рэальным кандыдатам на ролю князя Аляксандра ў 1360-я гг. ёсць Аляксандар Нарымонтавіч – старэйшы брат Патрыкея Нарымонтавіча. Нажаль, гісторыя захавала вельмі сціплыя звесткі пра яго. Вядома, што ён фактычна быў "правай рукой" свайго бацькі, бо пэўны час да 1338 г. быў ягоным намеснікам у м. Арэшку (Вялікі Ноўгарад), потым адкліканы ў ВКЛ. Далей звесткі пра яго губляюцца, вядома толькі, што ў 1386 г. ён ужо не жыў. Верагодна, Аляксандар браў удзел разам з Альгердам у паходзе 1362 г. на Северскія землі, дзе і атрымаў ва ўдзел Старадуб. Не выключана, што суправіцелем у Старадубе быў ягоны малодшы брат Патрыкей, які, пэўна, пасля смерці Аляксандра на пачатку 1370-х гг. стаў адзіным гаспадаром Старадубскага ўдзела. Пра атрыбуцыю манетаў з "княскім знакам" князям Нарымонтавічам сведчаць і даволі частыя знаходкі гэтых манетаў у Клінцоўскім раёне Бранскае вобласці (Расея), што ў непасрэднай блізкасці ад Старадубу – сталіцы колішняга Старадубскага княства. Цікавым ёсць той факт, што манеты з "княскім знакам" не знаходзяць на тэрыторыі суседняе Чарнегаўскае вобласці Украіны – былога Ноўгарад-Северскага княства, якім з 1380 г. валодаў Дзмітры-Карыбут. Гэта не дазваляе гаварыць пра біццё гэтых манетаў у Ноўгарадзе-Северскім.

Такім чынам, манеты Аляксандра мелі вагу каля 1,45 г., і па сваёй метралогіі адпавядалі іншым залатаардынскім манетам, якія складалі аснову грашовага абарачэння рэгіёна, біліся паміж 1367–1370 гг.

Манеты Аляксандра маюць яшчэ адну асаблівасць – на некаторых з іх, як на манеце з Алексінскага скарбу, каля верхняй часткі "княскага знака" – крыжа, стаяць маленькія літары ПТ-Р, што імаверна чытаецца як "ПЕТР". Калі ўлічваць, што імя князя напісана вакол "княскага знака", то імя Пётра можа належаць непасрэдна разьбяру штэмпеляў. Вядома як найменей яшчэ адна манета, аверс якой выбіты тым жа штэмпелем, што і манета з Алексіна, і паходзіць яна з Браншчыны. Гэта дае падставы

меркаваць, што стала вядома імя аднаго з першых мынцараў ВКЛ, што ёсць сапраўды ўнікальнай з'явай для ранняе нумізматыкі Вялікага Княства, якая не мае аналагаў і ў больш позні перыяд. Валей за ўсё, імя Пётра паказвае на славянскасць майстра, што дазваляе зрабіць выснову аб мясцовым паходжанні першых мынцараў на ўсходзе ВКЛ.

Манеты наступнага эмітэнта – Патрыкея Нарымонтавіча, брата Аляксандра, наследуюць дзенгам Мухамеда Буляка 772 г.х., 773 г.х. і 777 г.х., і біліся паміж 1372–1380 гг. Можна меркаваць, што на пачатку 1370-х гг. Патрыкеем Нарымонтавічам была праведзеная грашовая рэформа, адпаведна з якой нарматыўная вага панізілася да 0,9 г. Эмітаваліся наследаванні як з "княскім знакам", гэтак і без яго. Такім чынам, суадносіны татарскіх і северскіх манетаў Патрыкея былі 2:3.



**Дзве вядомыя манеты Аляксандра Нарымонтавіча Старадубскага з пазначэннем імя разьбяра штэмпеляў Пётры**

Цікавым ёсць той факт, што менавіта такія ж суадносіны мелі татарскія і маскоўскія дзенгі, якія пачалі біцца ў Маскве каля 1381 г. Годам раней, Дзмітры Маскоўскі здзейсніў паход на Северщчыну, дзе на пэўны час захапіў гарады Бранск, Трубчэўск, Старадуб. Здаецца верагодным, што грашовая сыстэма Старадубскага княства нейкім чынам магла паўплываць на абранне падобнае грашовае сыстэмы Дзмітрам Маскоўскім, але гэтая гіпотэза патрабуе асобнага даследвання.

Верагодна, пасля паходу Дзмітра Маскоўскага 1380 г. біццё манетаў у Старадубе спынілася, а Патрыкей Нарымонтавіч пакінуў княства. Вядома, што ў 1383–1386 і 1397 гг. ён быў служылым князем у Вялікім Ноўгарадзе і, відаць, больш манеты не біў. За гэта сведчаць і яго северскія пераймамні, найбольш позняя з якіх наследуюць дзенгам Мухамеда 777 г.х. (1375/1376 гг.). Яны біліся паміж 1377–1380 гг.

| | | |
|---|---|---|
| **Аляксандар Нарымонтавіч. ДЗЕНГ** | | |
| 17 | | Av "Княскі знак", ПТР, ПЕЧТЬ КNЗЯ ОЛКСNДРА.<br>Rv Наследаванне залатаардынскім дзенгам Джанібека II, бітым у 767 г.х. і без даты<br>Старадубскае княства, каля 1367–1370 гг., срэбра, дыяметр каля 16 мм, вага 1,23–1,48 г. (сярэдняя вага 1,45 г.) |
| **Патрыкей Нарымонтавіч. ДЗЕНГ** | | |
| 18 a | | Av "Княскі знак", вакол нечытальныя арабскія літары<br>Rv Наследаванне залатаардынскім дзенгам Мухамеда Буляка 1370-х гг.<br>Старадубскае княства, каля 1372–1380 гг., срэбра, вага 0,65–1,04 г. (сярэдняя вага каля 0,9 г.) |
| 18 b | | |
| 19 | | Av, Rv Без "княскага знака", наследаванні залатаардынскім дзенгам Мухамеда Буляка, датаваным 772 г.х., 773 г.х., 777 г.х.<br>Старадубскае княства, каля 1372–1380 гг., срэбра, вага 0.81–0,92 г. (сярэдняя вага каля 0,9 г.) |

## Удзельныя манеты Дзмітра Альгердавіча

У 1992 г. Г. Казубоўскім была выдадзеная праца "Сіверські монети XIV ст.", у якой былі апублікаваныя і некаторыя манеты з Баршчоўскага скарбу 1948 г. [11, б. 12 і мал. б.1]. Адна з іх была аднесеная да ранняга тыпу манет Уладзіміра Альгердавіча. Гэтае сцверджанне было прынятае і некаторымі іншымі нумізматамі, а адзіны вядомы яе экзэмпляр выдадзены за першы тып манетаў Уладзіміра Альгердавіча [44]. Кагадзе стала вядома аб існаванні яшчэ аднае манеты падобнага тыпу,

апісанай К. Хромавам і І. Хромавай [36]. Аўтарамі была прачытана легенда, найбольш верагодны варыянт якой у перакладзе выглядае як *ПЕЧАТЬ КНЯЗЯ ДМИТРИЯ*. Рэверс манеты наследуе дзенгу хана Гійяс ад-Дзіна Мухамеда, эмісіі Арды і датай 773 г.х. (1371/1372 гг.) (**21**). Нажаль, вага манеты невядомая. Паходзіць гэтая манета з Браншчыны. На падставе стылістычных асаблівасцяў апісанае манеты і манеты з Баршчоўскага скарба, аўтары дакладу выказваюць меркаванне, што яны належаць аднаму эмітэнту – князю Дзмітру Альгердавічу, старэйшаму брату Дзмітра-Карыбута, які прыкладна з 1370 г. быў князем Бранскім, а з сярэдзіны 1370-х гг. – князем Трубчэўскім. У выніку паходу Дзмітра Маскоўскага на Северскія землі ў 1380 г., ён страціў свае северскія валоданні і перайшоў на службу да апошняга. Пасля 1380 г. гэтыя землі былі перададзеныя ў валоданне Дзмітру-Карыбуту Альгердавічу [39, б. 65].

Характэрнай асаблівасцю ўсіх манетаў гэтае групы ёсць кірылічны надпіс, размешчаны ў два радкі па коле манеты, супраць гадзіннікавае стрэлкі. Падрабязны аналіз здымка манеты з Баршчоўскага скарбу і выкарыстанне метаду прарысоўкі дазволілі часткава прачытаць захаваную легенду, дзе даволі выразна відаць слова *ПЕЧАТЬ*, маленькімі літарамі ў першым радку легенды, і частку імя князя, апошнія літары якога найбольш верагодна чытаюцца як *ТРЕВА*, што відавочна ё канчаткам ад *ДМИТРЕВА*. Такім чынам, надпіс манеты **20** складаецца ў *ПЕЧАТЬ.. ДМИТРЕВА*. Асаблівасцю гэтае манеты ёсць наяўнасць у цэнтры знака, падобнага да "княскага знака" на кіеўскіх манетах Уладзіміра Альгердавіча, але некалькі адрознага. Улічваючы агульны пераймальніцкі характар усяе манеты, захаваную частку легенды, а таксама агульную для ўсіх северскіх манетаў стылістыку і спосаб выбіцця на лісце металу, можна зрабіць выснову аб немагчымасці атрыбуцыі яе Уладзіміру Альгердавічу. Даследванне здымка другое манеты падобнага тыпу дазваляе прачытаць змешчаную на ёй легенду – *ПЕЧАТ КЗА ДМНТР*, што пацвярджае атрыбуцыю гэтых манетаў Дзмітру Альгердавічу, прапанаваную К. Хромавам.

Стала вядома аб існаванні і трэцяе манеты падобнага тыпу, якая знаходзіцца ў прыватнай калекцыі. Яна амаль ідэнтычная другой, апісанай К. Хромавам. Зроблена на больш нізкім узроўні, частка кірылічных літараў нечытальныя і маюць пераймальны характар, што можа сведчыць аб непісьменнасці разьбяра, які рабіў штэмпель, адлі агульная стылістыка напісання легенды ім захавана, і ідэнтыфікуюцца асобныя яе часткі – *ПЕ.. КЗА ДМ..Т...* Другі бок манеты, як і папярэдніх дзвюх, наследуе дзенгу Мухамеда 773 г.х. (1371/1372 г.) эмісіяў Арды. Манета **21** мае дыяметр 19–20 мм і вагу 1,30 г., месца знаходкі невядомае. Тут публікуецца ўпершыню.



**Манета Дзмітра Альгердавіча без княскага знаку**

| Дзмітры Альгердавіч. ДЗЕНГ | | |
|---|---|---|
| 20 | | Av "Княскі знак", ПЕЧАТЬ ... [ДМИ]TREBA?<br>Rv Наследаванне залата-ардынскім дзенгам Мухамеда 773 г.х. эмісіяў Арды<br>Бранскае (Трубчэўскае?) княства, каля 1373–1376 гг., срэбра, вага 1,10 г. |
| 21 | | Av ПЕЧАТ КЗА ДМНТР<br>Rv Наследаванне залатаардынскім дзенгам Мухамеда 773 г.х. эмісіяў Арды<br>Бранскае (Трубчэўскае?) княства, каля 1373–1376 гг., срэбра, дыяметр 19–20 мм, вага 1,30 г. |

Такім чынам, апісаныя тры манеты дазваляюць з вялікай доляй упэўненасці гаварыць пра ўдзельнае біццё манетаў Дзмітрам Бранскім. Улічваючы немагчымасць вялікага разыходжання паміж наследаваннем і арыгіналам, якому яно наследуе з спазненнем максымум на 2–3 гады, можна акрэсліць перыяд найбольш верагоднага біцця северскіх манетаў з імем Дзмітра – каля 1373–1376 гг. Гэта адпавядае перыяду княжання Дзмітра Альгердавіча ў Бранску, што пацвярджаецца і месцам знаходкі другое манеты.

## Удзельныя манеты Дзмітра-Карыбута

Упершыню атрыбутаваная Ноўгарад-Северскаму князю Дзмітру-Карыбуту манета была апісана і выдадзена ў 1868 г. баронам Кёне. Ён прачытаў на манеце кірылічны надпіс Д КОРНБТВА, размешчаны вакол меча з аднаго боку манеты і арабскім надпісам з другога (**22a**). У 1913 г. М. Догелем была апісаная падобная манета, якая розніцца ад першае наяўнасцю так званага "княскага знака" на "арабскім" баку манеты (**22b**). Падобны знак сустракаецца на пячатцы Хведара Карыбутавіча 1433 г., з чаго М. Догелем была зробеная выснова аб родавай прыналежнасці яго Карыбутавічам [9, б. 86]. Гэтае меркаванне шырока распаўсюджана сярод даследнікаў нумізматыкі ВКЛ і цяпер, адлі сучасныя даследванні прымушаюць перагледзець традыцыйнае гледзішча на гэтае пытанне. З апісаных дзвюх манетаў Карыбута да сённяшняга часу захавалася толькі адна – манета, апісаная Догелем, якая захоўваецца ў Эрмітажы ў С.-Пецярбурзе. Нажаль, апроч іх, манеты падобнага тыпу больш не знаходзілі, што не дазваляе ўсебакова іх даследваць.

Даволі загадкавым ёсць з'яўленне на адной з манетаў Карыбута "княскага знака", якім карысталіся князі Аляксандар і Патрыкей Нарымонтавічы ў 2-й палове 1360–1370-х гадох. Гэты знак змешчаны на адным баку з арабскімі надпісамі – баку, які пераймалі з найбольш распаўсюджаных манетаў, што абарачаліся ў гэтым рэгіёне. Не трэба забывацца, што Ноўгарад-Северскае княства межавала із Старадубскім княствам, дзе біліся ўласныя манеты, якія мелі падобны выгляд. Найбольш верагодна, што пры выразанні штэмпелю мынцарамі Карыбута ў якасці прататыпу былі ўзятыя старадубскія манеты Патрыкея Нарымонтавіча, якія, безумоўна, былі вядомыя ў суседнім Ноўгарад-Северскім княстве. За гэта сведчыць і падабенства "княскага знаку", які амаль ідэнтычны "княскаму знаку" на некаторых манетах Патрыкея Нарымонтавіча.

Вялікая рэдчыня знаходак манетаў Карыбута і немагчымасць ідэнтыфікацыі арабскіх надпісаў у пэўнай ступені ўскладняюць датаванне гэтых манетаў. З гістарычных жаролаў вядома, што свой статус буйнога ўдзельнага князя Карыбут атрымаў толькі за часоў вялікага князя Ягайлы, які спрыяў узвышэнню сваіх родных братоў ад Альгерда і Юльяны Цвярской. Як ужо гаварылася, Карыбут быў адзін з малодшых сыноў Альгерда і, пэўна, не атрымаў свайго ўдзелу за жыцця бацькі дзеля свайго малалецтва. Першае яго ўпамінанне датуецца 1381 г., калі ён, як Ноўгарад-Северскі князь, адмовіўся прысягнуць Кейстуту, які захапіў вялікакняскі пасад. Верагодна, што пасля спусташэння Севершчыны Дзмітрам Маскоўскім у 1380 г. і

пераходам да яго на службу некаторых удзельных северскіх князёў, Карыбут атрымаў вялікія землі на Севершчыне, што зрабіла яго адным з найбуйнейшых феадалаў у ВКЛ. Такім чынам, пачатак біцця манетаў Карыбутам можна датаваць прыкладна 1380 г., а вельмі малая колькасць знаходак і даволі вялікая іх вага (1,43 г.), сведчаць за ранні і вельмі кароткі перыяд выбіцця, які можна акрэсліць першай паловай 1380-х гадоў.

У нацыянальным запаведніку "Нясвіж" захоўваецца частка скарбу нявысветленага паходжання ў колькасці 9 манетаў. Сярод іх 3 праскія грошы Вацлава IV і 6 манетаў, якія па сваёй метралогіі і тыпалогіі можна аднесці да пенязяў. На адным баку яны маюць выяву меча і "княскага знака", на другім – нечытальны кірылічны надпіс (**23**), адзін пенязь мае выяву толькі "княскага знака" (**24**). Аналіз геральдычных знакаў, змешчаных на аверсе гэтых манетаў, дазваляе аднесці іх да северскіх эмісіяў Дзмітра-Карыбута. Як мы ведаем, выява меча сустракаецца выключна на манетах гэтага князя, што дазваляе ўважаць гэты сымбаль яго асабістым княскім знакам.



1



2

**Меч на манетах Карыбута:**
**1 – з Эрмітажу;**
**2 – з Нясвіжу**

Цікавым ёсць той факт, што гэтыя манеты не наследуюць залатаардынскім дзенгам, сустракаючца разам з праскімі грошамі Вацлава IV, маюць нізкую вагу каля 0,2–0,33 г., характэрную для пенязяў пачатку 90-х гг. 14 ст., бітых у ВКЛ, як цэнтралізавана, гэтак і ўдзельнымі князямі Уладзімірам Альгердавічам у Кіеве і Тодарам Карыятавічам на Падоллі. Відавочна, гэтыя манеты ёсць часткай ужо іншай грашовай сыстэмы, заснаванай не на залатаардынскіх дзенгах, а на праскіх грошах, прыток якіх рэзка вырас у канцы 14 ст. Такім чынам, пенязі Карыбута ёсць дробным наміналам ад праскага гроша, які ўжо складаў аснову грашовага абарачэння не толькі на захадзе, але і на ўсходзе ВКЛ. Найбольш верагодным перыядам выбіцця северскіх пенязяў ёсць пачатак 1390-х гадоў да 1393 г., калі Карыбут быў пазбаўлены Вітаўтам свайго северскага ўдзела. Вельмі малая колькасць вядомых экзэмпляраў і адсутнасць адзінкавых знаходак сведчаць за вельмі кароткую працягласць эмісіі.

| Дзмітры-Карыбут Альгердавіч. ДЗЕНГ | | |
|---|---|---|
| 22 a | | Av Меч, абапал дзве кропкі, Д КОРНБТВА<br>Rv a: Арабскі нечытальны надпіс b: "Княскі знак", арабскія нечытальныя літары<br>Ноўгарад-Северскае княства, каля 1380–1385 гг., срэбра, вага 22b – 1,43 г. |
| 22 b | | |
| **Дзмітры-Карыбут Альгердавіч. ПЕНЯЗЬ** | | |
| 23 | | Av Меч і "княскі знак"<br>Rv Нечытальная кірылічная легенда<br>Ноўгарад-Северскае княства, каля 1391–1392 гг., срэбра, дыяметр каля 13 мм, вага 0,2–0,33 г., проба 875–925 |
| 24 | | Av "Княскі знак"<br>Rv Нечытальная кірылічная легенда<br>Ноўгарад-Северскае княства, каля 1391–1392 гг., срэбра, дыяметр каля 13 мм, вага 0,2–0,33 г., проба 875–925 |

У 2003 г. каля старажытнага гарадзішча Алексін (Тульшчына, Расея) быў знойдзены скарб манетаў 14 ст., у якім сярод абсалютнае бальшыні залатаардынскіх дзенгаў і манеты з імем Аляксандра, атрыбутаванай намі старадубскаму князю Аляксандру Нарымонтавічу, знаходзілася і адна манета, якая не атрымала дастаткова дакладнае атрыбуцыі [15]. На адным баку яе выява вершніка на кані з дзідай улева, на другім – наследаванне дзенгу Джанібека эмісіяў 746–748 г.х. (1345/1346–1347/1348 гг.), вагой 1,38 г.

Манета не нясе жадных кірылічных надпісаў, што ў пэўнай ступені ўскладняе яе атрыбуцыю. Гэтая манета, на падставе падабенства вершнікаў, была аднесена да Ноўгарад-Северскіх наследаванняў з часоў вялікага князя Ягайлы (па 1380 г.), калі Севершчына трапіла ў сферу яго беспасярэдняга ўплыву [4, б. 171]. Апроч манеты з Алексінскага скарбу, вядомая яшчэ адна падобная манета, выбітая той жа парай штэмпеляў. Нажаль, яе месца знаходкі і метралогія не вядомыя, як і

манеты, два бакі якое наследуюць дзенгу Джанібека, але без вершніка. Манета гэная стылістычна і храналагічна адпавядае дзвюм папярэднім з вершнікам, што дазваляе аднесці іх да аднаго эмітэнта. За аснову ўсіх гэтых наследаванняў узятыя манеты Джанібека сярэдзіны 1340-х гг., што супярэчыць магчымасці іх выбіцця ў 1380-я гг. Больш верагодна, што біліся яны ў другой палове 1340-х гг., яшчэ да ўваходжання Севершчыны ў склад ВКЛ у 1362 г. невядомым эмітэнтам, які хіба паходзіў з мясцовае княскае дынастыі.



**Манета з выявай вершніка з Алексінскага скарбу**

Такім чынам, атрыбуцыя манет з вершнікам і дзідай прадстаўнікам роду Гедзімінавічаў ёсць заўчаснай і патрабуе далейшага даследвання.

| N | Av | Rv | Rn | Дадатковая інфармацыя |
|---|---|---|---|---|
| 17 | [illegible] | - | R7 | "Княскі знак" і надпіс ПТР, ці без яго |
| 18a | [illegible] | - | R6 | Вялікі "княскі знак" |
| 18b | [illegible] | - | R8 | Маленькі "княскі знак" |
| 19 | - | - | R6 | Няма кірылічнае легенды |
| 20 | [illegible] | - | R* | |
| 21 | - | - | R8 | Кірылічная легенда |
| 22a | [illegible] | - | R* | |
| 22b | [illegible] | [illegible] | R* | |
| 23 | [illegible] | - | R7 | Варыянты Av: [illegible] [illegible] [illegible] |
| 24 | [illegible] | - | R* | |

# Кіеўскія манеты Альгердавічаў

Біццё собскіх манетаў на тэрыторыі Кіеўскага княства ёсць самым старажытным з усіх земляў, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ. Першыя ўласныя манеты, выбітыя на тэрыторыі княства, наследавалі дзенгам Джанібека, бітым у Гюлістане ў 753 г.х. / 1352–1353 гг. і пачалі выбівацца яшчэ ў першай палове 1350-х гадоў. Асноўныя месцы знаходак гэтых манетаў – Кіеўская і Сумская вобласці цяперашняе Украіны. Адна манета гэтага тыпу кагадзе знойдзена блізка Горадні – гэта адзіная вядомая знаходка на Беларусі. Яна мае дыяметр 12,3 мм і вагу 0,53 грама.

Манеты гэтага тыпу, як і северскія наследаванні Мухамеду, прысутнічалі ў Баршчоўскім скарбе (1948 г.) разам з трыма манетамі Уладзіміра Альгердавіча. З гэтае прычыны, кіеўскім археолагам Г. Казубоўскім яны былі аднесены да I тыпу манет Уладзіміра Альгердавіча, яшчэ адна – да II тыпу, у выніку чаго была істотна зменена ўся класыфікацыя манетаў Уладзіміра Альгердавіча, распрацаваная М. Катляром [17, б. 42–67]. Даследванні іншага кіеўскага нумізмата К. Хромава паказалі, што кіеўскія наследаванні Джанібеку ёсць больш раннімі, і біліся паміж 1354 і 1363 гг., гэта значыць, яшчэ да далучэння Кіеўскага княства да ВКЛ (1362 г.), і адносяцца да часоў князя Хведара, а адзіная манета, аднесеная Г. Казубоўскім да так званага тыпу II манет Уладзіміра Альгердавіча, насамрэч ёсць северскім наследаваннем манеце Мухамеда ардынскай эмісіі 773 г.х., з кірылічным надпісам на аверсе, якая можа быць атрыбутавана Дзмітру Альгердавічу Бранскаму [38, б. 122–130].



**Кіеўскае наследаванне дзенгу Джанібека, гарадзенская знаходка**

Такім чынам, на гэты момант няма прычынаў мяняць класыфікацыю, распрацаваную М. Катляром, а дапаўненне яе наследаваннямі манет Джанібека і Мухамеда нічым не абгрунтавана.

## Удзельныя манеты Уладзіміра Альгердавіча

Пасля далучэння Кіеўскага княства да ВКЛ, на кіеўскі пасад сеў адзін із старэйшых сыноў Альгерда – Уладзімір, які пачаў біццё сваіх собскіх

манетаў. Вагавыя характарыстыкі наследаванняў Джанібеку паказваюць, што ў Кіеўскім княстве пачала складацца арыгінальная грашовая сыстэма, якая лягла ў аснову манетаў Уладзіміра Альгердавіча. Новыя ўдзельныя кіеўскія манеты нічым не нагадвалі папярэднія наследаванні. Гэта цалкам арыгінальныя манеты, на адным баку якіх быў змешчаны асабісты княскі знак Уладзіміра Альгердавіча, а на другім – імя князя, напісанае кірыліцай па коле манеты. Выраблялісія яны з срэбнага дроту – тэхніка, запазычаная з Залатое Арды, якая шырака тарнавалася ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Існаванне ўласнае арыгінальнае грашовае сыстэмы ў Кіеўскім княстве да 1362 г., якая была ўзята Уладзімірам Альгердавічам за аснову, не дае гаварыць аб значным перапынку ў біцці пасля далучэння княства да ВКЛ, што дазваляе акрэсліць пачатак біцця першай паловай – сярэдзінай 1360-х гг., г. зн. адразу пасля ўваходжання Кіеўскага княства ў склад ВКЛ, ці ў хуткім часе пасля гэтага.

Удзельныя манеты Уладзіміра Альгердавіча можна падзяліць на тры асноўныя тыпы, якія адрозніваюцца паміж сабой толькі выявай у цэнтры манеты, вакол якой размешчана імя князя:

- з "пляцёнкай";
- з літарамі або знакамі "IS";
- з "бізантыйскім" крыжам, у кутках якога размешчаны чатыры кропкі.

На адваротным баку ўсе гэтыя манеты маюць княскі кляйнод. На сённяшні дзень няма канешнага тлумачэння гэтых сымбаляў, асабліва што тычыцца першых двух. Можна выказаць меркаванне, што "пляцёнка" не ёсць сымбалем васальнай залежнасці ад Залатой Арды, бо гэта не ханская тамга, а нясе чыста дэкаратыўны характар у сэнсе "вузла шчасця", які ў розных варыянтах шырока распаўсюджаны на татарскіх манетах, з якіх, пэўна, і быў пераняты. Знак "IS" часта прымаюць за літару "К", якой ён у сапраўднасці не ё, бо часта мае варыянт з люстэркавай "S", а на некаторых манетах паміж I і S стаіць раздзяляльная кропка. Сымбаль "бізантыйскі крыж" ёсць найпазнейшым на кіеўскіх манетах. Ён, відавочна, мае хрысціянскі сэнс, а яго з'яўленне можна звязаць з атрыманнем мітрапалітам Літоўскім Кіпрыянам у 1389 г. афіцыйнага тытулу "мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі". Зазначым, што Кіпрыян меў рэзыдэнцыю ў Кіеве. Гэтая падзея безумоўна ўзвышала статус і самога кіеўскага князя, які валодаў "сталіцай" праваслаўя ўсіх рускіх земляў, што магло адбіцца і на манетах у постаці крыжа.

Знаходкі скарбаў манет Уладзіміра Альгердавіча досыць рэдкія. Упершыню 2 ягоныя манеты былі знойдзеныя ў складзе Гваздоўскага скарбу пад Кіевам у 1873 г., разам з 7 грыўнямі наўгародскага тыпу і 3 палцінамі, а таксама шасцю залатаардынскімі манетамі, датаванымі 1330, 1359, 1364 гадамі. Яны былі апісаныя Антановічам, які ўпершыню вызнаў гэтыя манеты за эмісію Уладзіміра Альгердавіча [1, б. 15]. На сённяшні дзень вядома звыш 1200 манетаў Уладзіміра, абсалютная бальшыня якіх

паходзіць з тэрыторыі Кіеўшчыны і Чарнегаўшчыны. Вядомыя таксама знаходкі на поўдні Украіны, у тым ліку і ў Крыме, Краснадарскім краі Расеі, на тэрыторыі сучаснай Летувы (Чырвонадворскі скарб). Самы буйны скарб манетаў Уладзіміра Кіеўскага – Сосніцкі (Кіеўская вобласць), змяшчаў 969 манетаў гэтага князя. На падставе вывучэння Сосніцкага скарбу, М. КатлярОм было вылучана 5 тыпаў манетаў Уладзіміра Альгердавіча: апроч вышменаваных, яшчэ 2 тыпы "брактэатаў" з крыжам і "княскім знакам". Была прапанаваная наступная храналогія біцця манетаў Уладзіміра: 1 – манеты з пляцёнкай (**25**), 2 – манеты з "IS" (**26**), 3 – манеты з крыжам (**27**), 4 – "брактэаты" [17, б. 52–59, 98].

Аналіз вядомых скарбаў паказвае, што найбольш раннімі былі тыпы з "пляцёнкай" і знакам "IS", якія важылі першапачаткова каля 0,60–0,65 г. Няма пераканаўчых дадзеных за тое, што наступны тып змяняў папярэдні, што дазваляе меркаваць аб паралельным біцці і манетаў з "пляцёнкай", і манетаў з "IS". Адлі, можна дастаткова ўпэўнена казаць пра адносна непрацяглае біццё манет з "пляцёнкай" і даволі працяглае біццё манет з "IS". За гэта сведчаць вагавыя характарыстыкі гэтых тыпаў, дзе манеты з "IS" маюць найбольшы вагавы дыяпазон – 0,18–0,64 г., супраць 0,47–0,67 г. манетаў з "пляцёнкай". Такі вялікі дыяпазон вагаў манет з "IS" сведчыць аб працяглым часе іх біцця і паступовым зніжэнні вагі за кошт паніжэння якасці з цягам часу з аднаго боку, і пераходам ад грашовае сыстэмы, заснаванае на залатаардынскіх дзенгах (у 1360–1370-я гг.), да сыстэмы, заснаванае на праскім грошы (у 1380–1390-я гг.) з другога. За працяглы тэрмін абарачэння гаворыць значная пацёртасць манетаў, а таксама знаходкі разрубленых удвая больш ранніх, паўнавартасных манетаў, якія, магчыма, такім чынам даводзіліся да новае нарматыўнае вагі.



**Падзеленая ўдвая манета Уладзіміра Альгердавіча**

У самым канцы 1380-х або ў самым пачатку 1390-х гадоў пачынаецца біццё новага тыпу манетаў з "бізантыйскім" крыжам. У Сосніцкім скарбе манеты з крыжам складаюць 74% агульнай колькасці, 20% – манеты з "IS", манеты з "пляцёнкай" – усяго толькі 0,5%.

Абсалютная бальшыня манетаў з крыжам можа сведчыць за тое, што манеты з "IS" актыўна выключаліся з грашовага абарачэння шляхам асядання ў скарбах і паступовым выціраннем, а манеты з "пляцёнкай" на гэты час амаль цалкам выйшлі з абарачэння.

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Уладзімір Альгердавіч. ПЕНЯЗЬ** | | | |
| **25** | | | Av "Пляцёнка", ВОЛОДНМНРОВА<br>Rv "Княскі знак" Уладзіміра Альгердавіча<br>Кіеўскае княства, каля 1363–1377 гг., срэбра, дыяметр 14–15 мм, вага 0,47–0,67 г. |
| **26** | | | Av "I.S", ВОЛОДНМНРОВА<br>Rv "Княскі знак" Уладзіміра Альгердавіча<br>Кіеўскае княства, каля 1363–1389 гг., срэбра, дыяметр 12–15 мм, вага 0,18–0,64 г. |
| **27** | | | Av Крыж, ВОЛОДНМНРОВА<br>Rv "Княскі знак" Уладзіміра Альгердавіча<br>Кіеўскае княства, каля 1389–1394 гг., срэбра, дыяметр 12–13 мм, вага каля 0,26 г. |
| **Уладзімір Альгердавіч. АБОЛ (ПАЎПЕНЯЗЬ)** | | | |
| **28** | | – | Av Крыж<br>Rv –<br>Кіеўскае княства, каля 1393–1394 гг., срэбра, дыяметр 10–11 мм, вага 0,12–0,16 г. |
| **29** | – | | Av –<br>Rv "Княскі знак" Уладзіміра Альгердавіча<br>Кіеўскае княства, каля 1393–1394 гг., срэбра, дыяметр 10–11 мм, вага 0,14–0,16 г. |

У апошнія гады кіравання Уладзіміра Альгердавіча з'явіўся яшчэ адзін тып яго манетаў – так званыя "брактэаты". Гэта аднабаковыя маленькія манеткі без усялякіх надпісаў, вагой каля 0,15 г., дзе на адных змешчана выява крыжа (**28**), а на другіх – выява "княскага знака" Уладзіміра (**29**). Адметны выгляд і вельмі нізкая вага гэтых манетак дазваляе меркаваць аб увядзенні новага наміналу – паўпенязя або аболу, што рабіла грашовую сыстэму Кіеўскага княства больш зручнай у рынкавых адносінах і адной з найбольш развітых у рэгіёне. Такім чынам, грашовая сыстэма Кіеўскага княства ў канцы княжання Уладзіміра складалася з двух наміналаў – пенязя і абола.

## Удзельныя манеты Скіргайлы Альгердавіча

У 1394 г. у выніку цэнтралізацыі ўлады Вітаўтам, Уладзімір Альгердавіч быў пераведзены ў Капыль, а Кіеўскае княства перайшло пад уладу Скіргайлы Альгердавіча. Яго вельмі кароткае княжанне таксама было адзначана біццём уласнае манеты. У складзе Сосніцкага скарбу была знойдзеная адна манета, на адным баку якое месціцца выява крыжа, а на другім – леў, павернуты ўправа, які стаіць на чатырох лапах з павернутай назад галавой (**30**). Пячаткамі акурат з гэткімі сымбалямі карыстаўся Скіргайла яшчэ ў 1380 г., а манеты з сваім асабістым гербам – Лявом, ён біў яшчэ ў перыяд свайго вялікакняскага намесніцтва ў Вільні ў 1387–1392 гадох. На гэтых падставах, знойдзеная ў Сосніцкім скарбе манета была атрыбутаваная Скіргайлу Альгердавічу і аднесена да кіеўскае эмісіі. Манета мае вагу 0,33 г., што стасуецца з вагавымі характарыстыкамі апошніх манетаў Уладзіміра, а таксама пенязямі, бітымі Вітаўтам у 1390-х гг. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, Скіргайла прыбыў у Кіеў у канцы лютага ці пачатку сакавіка 1395 г., а памёр у самым пачатку 1396 г., пасля чаго Кіеў перайшоў пад непасрэдную ўладу Вітаўта, а княства страціла статус удзельнага. Такім чынам, біццё кіеўскіх пенязяў Скіргайлы можна акрэсліць 1395 годам, пачынаючы з вясны. Вельмі кароткі тэрмін біцця і абумовіў надзвычайную рэдчыню гэтых манетаў, якія сталі апошнімі ўдзельнымі манетамі Кіеўскага княства, і сымбалем яго апрычонасці.

| Скіргайла Альгердавіч. ПЕНЯЗЬ | | |
|---|---|---|
| 30 |  | Av Крыж<br>Rv Леў<br><br>Кіеўскае княства, каля 1395 г., срэбра, дыяметр каля 12 мм, вага 0,33 г. |

| N | Av | Rv | Rn | Дадатковая інфармацыя |
|---|---|---|---|---|
| 25 | | | R5 | |
| 26 | IS | | R4 | Люстэркавая S, I.S, часта памылкі ў легендзе |
| 27 | | | R5 | Часта памылкі ў легендзе |
| 28 | | – | R5 | |
| 29 | – | | R5 | |
| 30 | | | R* | |

# Падольскія манеты Карыятавічаў

## Падольскія паўгрошы Касцянціна Карыятавіча

У 2003 г. у Дунаеўцах Хмяльніцкае вобласці (Украіна) была знойдзеная манета, з прачытання легенд якое, напісаных лацінай, стала вядома імя эмітэнта – Касцянцін, а таксама тытул князя і верагоднае месца выбіцця – Смотрыч, які ў 14 ст. быў першай сталіцай Падольскага княства. Гэтае княства заснавалі князі Карыятавічы – сыны Наваградскага князя Міхала-Карыята, якія разам з Альгердам удзельнічалі ў разгроме татар на Сініх Водах у 1362 г. і атрымалі ва ўладанне адваяваную Падольскую зямлю. Сярод Карыятавічаў быў і Касцянцін, які валодаў Падоллем каля 1382–1390 гг.

Як высветлілася, гэта не адзіная вядомая манета. У музейных калекцыях ёсць яшчэ дзве аналагічныя манеты. Адна з іх захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі Украіны ў Кіеве і паходзіць з Вышгарада, дзе была знойдзена падчас археалагічных раскопак у 1937 г. Другая, раней апублікаваная, захоўваецца ў Вугорскім Нацыянальным музеі ў Будапешце [51, 6. 57]. Гэтыя манеты не атрымалі дакладнае атрыбуцыі дзеля кепскага стану надпісаў, хоць манета з ВНМ вядомая з 19 ст.

У 2004 г. у Дунаеўцах знойдзеная яшчэ адна манета, якая была апублікаваная хмяльніцкімі даследнікамі А. Пагарэльцам і Р. Саўвавам [33].

На сённяшні дзень вядома пяць манетаў Касцянціна (**31**), якія маюць амаль аднолькавыя надпісы, выкананыя готыкам: **Av**.: *MONETA CONSTATINI*, **Rv**.: *D H DOMINI DE SMOTRIC*. Рэканструкцыя легенды выглядае наступным чынам: + *MONETA CONSTA[N]TINI* / + *D[UCIS] H[EREDIS] [ET] DOMINI DE SMOTRIC*, што ў перакладзе чытаецца як "манета Касцянціна, князя, дзедзіча і гаспадара Смотрыча".

Цікавымі ёсць і выявы, змешчаныя на манетах Касцянціна. З аднаго боку выява Св. Юр'я Пераможца, які дзідай забівае цмока – родавы герб Карыятавічаў, які таксама прысутнічае і на шэрагу пячатак братоў. З другога боку – наследаванне гербу Вугорскае каралеўскае дынастыі, які ўяўляе сабой тарчу, разбітую на дзве часткі, дзе з аднаго боку тры пасы (герб старавугорскае дынастыі Арпадаў), а з другога сем лілеяў (герб дынастыі Анжу). Манеты не месцяць надпісаў, якія паказвалі 6 на прыналежнасць гэтага герба. Тлумачэннем гэтаму можа быць пераймальніцкі характар манетаў Касцянціна, а не васальная залежнасць ад Вугоршчыны. Наследаванне паспяховай на мясцовым грашовым рынку манеце было звыклай справай у той час, асабліва калі ўлічваць абмежаваныя эканамічныя рэсурсы і нястачу сыравіны, што было характэрна для Падольскага княства. Таму не дзіўна, што па

сваёй стапе манеты Касцянціна падобныя да Львоўскіх (*рускіх*) грошыкаў, а сваім вонкавым выглядам нагадваюць Вугорскія манеты, распаўсюджаныя ў гэтым рэгіёне. Падобны вонкавы выгляд і метралогію маюць таксама манеты суседняе Валахіі і Малдовы таго часу, што толькі пацвярджае нашае меркаванне.

Манеты Касцянціна бітыя на дастаткова высокім тэхнічным і мастацкім узроўні. Не выключана, што штэмпелі рэзаў запрошаны з Вугоршчыны майстар, пра што сведчаць высокі ўзровень і стыль выканання, наяўнасць лацінамоўных легенд, выкананых гатычнымі літарамі. Высокая проба і вага каля 1 г. паказвае, што за ўзор для манет Касцянціна быў узяты рускі грошык Людвіка Вугорскага, які таксама мае высокую пробу і вагу каля 1,1 г., эмітаваны да 1382 г., што храналагічна супадае з часам княжання на Падоллі Касцянціна, а манеты, бітыя ім, дазваляе ўважаць таксама грошыкамі (паўгрошамі ў дачыненні да праскага гроша).

З жаролаў 15 ст. вядома пра існаванне так званых "падольскіх паўгрошкаў" (найпазнейшая згадка ў 1429 г.) [18, б. 32–33]. З грамат вялікага князя Вітаўта 1418–1429 гг., дзе ўпамінаюцца "падольскія паўгрошкі", можна зрабіць выснову аб іх шырокім хаджэнні. Гэтак, у дзевяці граматах таго перыяду гаворка ідзе аб вельмі значных сумах ад 60 да 100 грыўняў падольскіх паўгрошаў, а агульная колькасць згаданых у дакументах – 630 грыўняў гэтых манетаў! Вельмі рэдкія знаходкі манетаў Касцянціна сведчаць аб вельмі нязначнай іх эмісіі, а таксама аддаленасць у часе паміж іх выбіццём і ўпамінаннем у граматах Вітаўта амаль на 40 гадоў, выключае магчымасць ужывання гэтых паўгрошаў на Падоллі ў 15 ст. у якасці найбольш распаўсюджаных манетаў. Такім чынам, "падольскія паўгрошкі" 15 ст. ёсць нічым іншым, як звычайнымі галіцка-рускімі грошыкамі. За гэта сведчаць шматлікія знаходкі гэтых манетаў як на Падоллі, гэтак і на памежных з ім землях.

Застаецца пытанне аб часе біцця паўгрошаў Касцянціна. Пасля смерці Людвіка ў 1382 г. эмісія рускіх грошыкаў спынілася, што выклікала пэўную нястачу гатовае манеты на рынку, у тым ліку і на суседнім Падоллі, дзе аснову грашовага абарачэння складалі менавіта рускія грошыкі. Брак прывазное манеты вымагаў Касцянціна пачаць біццё ўласнае, якая павінна была кампенсаваць нястачу гатоўкі. Пасля прыезду ў Галіччыну Уладзіслава Апольскага ў 1386 г. біццё рускіх паўгрошаў аднавілася, і яны зноў пачалі паступаць на Падолле ў значнай колькасці. У гэтых умовах эмісіі паўгрошаў Касцянціна страчвалі эканамічную мэтазгоднасць і, відаць, былі спыненыя, пра што сведчыць і вельмі малая колькасць іх знаходак. Такім чынам, найбольш верагодным перыядам біцця паўгрошаў Касцянціна можна ўважаць перыяд паміж 1382–1386 гг.

## Падольскія пенязі Тодара Карыятавіча

У складзе знакамітага Сосніцкага скарбу 1911 г., сярод больш за тысячу манет канца 14 ст., у асноўным Уладзіміра Альгердавіча, выяўлены пенязь эўрапейскага тыпу, які за падабенства знака на адным з бакоў манеты да тамгападобнага знака на двухбаковай пячатцы Тодара Карыятавіча, быў аднесены да яго эмісіі (**32**) [44, б. 47].

Даследванні вядомай выявы пенязя і выкарыстанне метада прарысоўкі паказалі, што "тамгападобны" знак ёсць насамрэч манаграмай лацінскіх літараў ТМ, якія расшыфроўваюцца як T[heodorus] M[ichael] – Тодар Міхайлавіч. Як вядома, Міхал – гэта хрысціянскае імя Карыята, бацькі Тодара. Над манаграмай ТМ стаіць маленькі крыжык з раздвоенымі канцамі.

На другім баку манеты – выява кароны, пад якой літары d•P, падзеленыя кропкай, пад якімі тры маленькія колцы. Літары можна прачытаць як d[ux] P[odoliae] – "князь Падольскі". Так тытулаваў сябе Тодар Карыятавіч у сваёй грамаце 1391 г.: "*Мы, княз Федоръ Корьятович дедичь и господарь Подольскои земли*", а тытул з яго лацінамоўнай граматы 1408 г. амаль цалкам адпавядае скарачэнням на падольскім пенязі: "*Princeps Theodorus dux Podoliae*".

Даследванне манеты паказвае, што яна білася ад імя толькі аднаго князя – Тодара. З гістарычных жаролаў вядома, што 19 верасня 1388 г. Тодар быў суправіцелем Касцянціна ў Падольскай зямлі, а ўжо 20 чэрвеня 1391 г. – гаспадаром Падольскай зямлі. Быў пазбаўлены Падолля Вітаўтам у 1393 г. і ўцёк у Закарпацце, дзе валодаў Мукачавам. Такім чынам, пенязі Тодара біліся ў перыяд яго княжання на Падоллі каля 1391–1393 гг.

| Касцянцін Карыятавіч. ГРОШЫК (ПАЎГРОШ) | | |
|---|---|---|
| 31 |  | Av Св. Юры Пераможца на кані забівае дзідай цмока, +MONETA★CONSTATINI<br>Rv Наследаванне Вугорскаму каралеўскаму гербу, +D H DOMINI★DE SMOTRIC<br>Смотрыч, каля 1382–1386 гг., срэбра, вага 0,7–1,02 г. (сярэдняя вага каля 1 г.), дыяметр 17,5–18,5 мм, проба 875–900 |

| Тодар Карыятавіч. ПЕНЯЗЬ | | |
|---|---|---|
| 32 |  | Av Манаграма ТМ, над ёй крыжык<br>Rv Пад каронай літары d•P, пад імі тры колцы<br>Камянец-Падольскі, каля 1391–1393 гг., срэбра, дыяметр каля 12 мм, вага 0,32 г. |

| N | Av | Rv | Rn | Дадатковая інфармацыя |
|---|---|---|---|---|
| 31 | Св. Юры | | R7 | Вядомы экзэмпляр з легендай справа налева |
| 32 | | d•P | R* | |

Не толькі сваімі манетамі паслугоўваліся нашыя продкі ў канцы 14-га – 15-м стагоддзях. Пра праскія грошы ўжо была мова раней. У пачатку 15 стагоддзя ў грамаце Вітаўта ўпамінаюцца "падольскія паўгрошкі", якія, падобна, абазначалі ў той час галіцка-рускія грошыкі.

Тэрыторыі Чырвонае Русі, якія аспрэчваліся і вялікалітоўскімі князямі, былі апанаваныя польскім каралём Казімірам Вялікім у 1349 г. Дагэтуль уладаром Галіччыны быў ліцьвін князь Любарт Гедзімінавіч. За Казіміра палітычным цэнтрам зямлі становіцца Львоў, а сама яна мае статус аўтаноміі. Казімір і яго наступцы б'юць у львоўскай мынцы срэбныя **грошыкі** і медзяныя **пулы**.



**Грошык рускі Уладзіслава Апольскага**



**Грошык рускі Уладзіслава Ягайлы**

Манеты першых трох эмітэнтаў рэдкія і сягаюць на рынку 200–300 у.а. Ягайлавы грошыкі сустракаюцца часцей (100 у.а.).

У 1394 годзе пачынаецца біццё каронных паўгрошаў Ягайлы. З гэтага часу грашовая сыстэма Чырвонае Русі губляе сваю адметнасць. Да прыкладна 1414 г. Львоў б'е **паўгрошы** па польскай стапе (40 у.а.).



**Паўгрош львоўскі Уладзіслава Ягайлы**

*Манеты Русі Чырвонае*

| Эмітэнт | Гады | Пулы, вага, г. | Грошыкі, вага, г. |
|---|---|---|---|
| Казімір Вялікі | 1351–1370 | 0,70–1,36 | 1,80–1,82 |
| Уладзіслаў Апольскі | 1372–1379 | 0,74 | 1,17–1,30 |
| Людвік Вугорскі | 1379–1382 | 0,60–1,45 | 1,07–1,12 |
| Уладзіслаў Апольскі | 1385–1386 | – | каля 1,07 |
| Ягайла Уладзіслаў | 1389–1394 | – | 0,80–1,20 |

З 1394 года былы вялікі князь Ягайла пачынае эмісію польскіх **паўгрошаў**. З перапынкамі яны біліся да канца яго панавання. Тыпы паўгрошаў без літары пад каронай на беларускім калекцыянерскім рынку каштуюць каля 15 у.а., з літарай – 20 у.а.



**Каронны паўгрош Ягайлы з літарай N**

Нізкапробныя каронныя **пенязі** Ягайлы і ягонага сына Уладзіслава Варненчыка каштуюць каля 10 у.а.



**Каронны пенязь Ягайлы**

Ягайлавы пенязі месцяць лілеі альбо крыжыкі ў полі кароны, а Уладзіслававы – знак у выглядзе літары Λ.

З манетаў іншых краінаў курсуюць **крыжацкія** шэлягі розных магістраў (30 у.а.).



**Крыжацкі шэляг магістра Міхала Кухмайстра 1410-х гг.**

Па абранні на польскі пасад Казіміра Ягайлавіча ў грашовае абарачэнне ВКЛ пачынае паступаць усё болей а болей манетаў Польскага Каралеўства. Раннія **паўгрошы** Казіміра Ягайлавіча з літарамі пад каронай ёсць рэдкімі (каля 200 у.а.), позніяж (без літараў) – паспалітымі (5 у.а.).

Прускія месты Тарунь, Эльблёнг і Гданьск, ленныя Польскаму Каралеўству, білі манеты па сваёй стапе, а наймя **шэлягі** з імём Казіміра. Кошт гэтых манетаў складае 40 у.а.

Іншы прадстаўнік дынастыі Ягайлавічаў – Уладзіслаў, апанаваўшы **вугорскі** і чэскі пасады, адзначыўся шматлікімі эмісіямі традыцыйна разнастайных наміналаў гэтых краін. На залатыя манеты Уладзіслава клаўся і герб Пагоня зямлі яго продкаў – Вялікага Княства Літоўскага.



**Кракаўскі паўгрош**
**Казіміра Ягайлавіча з літарамі ТМ**



**Кракаўскі паўгрош**
**Казіміра Ягайлавіча без літараў пад каронай**



**Таруньскі шэляг Казіміра Ягайлавіча**



**Вугорскі гульдэн Уладзіслава Ягайлавіча**



**Вугорскі пенязь Уладзіслава Ягайлавіча**

Сярод манетаў, якія ўскосна маюць дачыненне да Вялікага Княства, можна адзначыць і дзенгі вольнага места Пскова. Уважаецца, што выява чалавека на яе аверсе належыць літоўскаму князю Даўмонту, пазней князю пскоўскаму, сучасніку Міндоўга.



**Дзенг пскоўскі 15 ст. з выявай князя Даўмонта**

У Аляксандрава княжанне пачалося біццё манеты Вялікага Княства Літоўскага на заходнеэўрапейскі кшталт. З пачатку 1490-х гадоў, яшчэ за жыцця Казіміра Ягайлавіча, ягоны сын Аляксандар атрымаў права адкрыцця мынцы ў Вільні. На працягу дзесяцігоддзя ці крыху болей там біліся **пенязі** (з гатычнай і рэнесансавай літарай А, альбо зусім без літары), а таксама першыя літоўскія **паўгрошы** Новага Часу з лацінскімі легендамі.

| Пенязь | | |
|---|---|---|
| 1 | 𝔄 | 20 |
| 2 | А | 30 |
| 3 | без літары | R |
| **Паўгрош** | | |
| 4 | гат. | 5 |
| 5 | гат.-рэн. | 30 |
| 6 | рэн.- гат. | 30 |
| 7 | рэн. | 5 |



**Пенязь Аляксандра з гатычнай А**

Паўгрошы выступаюць у гатычным, гатычна-рэнесансавым, рэнесансава-гатычным і рэнесансавым варыянтах.



**Гатычны паўгрош з растроеным хвастом каня**

Штэмпелі манетаў Аляксандра адзначаюцца ахайнасцяй работы, што выявілася ў мізэрнай колькасці манетаў з перавернутымі літарамі ці памылкамі. Апошнія ёсць рэдкімі і каштуюць болей.



**Гатычны паўгрош з перавернутай літарай D у слове ALEXANDRI**



**Рэнесансавы паўгрош Аляксандра**

Рэдкія пенязі без жаднае літары над Пагоняй адносяцца рознымі даследнікамі да перыяду 1490–1492 гг., альбо да бескаралеўя па смерці Аляксандра, якое цягнулася колькі месяцаў.

Пробны грош Аляксандра, натаваны ў некаторай літаратуры, на гэты момант згублены. Да таго ж, яго аўтэнтычнасць выклікае вялікія сумневы.

Вялікі інтарэс для беларускіх даследнікаў і калекцыянераў уяўляюць медзяныя і білонавыя шэлягі Лівонскага Ордэна, якія былі ў вялікай колькасці бітыя ў буйным гандлёва-эканамічным вялікалітоўскім цэнтры 15–16 ст. – **Полацку**. Захаваныя дакументы сведчаць не толькі пра месца іх вырабы, але і пра прыблізны наклад – перабіта на манеты было не меней за 960 кг. кову, а ў рэчаіснасці напэўна болей – а гэта мільён ці болей штук!



**Полацкая падробка вэндэнскага шэлягу Лівонскага Ордэну**

Такім чынам, у канцы 15 – пачатку 16 стагоддзяў у Полацку існавала сапраўдная добра арганізаваная фальсыфікатарская мынца.

Недарма прадпрымальныя палачане абралі ў якасці прыкладу **лівонскія** шэлягі. Гэтыя срэбныя ў арыгінале манеты былі добра вядомыя на паўночным усходзе краіны і шырока выкарыстоўваліся для гандлю з лівонцамі.



**Вэндэнскі шэляг магістра Фрайтага фон Лорынгофэна (1483–1494)**

З іншых замежных манетаў за часоў Аляксандра курсуюць **польскія** паўгрошы гэтага ж уладцы, бітыя ў Кракаве (10 у.а.), праскія грошы, **прускія і ордэнскія** шэлягі.

Да апанавання польскага каралеўскага пасаду праз Аляксандра яго даволі кароткі час займаў Ян Вольбрахт, які таксама біў паўгрошы (10 у.а.).

У гуртовым гандлю шырака ўжываліся заходнеэўрапейскія дукаты, асабліва **вугорскія** (500 у.а.). Разам з імі з Вугоршчыны, якая мела багатыя мынцарскія традыцыі, заносіліся і шматлікія срэбныя пенязі (5 у.а.).



**Каронны паўгрош Аляксандра**



**Каронны паўгрош Яна Вольбрахта**



**Дукат вугорскі Мацея Корвіна 1458–1490**




**Пенязь вугорскі Людвіка 1525 г.**

# Жыгімонт Стары



За часоў Жыгімонта Старога працягвала працаваць мынца ў Вільні, якая біла **паўгрошы** (1508–1529) і **грошы** (1535–1536).



**Паўгрош 1513 г. з скарочанай датай**

Апроч стандартных тыпаў паўгрошаў выступае мноства відаў з стылістычнымі асаблівасцямі (вершнік з похвай, тарчай, колцы ў розных месцах побач і на Пагоні і г.д.), памылковымі ці скарочанымі легендамі (SIGISMVANDI, SIGISMVND, MAGI, MONTEA, LITANIE, DVCI і г.д.), памылковымі датамі. Усе яны каштуюць болей за звычайныя.



**Паўгрош 1516 г. з поўнай датай і колцам над Пагоняй**

На канчатках легендаў гэтых манетаў звычайна стаяць колцы ў пэўнай колькасці – ад аднаго да пяці, ці зусім без колцаў. Варыянты з двума колцамі ці без колцаў сустракаюцца часцей за засталыя, асабліва гэта тычыцца ранніх тыпаў (1508–1517). Адлі на цану гэта амаль не ўплывае.

У 1518–1519 гг. адбыўся пераход у дызайне паўгрошаў з гатычнага шрыфта на рэнесансавы. Сустракаюцца манеты з пераходным, гатычна-рэнесансавым ці рэнесансава-гатычным дызайнам, якія паходзяць з 1518 і 1519 гадоў.



**Паўгрош 1519 г. з рэнесансава-гатычным дызайнам і адным колцам па LITVANIE**

Пэўная частка паўгрошаў, адбітых у 1528–1529 гадох, маюць знак V, які мог азначаць намінал манеты ў пенязях альбо ініцыял дзяржаўцы мынцы Ульрыка Гозэ.



**Паўгрош 1528 г. з літарай V і памылкамі ў легендзе (MONEA замест MONETA; LITANIE)**

У 1535–1536 гг. былі выбітыя першыя літоўскія грошы, частка з якіх пазначалася першай літарай месяца выбіцця.






**Грош 1535 г.**

| Паўгрош | | |
|---|---|---|
| 1 | **1508** | R |
| 2 | **1509** | 8 |
| 3 | **1510** | 8 |
| 4 | **1511** | 8 |
| 5 | **151Z** | 50 |
| 6 | 1Z | 8 |
| 7 | Z1 | 30 |
| 8 | **1513** | 20 |
| 9 | 13 | 8 |
| 10 | 1•3 | 35 |
| 11 | **1514** | 8 |
| 12 | 514 | 40 |
| 13 | 14 | 40 |
| 14 | **1515** | 8 |
| 15 | 15 | 30 |
| 16 | 15151 | 50 |
| 17 | **1516** | 50 |
| 18 | 16 | 10 |
| 19 | **1517** | 10 |
| 20 | 17 | 50 |
| 21 | 151> | 15 |
| 22 | 151Λ | 15 |
| 23 | 15TA | 30 |
| 24 | **1518** | 10 |
| 25 | 1518 рэн. /гат. | 20 |
| 26 | 1518 гат. /рэн. | 20 |
| 27 | **1519** гат. | 30 |
| 28 | 1519 рэн. /гат. | 20 |
| 29 | 1519 гат. /рэн. | 20 |

| | | |
|---|---|---|
| 30 | 1519 рэн. | 10 |
| 31 | 519 | 30 |
| 32 | 151:9 | 20 |
| 33 | 159:1 | 30 |
| 34 | 1510 | 30 |
| 35 | 5191 | 50 |
| 36 | **15Z0** | 10 |
| 37 | 5Z0 | 20 |
| 38 | 15Z | 20 |
| 39 | 151Z0 | 30 |
| 40 | 1520 | 10 |
| 41 | **15Z1** | 10 |
| 42 | 5Z1 | 20 |
| 43 | Z1 | 20 |
| 44 | 151Z | 30 |
| 45 | **15ZZ** | 10 |
| 46 | 15ZZ1 | 30 |
| 47 | 1ZZZ | 30 |
| 48 | 5ZZ | 20 |
| 49 | 5ZZ:1 | 30 |
| 50 | **15Z3** | 15 |
| 51 | 5Z3 | 30 |
| 52 | 51Z3 | 50 |
| 53 | 12Z3 | 30 |
| 54 | **15Z4** | 20 |
| 55 | 15Z4 рэн. /гат. | 30 |
| 56 | 15Z4 | 20 |
| 57 | 15Z:4 | 30 |
| 58 | 5Z4 | 30 |
| 59 | S5Z4 | 30 |

| | | |
|---|---|---|
| 60 | S5Z4 | 30 |
| 61 | **15Z5** | 20 |
| 62 | **15Z6** | 30 |
| 63 | **15ZΛ** | 30 |
| 64 | 15ZV | 40 |
| 65 | 155V | 40 |
| 66 | 155Λ | 40 |
| 67 | 15V | 40 |
| 68 | 15Λ | 40 |
| 69 | 151ZΛ | 50 |
| 70 | 10ZΛ | 50 |
| 71 | **15Z8** | 120 |
| 72 | 15Z8 рэн. /гат. | 200 |
| 73 | 15Z8 v | 250 |
| 74 | **1529** | 700 |
| 75 | 1529 v | 350 |

| Грош | | |
|---|---|---|
| 76 | **1535** | 200 |
| 77 | **1535 A** | R |
| 78 | **1535 S** | R |
| 79 | **1535 N** | 250 |
| 80 | **1536** | 300 |
| 81 | **1536** Стаўпы ў тарчы | 300 |
| 82 | **1536 I** | 200 |
| 83 | **1536 F** | 250 |
| 84 | **1536 M** | 250 |
| 85 | **1536 A** | 250 |



**Грош 1535 г. з літарай S**



**Грош 1536 г. з літарай F**

Апроч собскіх манетаў Вялікага Княства, шырака курсавалі манеты Каралеўства Польскага, Лівонскага Ордэну, Прус Каралеўскіх, каралявецкія грошы Альберта Гагенцолерна, свідніцкія паўгрошы, грошы памежных з Польшчаю нямецкіх княстваў (напрыклад, Легніца-Бераскага). Арыентацыйныя цэны на манеты пададзеныя ніжэй для найбольш характэрных тыпаў.

У 1506 годзе будучы вялікі князь літоўскі Жыгімонт Стары выбіў у сваім тагачасным удзеле **Глогаве** першую датаваную манету

польска-літоўскае нумізматыкі – глогаўскі грош (200 у.а.). Ён мае зырка выражаную стылістычную повязь з радзімай князя – асноўным графічным элементам аднаго з бакоў ёсць Пагоня. Існуюць таксама глогаўскія грошы без даты (200 у.а.).



**Грош крыжацкі Альберта Гагенцолерна 1521 г.**



**Глогаўскі грош Жыгімонта Старога з Пагоняй (1506 г.)**

**Польскія** манеты біліся ў Кракаве. Гэта былі рэдкія пенязі, трацякі (сярэдняя цана ў стане III – 30 у.а.), паўгрошы 1507–1511 і

недатаваны (10 у.а.), грошы 1526–1529, 1545–1548 (35 у.а., але даражэй на рэдшыя тыпы), вельмі рэдкія траякі, шастакі, дукаты.



**Грош брандэнбурскі 1544 г.**



**Паўгрош кракаўскі 1509 г.**

**Прускія** месты Польшчы – Тарунь, Эльблёнг і Гданьск білі рэдкія пенязі, шэлягі (15 у.а.), грошы, траякі (эльблёнскі і гданьскі каля 120 у.а.), і вельмі рэдкія шастакі і дукаты (апошнія толькі Гданьск).

Шырокае хаджэнне мелі грошы Таруні (30 у.а.), Эльблёнга (40 у.а.), Гданьска (40 у.а.), якія біліся на стапе, аднолькавай з польскай. Мынцарства Прус нямецкіх (Каралявец) было прадстаўлена пенязямі (20 у.а.), шэлягамі (15 у.а.), грошамі (40 у.а.) і траякамі (100 у.а.). Для буйных разлікаў працягвалі карыстацца заходнеэўрапейскімі дукатамі.

Працягвалі курсаваць срэбныя **рыскія** шэлягі (25 у.а.).






**Грош эльблёнскі 1540 г.**





**Шэляг рыскі 1546 г.**





**Паўгрош свідніцкі 1525 г.**

У 1520-я гады пачаўся наплыў нізкапробных паўгрошаў **свідніцкіх** (10 у.а.), якія спрычыніліся да вялікага замяшання фінансаў ВКЛ, а найболей Польскага Каралеўства. Гэтыя манеты біліся ў 1517–1528 гг. і былі дужа падобныя да паўгрошак польскіх, але месцілі меней срэбра.

Жыгімонт III (II) Аўгуст стаў Вялікім князем Літоўскім у 1544 годзе, пры захаванні ягоным бацькам Жыгімонтам Старым вярхоўнае ўлады ў Каралеўстве Польскім.

Ужо з 1545 г. была зноў адчыненая віленская мынца, дзе цягам уладарання Жыгімонта былі выбітыя пенязі меншыя (1545–1547), пенязі (1546–1560, 1563), паўгрошы (1545–1565), грошы па літоўскай стапе (1545–1546, 1555–1557, 1559), грошы па польскай стапе (асмакі), бітыя для Кароны (1545–1548), а таксама траякі (1546–1547, 1556, 1562–1564), шастакі (1547,1562), дукаты, двудукаты, дукаты патройныя і партугал 1562 года.

Рэформа 1565 г., якая мела на мэце падрыхтаваць глебу для задзіночання грашовых сыстэмаў ВКЛ і Польшчы, увяла новыя намінaлы: двупенязі (бітыя у 1565 (пробны), 1566, 1567, 1569, 1570), новыя грошы па стапе польскай (1566–1568), двугрошы (1565) і чворкі (1565–1569).

Такія намінaлы дазваляли лічыць нацэла ў абедзвюх грашовых сыстэмах – літоўскай і польскай. Гэтак, літоўскі пеняэь падвойны быў роўны польскаму чвэрцыгрошу, а чворак – пяцём лічыльным грашом польскім. Тым самым касавалася адметная вялікалітоўская манетная сыстэма, якая існавала з канца 14 стагоддзя.

Дзеля ж гэтага зусім не працавалі каронныя мынцы, якія сталіся замкнёнымі адразу па смерці Жыгімонта Старога.

Ад 1564 года працавала мынца ў Тыкоціне (крыху на захад ад Горадні, цяпер на тэрыторыі Польскае Рэспублікі), дзе былі выбітыя чвэрцькопкі (15-грашоўкі) і паўкопкі (30-грашоўкі) (1564), траякі з здзеклівай легендай QVI HABITAT COELIS IRRIDEBIT EOS (1565–1566) ("Абыватaлі нябёсаў пасмяюцца з вас", то бок з тых прадстаўнікоў літоўскіх палітычных вярхоў, якія пратэставалі супраць уніі), грошы па стапе польскай (1566–1568), паўгрошы і грошы па стапе літоўскай (1566). Па 1570 г. жаднае манеты літоўскія мынцы не білі.

Панаванне Жыгімонта Аўгуста ёсць перыядам найбольшага росквіту мынцарства Вялікага Княства Літоўскага. За яго часоў білася найбольш намінaлаў, дызайн манетаў быў адзін з найпякнейшых у Эўропе. Гэтак, малюнак чворку ў сваіх манетах наследавалі ў Сілезіі і П'емонце. Шырока вядомая гэтая манета была ў Нямеччыне, дзе мела назоў *spitzbärtle – спічбародак* – у гонар доўгае спічастае барады вялікага князя.

| Пенязь меншы | | |
|---|---|---|
| 1 | **1554 (1545)** | R |
| 2 | **1546** | 500 |
| 3 | 1546 (SA у тарчы) | R |

| | | |
|---|---|---|
| 4 | **1547** | 1000 |

| Пенязь | | |
|---|---|---|
| 5 | Недатаваны **(1545)** | R |

| | | |
|---|---|---|
| 6 | **1546** | 150 |
| 7 | А на грудзёх Арла | R |
| 8 | **1547** | 150 |
| 9 | **1548** | 150 |
| 10 | **1549** | 150 |

| | | |
|---|---|---|
| 11 | **1550** | 120 |
| 12 | **1551** | 80 |
| 13 | **155Z** | 80 |
| 14 | **1553** | 70 |
| 15 | **1554** | 40 |
| 16 | **1555** | 25 |
| 17 | **1556** | 25 |
| 18 | **1557** | 25 |

| | | |
|---|---|---|
| 20 | **1559** | 25 |
| 21 | 15559 | R |
| 22 | 1599 | R |
| 23 | **1560** | 40 |
| 24 | **1563** | 70 |
| 25 | 7 тып Пагоні | 100 |

| Падвойны пенязь | | |
|---|---|---|
| 26 | **1566** | 20 |
| 27 | **1567** | 20 |
| 28 | **1569** | 20 |
| 29 | 1559 | R |
| 30 | **1570** | 20 |
| 31 | Пятра Плацiны | 30 |
| 32 | 1550 | R |



**Пенязь меншы 1546 г.**




**Двупенязь 1570 г.**



**Пенязь 1559 г.**




**Двупенязь 1570 г., штэмпель П. Плацiны**

Пенязі меншыя адпавядалі палове звычайнага пенязя і былі ўведзеныя дзеля выкупу нізкаякасных свідніцкіх паўграшоў у насельніцтва. Яны заўсёды выступаюць толькі ў выглядзе адзінкавых знаходак.

Паўгрошы адзначаюцца найбольшай стылістычнай разматасцю, налічваючы не меней за 8 кардынальна розных выяваў Пагоні і 5 польскага Арла.



**Недатаваны (1545) паўграш**

*1 тып Пагоні* *1 тып Арла*



**Паўграш 1545 г.**

*2 тып Пагоні* *2 тып Арла*

Бітыя ў 1546 г. паўгрошы маюць найбольшую іх колькасць (гэты год быў пераходным ад т.зв. "кракаўскае" групы штэмпеляў да "каралявецкае"). Цікавасць выклікае раней неапісаны варыянт Пагоні з завостранай тарчай і без шпоры на назе вершніка (тып 5а). Брак

пэўных дэталяў выявы аўтаматычна не сведчыць пра ўнікальнасць манеты, бо ён мог быць выкліканы зужыццём штэмпеля, адлі ў гэтым выпадку і другая важная дэталь малюнку (тарча) мае выразна іншую форму.



**Паўгрош 1546 г.**
*3 тып Пагоні*



**Паўгрош 1546 г.**
*4 тып Пагоні* *3а тып Арла*

Замацоўваецца ўрэшце “каралявецкі” (па верагодным папярэднім месцы працы майстроў) варыянт з закругленай тарчай (тып 5b), якая, зрэшты, потым ізноў мяняе форму – з’яўляецца прагін замест простае лініі справа (тып 5c). Гэтая асаблівасць выразна відаць ужо на манетах, бітых пачынаючы з 1549 г.

У 1549, 1557 і 1560 гадох выкарыстоўваліся нестандартныя знакі для раздзялення словаў у легендах – трылісці, разеткі, рысачкі.



**Паўгрош 1546 г. з завостранай тарчай**
*5a тып Пагоні*



**Паўгрош 1546 г.**
*5b тып Пагоні*



**Паўгрош 1557 г.**
*5c тып Пагоні* *4 тып Арла*



**Паўгрош 1562 г. з гербам Сякера**
*6 тып Пагоні*



**Паўгрош 1564 г. з Арлом у кароне**
*3b тып Арла*



**Паўгрош 1564 г. з крыжом над Пагоняй**

| **Паўгрош** | | |
|---|---|---|
| Тытулатура пры Пагоні | | |
| **33** | Недатаваны **(1545)** | 600 |
| **34** | 1545 | 500 |
| **35** | 1.5.4.5 | R |
| **36** | 15:45 | R |
| Тытулатура пры Арле | | |
| **37** | 1545, 1 тып Пагоні | 500 |
| **38** | 2 тып Пагоні | 600 |
| **39** | **1546,** 1 тып Пагоні | 50 |
| **40** | 2 тып Пагоні | 50 |
| **41** | 3 тып Пагоні | 50 |
| **42** | 4 тып Пагоні | 30 |
| **43** | 5 тып Пагоні | 20 |
| **44** | **1547** | 12 |
| **45** | **1548** | 12 |
| **46** | **1549** ➤ | 12 |
| **47** | 1549 інш. | R |
| **48** | **1550** | 12 |
| **49** | **1551** | 15 |
| **50** | **155Z** | 30 |
| **51** | **1553** | 80 |
| **52** | **1554** | 180 |
| **53** | **1555** | 20 |
| **54** | **1556** | 12 |
| **55** | **1557** | 12 |
| **56** | 4 тып Арла | 40 |
| **57** | **1558** | 12 |
| **58** | **1559** | 12 |
| **59** | 1569 | R |
| **60** | **1560** згары ➤ | 12 |
| **61** | **1560** згары інш. | 50 |
| **62** | **1561** | 12 |
| **63** | 1651 | R |
| **64** | **156Z** | 12 |
| **65** | 6 тып Пагоні | 15 |
| **66** | Сякера здолу | 50 |
| **67** | Сякера збоч ці згары | R |
| **68** | 165Z | R |
| **69** | **1563** | 100 |
| **70** | Сякера здолу | 12 |
| **71** | 7 тып Пагоні | 10 |
| **72** | Крыж згары | 100 |
| **73** | 1533 | R |
| **74** | 1653 | R |
| **75** | **1564,** Сякера здолу | 12 |
| **76** | Крыж згары | 100 |
| **77** | Арол у кароне | 150 |
| **78** | **1565** | 50 |
| **79** | Сякера здолу | 12 |
| **80** | **1566,** вялікі Ястрабец | 180 |
| **81** | Малы | 320 |




**Тыкоцінскі паўгрош 1566 г. з гербам Ястрабец**

*8 тып Пагоні* *5 тып Арла*

# Фальсыфікаты і іх выкрыццё

*Тэж хто бы манэту нашую фальшаваў і без волі нашае перарабляў і абразаў, таксама і мынцары нашыя, якія золата і срэбра і іншую матэрыю, што належыць ці адносіцца да мынцы злівалі бы і мяшалі к пажытку свайму а шкодзе рэчы паспалітае, а гэта было б пра іх даведзена; тыя маюць быць пакараныя агнём без літасці.*

Статут ВКЛ 1566 г.
Раздзел I, артыкул 13.

Фальшаванне манетаў з'явілася адначасова з іх прадукцыяй. Гэты тып эканамічнага злачынства ёсць характэрным для ўсіх часоў і народаў. Фальсыфікатары манетаў як грашовага сродку заўсёды даставалі жорсткае кары з боку дзяржавы, што не замінала з'яўленню новых а новых падробнікаў дзеля таго, што хлеб гэны ёсць надзвычай лёгкім. А пакаранне сапраўды было суворае – у сярэднявеччы простае павешанне было для фальсыфікатараў за шчасце. У нашай краіне тарнавалася спаленне альбо адцінанне рукі. У Францыі злачынцы не ўнікалі зварэння зажыва, а ў Расеі ім залівалі ў горла метал.



**Высокаякасная тагачасная імітацыя шастака Яна Сабескага**

З цягам часу пакаранні змякчыліся і звяліся да доўгіх тэрмінаў зняволення.

Адлі з калекцыянерскага і навуковага гледзішчаў прадукты вышэйзгаданага тыпу фальшавання ёсць даволі цікавымі для вывучэння і збірання. Нярэдка дзівосныя тагачасныя падробкі выбіраюцца калекцыянерамі за галоўную тэму збірання, а навукоўцам дапамагаюць развязаць пэўныя гістарычныя пытанні.

Такія фальсыфікаты палягалі ў:

- выкананні манеты з паніжанай пробай кову;
- выкананні манеты з паніжанай вагай;
- выкананні крэдытнае манеты з альбо без пагаршэння пробы ці вагі;
- абцінанні кружка манеты дзеля здабычы каштоўнага металу.



**Медзяны паўгрош з Віленскае мынцы**

Манеты маглі фальшавацца і праз працаўнікоў мынцы, якія ўжывалі часам сапраўдныя штэмпелі для выбіцця фальшывых (з гледзішча пробы ці вагі) манетаў. Часам таемны загад пра псуццё грошай сыходзіў нават з самых вярхоў.

Не заставаліся ўзбоч і шараговыя грамадзяне, якія самі выконвалі штэмпелі і імітавалі манеты часам на высокім мастацкім роўні, але часам і такія, якія ўводзілі ў зман хіба што людзей непісьменных.

Не бяда – у старыя часы такіх мелася бальшыня. Зрэшты, выкананне манетаў якаснымі штэмпелямі прадугледжвала шырокую нагу, на якую была пастаўленая вытворчасць. Калі-некалі можна было абыйсціся і без дарагога абсталявання. Досыць было нажніцаў, якімі адцінаді сабе крышачку каштоўнага кову, гэтак, каб не заўважылі.



**Тагачасная імітацыя паўгроша Жыгімонта Старога**



**Польскі грош Жыгімонта Вазы і шастак таго ж уладцы, абцяты да памеру гроша**

Калі дзяржава пачынала сумнеўную справу з эмітаваннем крэдытных грошай, задача фальсыфікатараў значна спрашчалася. Не вымагалася ўжо паніжаць вагу ці пробу металу – трэба было толькі дакладна паўтарыць манету і прыбытак быў забяспечаны. Праект выбіцця медзяных шэлягаў Яна Казіміра – барацінак – быў нагэтулькі непрыхаваным рабаваннем народу, што прадпрымальныя сучаснікі спрычыніліся да павелічэння колькасці гэтае манеты ў абарачэнні Рэчы Паспалітай хіба не ўдвая. Пры гэтым яны не давалі сабе марокі што да вытрымання вагі. Іхнія вырабы часам нават цяжэйшыя ад афіцыйна эмітаваных шэлягаў. Выгодна было ўсё адно. Фальшавалі крэдытныя грошы і ў краіне, і за мяжой.



**Высокаякасная тагачасная імітацыя барацінкі**

Бяскаранна падраблялі манеты і цэлыя дзяржавы, але тое ўжо ўважалася не за злачынства, а за палітычны захад. Мы маем багата прыкладаў "падрыўніцкае" фінансавае дзейнасці суседзяў у дачыненні да грошай, якія курсавалі на тэрыторыі Беларусі. Гэта і свідніцкія паўгрошы, і шэлягі шведскія Вазаўскіх часоў, і "сеўскія чэхі", імітуючыя паўтаракі, і нахабна эмітаваныя польскія манеты Аўгуста III прускім каралём Фрыдрыкам Вялікім у 18 ст. і шмат якія іншыя.

Але нас, калекцыянераў, перш за ўсё непакояць фальсыфікаты пазнейшыя, у прыватнасці сучасныя, якія вырабляюцца на нашую шкоду. Гэтыя падробкі выконваюць злачынцы, якія разлічваюць на заробак з манеты, якая мае калекцыйную вартасць. Праз юрыдычную безабароннасць калекцыянераў, гэткая дзейнасць практычна заўсёды застаецца непакаранай, што зводзіць яе да справы сумлення. А эканамічная мэтазгоднасць вырobы фальшывых прадметаў калекцыянавання заўсёды ці амаль заўсёды ёсць. Веданне тэхнікі і іншых аспектаў манетнае вы-

творчасці ў часы, якія нас цікавяць, і параўнанне яе з сучаснымі "тэхналогіямі" можа дапамагчы калекцыянеру пазбегнуць падману. Разам з тым, варта асцерагацца і антыпадробніцкае гістэрыі з навешваннем цэтлікаў на асобныя прызнакі для адрознення фальсыфікатаў, калі падробкай можа здацца і цалкам сапраўдная манета. Толькі досвед і адыход ад простага збіральніцтва ў бок даследванняў ягоных прадметаў дапаможа станаўко вызначыць, ці ёсць манета падробкай.

Несапраўдныя калекцыйныя манеты можна падзяліць на:

- копіі гальванічныя;
- манеты, беспасярэдне выразаныя на кружку металу і музейныя муляжы;
- манеты, адлітыя ў фальшывых формах;
- манеты, бітыя фальшывымі штэмпелямі;
- манеты, бітыя старымі штэмпелямі ("навароблы").

Часткова сфальшаваныя манеты выпрабляюцца нашмат прасцей, але таксама не надаюць сабе каштоўнасці. Наймя гэта сапраўдныя манеты:

- з мадыфікаваным дызайнам для атрымання рэдшых альбо новых (псэўдаунікальных) тыпаў;
- з надбітай фальшывай контрамаркай;
- з паляпшэннем стану шляхам падразання ("рэстаўрацыі").

Штучнае каляраванне манеты не ёсць фальсыфікацыяй, але можа служыць для схавання слядоў як мадыфікацыі сапраўдных манетаў, гэтак і хібаў выробы фальсыфікатаў.

**Копіі гальванічныя** лёгка адрозніць ад сапраўдных манетаў і яны могуць увесці ў зман толькі пачаткоўца, які бачыць манету ўпершыню.

Хаця яны надзвычай дакладна паўтараюць арыгінальны малюнак манеты, бо створаныя шляхам электралітычнага асаджэння металу на капіраваным арыгінале, іх выкрыццё зводзіцца да аглядання ранту. Ён заўсёды мае сляды шва. Гэта абумоўлена асаблівасцямі гальванічнага працэсу, які дазваляе стварэнне толькі аднабаковых копій. Копіі гальванічныя заўсёды зробленыя з чыстага металу, найчасцей медзі, якую потым срэбраць, што можа быць дадатковым чыннікам выкрыцця гэткіх падробак.

Манеты, **беспасярэдне выразаныя** на кружку металу таксама не ўяўляюць сабой вялікае праблемы пры вызначэнні іх сапраўднасці, бо маюць выразна нетыповы выгляд. Нават недасведчаны калекцыянер, які бачыў хоць колькі манетаў, хай сабе іншых, гэтага перыяду, у стане іх выкрыць. Да гэтае ж групы можна аднесці музейныя муляжы, мэтай стварэння якіх і не быў ніколі падман калекцыянераў. Тым не менш, іх прыналежнасць да манетаў несапраўдных змушае іх тут адцеміць.



**Гальванакопія літоўскага траяка 1563 г.**



**Рант гальванакопіі літоўскага траяка з прадольным швом**

Вядомая падробка з шэрагу тых, якія не ўвядуць анікога ў зман – пенязь Вітаўта, сфальшаваны ў 1970-х гадох амерыканскім манетным дылерам Фрэнкам Лэпам.



**Пенязь Вітаўта ў выкананні Фрэнка Лэпы (вага 0,81 г.)**

**Адлівы** – наступная група фальсыфікатаў. Яны ўжо нашмат складанейшыя для вызначэння сапраўднасці і нават спрактыкаваныя калекцыянеры рызыкуюць памыліцца. Гэткія манеты ўтвараюцца метадам ліцця з формаў, знятых з арыгіналаў у выдатных станах, што дазваляе дакладна паўтарыць іх малюнак. Сяганне высокаякаснымі арыгіналамі вялікіх цэнаў у аукцыйным гандлі часам выклікана менавіта ўдзелам фальшароў, якім патрэбныя добрыя ўзоры для сваіх прадуктаў.

З цягам часу тэхналогіі ліцця дасканаляцца, што робіць адлівы болей а болей небяспечнымі. Тым не менш, ёсць шэраг прызнакаў, па якіх можна іх выкрыць. Манеты адлітыя менш вострыя ў элементах дызайну, нібы размытыя. Літары ў кутох залітыя. Дробныя манеты таўсцейшыя за арыгіналы. Наагул, ліццём фальшуюцца пераважна манеты большыя. Нетыповы рэльеф мае рант, у найлепшым выпадку відаць сляды злучэння адліўных формаў. Бракуе мынцавага бляску, паверхня мяжджэрая, з драбнюткімі бурбалкамі (велічыня якіх залежыць ад якасці ліцця – пры гэтым засцерагаем ад вызнання кожнае манеты з мяжджэрай паверхняй за адліў). Што праўда, бурбалкі могуць быць і на арыгінальных манетах з нізкапробнага срэбра, выкліканыя хімічнымі рэакцыямі, у прыватнасці з'яўляцца пасля чысчэння.

Часта такія фальсыфікаты падразаюць, каб пазбыцца размытасці і згары кладуць штучную патыну, напрыклад, брудна-шэрага колеру дзеля схавання яго хібаў.

Небяспечнымі ёсць адлівы грыўняў, бо самыя арыгіналы ліліся.



**Адліў таляра Жыгімонта Вазы 1628 г.**

Наяўнасць натуральнае старажытнае патыны забяспечвае пэўнасць у сапраўднасці манеты. У выпадку сумневаў беспярэчны адказ можа даць хімічны аналіз.

Манеты, бітыя **фальшывымі штэмпелямі** выкрыць найцяжэй, бо яны выкананыя той методыкай, якая тарнавалася ў старажытным мынцарстве. Яны маюць дакладна такую самую паверхню, як і арыгіналы, адзінае, чаго ім бракуе – старажытнае патыны.

Калі штэмпель для фальсыфіката выразаўся самаруч, адрозніць яго ад арыгіналу адносна не цяжка. Такая падробка ніколі не будзе падобная да сапраўднае манеты, якой бы кваліфікацыі не быў фальсыфікатар. У старажытных мынцах для рэзання штэмпеляў ужываліся пунсоны, г.зн. аднолькавыя элементы на адной манеце павінны выглядаць аднолькава, што не дасягалася вышэйзгаданай методыкай. Гэтак падрабляліся манеты галоўна даўней. Найбольш знакамітым фальсыфікатарам манетаў гэтай методыкай быў прафесійны разьбяр штэмпеляў Майнэрт у 19 ст. Ён спрычыніўся да паўстання вялізнае колькасці падробак буйных манетаў Рэчы Паспалітае, у тым ліку і "вынайшаў" колькі абсалютна новых тыпаў.

Зусім іншая справа – манеты, выробленыя пры дапамозе капіравання малюнку арыгінальнае манеты. Гэта робіцца шляхам ліцця штэмпеля, які пасля апрацоўваецца дзеля пазбаўлення ад тыповых хібаў літое паверхні. Такім чынам, сам малюнак фальсыфікату амаль ідэальны і не можа быць выкрыты.

Дапамагчы тут можа хіба толькі хімічны аналіз, і, калі-некалі, падрабязнае агляданне манеты пад лупай з павелічэннем, не меншым за 10. Пры наяўнасці патыны, а пагатоў крупінак зямлі, дасведчаны эксперт лёгка вызначыць іх натуральнае ці штучнае паходжанне, таму не рэкамендуецца чысціць скарбавыя манеты дабела.

Паспалітасць некаторых падробак не мусіць здзіўляць, бо рэдкія і дарагія манеты не заўсёды бывае выгадна фальшаваць. Гэта тлумачыцца тым, што пры іх пакупцы калекцыянер надзяляе большую ўвагу высвятленню іх сапраўднасці. Натуральна, што з меншымі грашыма падманваны развітваецца прасцей, таму пры наладжанай тэхналогіі фальшавання найвыгадней становіцца падрабляць манеты, якія каштуюць у дыяпазоне 20–100 у.а.

Манеты, бітыя **старымі штэмпелямі** ("навароби") – гэта фактычна копіі, а не фальсыфікаты. Пры іх выбіцці ўжываюцца захаваныя арыгінальныя штэмпелі, што робіць іх выгляд найдакладнейшым. Лучэнне такіх штэмпеляў да рук фальсыфікатараў недапушчальна, бо ў такім выпадку дасі рады толькі адсутнасць натуральнае патыны ці хімічны аналіз (якія, зрэшты, у гэтым выпадку не заўсёды напэўна сведчаць пра несапраўднасць).



**Копія праскага гроша Вацлава II, выкананая метадам біцця**

Наадварот, **выкананне зменаў** на арыгінальных манетах адкідае магчымасць выкрыцця "ўмяшальніцтва сучасніка" вышэйзгаданымі метадамі. Але мадыфікацыі дызайну сапраўднае манеты можа дапамагчы выкрыць уважлівае агляданне яе пад лупай ці мікраскопам. Калі-кольвек змены відаць і неўзброеным вокам, што залежыць ад ступені майстэрства фальсыфікатара. Найболей пашыраным спосабам выканання зменаў ёсць падразанне манеты з мэтай змянення элементаў дызайну, якія прадстаўляюць адзін з яе калекцыйных прызнакаў, напрыклад, даты. Адна змененая лічба можа прычыніцца да падвышэння рынкавае цаны спакмеію калекцыянавання ў соткі разоў. Гэтак, вядомыя паўгрошы літоўскія 1508 і 1545 гадоў, атрыманыя адпаведна з больш паспалітых тыпаў 1518 і 1546 гг.

Другі варыянт – "на дурня" – залачэнне срэбных ці медзяных манетаў для атрымання вышэйшых, больш рэдкіх наміналаў.



**"Унікальны" пенязь літоўскі 1561 г., выцяты з паўгроша**

Часам падробнік наважваецца зрабіць і псэўдаунікальны тып манеты. Гэтак, з паспалітых паўгрошаў Жыгімонта Аўгуста шляхам элементарнага абцінання робяцца нашмат рэдшыя пенязі таго ж уладцы.

Манеты з надбітай **фальшывай контрамаркай** сустракаюцца часта. Гэта абумоўлена параўнальнай лёгкасцю выканання контрамаркі. Найбольш небяспечныя падробкі закранаюць найзнакамiцейшыя контрамаркаваныя манеты ў нашай гісторыі.



**Сапраўдная контрамарка Жыгімонта на неапалітанскім таляры**

Гэта так званая спадчына каралевы Боны – неапалітанскія таляры і паўталяры з манаграмай Жыгімонта Аўгуста. Публікуем павялічаную выяву *сапраўднае* контрамаркі дзеля таго, каб калекцыянеры маглі арыентавацца і параўноўваць яе відарысы з тымі, якія ім прапаноўваюцца.

Нярэдка фальшуюцца і контрамаркі Вітаўта на татарскіх дырхемах.

Важны прызнак сапраўднасці контрамаркі – яе неідэальны выгляд, чаго не заўсёды проста дасягнуць фальсыфікатарам. Таксама трэба прымаць да ўвагі эканамічную мэтазгоднасць падробкі, хаця гэты чыннік мяняецца з часам і цяжка, напрыклад, зразумець сэнс псуцця

некаторых манетаў сфальшаванымі, здавалася б, штэмпелямі надбітак, якое паніжае іх рынкавы кошт.

Паходжанне шматлікіх контрамарак пакрытае цемрай, і тое, што амаль даведзеная неадпаведнасць "гданьскіх" надбіткаў на якасных літоўскіх манетах, якія сустракаюцца на беларускім нумізматычным рынку, сапраўдным гданьскім надбіткам на прускіх грашох, не значыць, што падобнай контрамаркай не карыстаўся нехта іншы ў тыя ці не напмат пазнейшыя часы.



**Фальшывыя контрамаркі абложанага места Гданьска на літоўскіх грошы і чвораку**

Вядомыя таксама і іншыя сучасныя падробкі контрамарак, перадусім, на праскіх грошах і контрамаркі Гутэн-Чапскага.

**Паляпшэнне стану** манеты шляхам падразання ёсць фальсыфікацыяй стану. Гэта найменш злачынны тып падробкі, бо сама манета ёсць арыгінальнай і да яе не дадаецца жадных новых элементаў, а толькі "вяртаюцца" старыя. Тым не менш, такія манеты не карыстаюцца попытам.

# Тэхніка біцця

Веданне тэхнікі біцця манетаў ёсць вельмі важным чыннікам калекцыянерскае і даследніцкае пісьменнасці. Яно дапамагае не толькі зразумець, як паўсталі тыя ці іншыя манеты, але і выкрыць фальсыфікаты.

Мынцарскія тэхналогіі на Беларусі да 1707 г. прайшлі шэраг этапаў развою:

1) Адліццё срэбных пруткоў;
2) Малатковае біццё з парэзанага срэбнага дроту;
3) Малатковае біццё і шрубавае прасаванне на кружках срэбра (па заходнеэўрапейскіх тэхналогіях);
4) Валцаванне на палосах срэбра (па заходнеэўрапейскіх тэхналогіях).

Даманетныя срэбныя пруткі вытвараліся шляхам адліцця ў формах. Пасля на іх рабіліся насечкі (на ізроях) альбо наносілася графіці (для абазначэння асабовай прыналежнасці ўладара ці падання іншае інфармацыі). Для атрымання амаль чыстага кову, з якога рабілі грыўні, срэбнае ламаццё рознага кшталту ператаплялася ў агульнай печы. Пры гэтым, за дапамогай пэўных методык ад яго аддзяляліся прымешкі іншых коваў, як некаштоўных, так і каштоўных, напрыклад золата.

Першыя манеты ВКЛ выконваліся таксама з срэбра высокае пробы, і імаверна, гатовым матэрыялам для іх былі даўнейшыя грыўні і праскія грошы. Тарнавалася т.зв. "руская" методыка біцця на срэбным дроце. Дрот разразаўся нажніцамі і раздушваўся вытнем молата. Атрыманы кавалак срэбра і быў манетнай загатоўкай. Гэта тэхналогія пераважала ў вытворчасці літоўскіх манетаў да пачатку праўлення Аляксандра. Яна была зручнай і менш працаёмкай, выдатна пасуючы вытворчасці дробных пенязяў.

У канцы 15 ст. Аляксандар Казіміравіч рэфармаваў літоўскую манетную вытворчасць на заходні кшталт. Пачалі ўжывацца перадавыя эўрапейскія методыкі, якія вынаходзіліся ў Нямеччыне, Італіі, Францыі, а пасля пераймаліся нашымі мынцмайстрамі за альбо без пасярэдніцтва польскіх тэхнолагаў. Часта на найважнейшыя пазыцыі запрашаліся самыя адмыслоўцы з-за мяжы, амаль вылучна нямецкія.

Тэхналогія падрыхтоўкі манетнага срэбра была нязменнай. Чыстае срэбра легавалася медзяй да азначанае ардынацыяй пробы. Гэты працэс жорстка кантраляваўся вардайнам – дзяржслужбоўцам, непадначаленым кіраўніцтву мынцы. Срэбра патрэбнае якасці злівалася ў пруткі. Вышэйзгаданы тэхпрацэс мог адбывацца і па-за межамі мынцы, забяспечваючы апошнюю, як і іншых замоўцаў, унармаванымі па вазе і пробе пруткамі кову.

Наступным этапам вытворчасці была падрыхтоўка пласцінаў срэбра адпаведнае таўшчыні. Срэбны пруток разаграваўся, што надавала яму большую пластычнасць і раскоўваўся молатам. У першай чвэрці 16 ст. быў вынайдзены валцавальны варштат, што сталася рэвалюцыйнай тэхналогіяй для менаванае аперацыі. Ён прыводзіўся ў рух вадой альбо жывёльнай сілай.

З раскаваных і разрэзаных стужак срэбра выразаліся альбо выціналіся прабойнікам манетныя кружкі.

Затым выконвалася праверка адпаведнасці вагі кружкоў норме. Для дробнае манеты тарнаваўся прынцып "al-marco", што азначала забавязанне выбіць канкрэтна вызначаную колькасць манетаў з грыўні срэбра, без аглядкі на вагу кожнае манеты асобна. Калі вага была меншай, выбіраліся цяжшыя кружкі з іншае партыі, калі большай – лягчэйшыя. Калі-некалі гэта прыводзіла да злоўжыванняў, якія палягалі ў прыёмцы ў вазе грыўні большае колькасці кружкоў, чым было вызначана ардынацыяй. Манеты вялікіх наміналаў прыймалі па прынцыпу "al-pezzo", калі кантралявалася вага кожнае манеты. Цяжшыя юставаліся (апільваліся), лягчэйшыя ішлі ў новы цыкл перапрацоўкі. Расфасаваныя па партыях кружкі выбельваліся і паліраваліся, што надавала прыгожы срэбны бляск нават не вельмі высокапробным манетам.

Апошняя аперацыя – выбіццё, альбо прэгаванне (з ням. pregen – біць) – да сярэдзіны 16 ст. і нават пазней для манетаў дробных выконвалася малатковай методыкай. Сподні штэмпель замацоўваўся ў цяжкім бервяне (што было абумоўлена ягонымі амартызацыйнымі ўласцівасцямі) і заставаўся нерухомы. На яго клаўся манетны кружок, да якога згары прыкладаўся другі штэмпель. Па рукаятцы апошняга і наносіўся выцень малатком.

Характэрнымі дэфектамі біцця манетаў менаванай методыкай ёсць:

а) Падвойнае адбіццё:

– абодвух бакоў мала пасунутымі адбіткамі штэмпеляў у выніку адскоку вышняга штэмпеля. Гэта магло адбывацца, калі сподні штэмпель замацоўваўся не ў бервяне, а ў металёвай аснове, якая не забяспечвала патрэбную амартызацыю.

– толькі рэверсу, калі пры выбіцці манета засталася ў сподні́м штэмпелі і дзеля таго, каб адчапіць яе, майстар прыклаў вышні штэмпель яшчэ аднойчы, вядома, не трапляючы дакладна ўва ўжо адбіты малюнак, і другі раз выцяў малатком. Такі эфект магчымы і ў выпадку, калі майстар, адняўшы вышні штэмпель, адразу заўважаў пэўны хіб у ягоным адбітку і дзеля яго выпраўлення цяў яшчэ раз. Гэткія дэфекты сустракаюцца рэдка, што можна патлумачыць высокай ступеняй "аўтаматычнасці" працы майстра, для якога адначасовыя праверкі якасці сваёй работы былі б неэфектыўнымі.



**Падвойнае адбіццё манеты, выклíканае адскокам штэмпеля**

– абодвух бакоў моцна пасунутымі адбіткамі штэмпеляў у выніку паўторнага выцню па няўдала выбітай манеце.



**Манета, адбітая двойчы з выразнымі слядамі першага адбітку**

Верагодна, што вынікі працы прэгера падлягалі выхадному кантролю якасці і найменш удалыя адбіткі вярталіся на папраўку.

Майстры, якія перабівалі бракаваныя кружкі, не марнавалі часу на тое, каб дакладна трапіць у малюнак першага адбітку, што зразумела, бо ў выпадку ідэальнае моцы і дакладнасці другога, першы

адбітак ставаў нябачным. Адлі тае самае дакладнасці і моцы ім не заўжды ставала, сведкамі чаго ёсць манеты з моцна пасунутымі восямі абодвух адбіткаў, і нават такія, дзе кожны з бакоў нясе часткі выяваў і аверсу, і рэверсу. Апошні факт пацвярджае і тое, што хібы на манетах выпраўляліся не адразу, а пасля кантролю.

б) Аднабаковыя манеты тыпу "пазытыў/негатыў", з добрым адбіткам нерухомага штэмпеля (рэверс) і з чэзлым негатыўным адбіткам гэтага ж штэмпеля на другім баку. Гэта адбывалася, калі манета заставалася ў вышнім штэмпелі і адпадала, толькі калі прэгер біў наступную. У выніку, на апошняй адбіваўся толькі рэверс, а замест аверсу атрымліваліся відарысы рэверсу папярэдняе манеты. Такія хібы дапамаглі нам вызначыць, які штэмпель быў для паўгрошаў рухомым.



**Манета тыпу "пазытыў/негатыў"**

в) Мясцова неадбітыя манеты. Яны паўставалі, калі прэгер няроўна прыкладаў вышні штэмпель. Такім чынам, моц ягонага вытня нераўнамерна размяркоўвалася па полі манеты, што прычынілася да адсутнасці малюнку з абодвух бакоў. Манеты з не дужа завялікім неадбіткам звычайна не адкідваліся кантролем.

г) Нецэнтрычна выбітыя манеты – з'яўляліся, калі майстар недакладна падкладаў манетны кружок на сподні штэмпель.

д) Манеты, неадбітыя па дыяметры. Утвараліся на манетным кружку, які быў нязначна выгнуты пад прабойнікам. Падчас прэгавання кружок раўняўся, але штэмпель прыкладаўся да розных бакоў манеты нераўнамерна. Манеты, якія маюць такія хібы, з'яўляюцца ў Віленскай мынцы ў 1520-х гадох, да чаго спрычынілася ўвядзенне прабойнікаў.



**Манета, мясцова неадбітая**



**Манета, адбітая нецэнтрычна**



**Манета з неадбітасцямі па дыяметры**

Восі аверсу і рэверсу пры выбіцці малатковай методыкай ніколі адмыслова не вытрымліваліся.

Для буйных манетаў у 16 ст. выкарыстоўвалі металічную пабойню, якая забяспечвала моц вытню, дастатковую для іх выбіцця.

Гэтую тэхналогію змяніла больш дасканалая – шрубавае прасаванне. Манета выціскалася вышнім штэмпелем, замацаваным у вялікай шрубе. Такая методыка дазволіла пазбыцца хібаў малатковага біцця. Адзіныя заганы, сустраканыя на манетах, выкананых шрубавым прасаваннем, абумоўленыя недакладнай працай майстра, які няроўна падкладаў пад шрубу кружкі.

Для дробных манетаў ужо з канца 16 ст. ужывалася методыка валцавання. Неразрэзаныя палоскі срэбра працягваліся праз 2 валцы, на якіх былі выгравіраваныя негатывы аверсу і рэверсу. Для таго, каб атрымліваліся круглыя адбіткі, яны мусілі быць крыху авальнае формы з большым дыяметрам перпендыкулярна краём валцоў. Толькі пасля выціснення адбіткаў манеты выціналіся прабойнікам.

Часта валцы рухаліся нераўнамерна, што прычынілася да змяшчэння адбіткаў адзін адносна другога. Каб даць гэтаму рады, прыдумалі гравіраваць кропкі паміж выявамі бакоў манеты, за якія мела чапляцца палоска срэбра, сумяшчаючы малюнкі. Нажаль, не заўсёды дапамагала і гэта.



**Валцаваны шэляг з моцным змяшчэннем адбітку на рэверсе**

Найбольш тонкаю працай у мынцы было выразанне штэмпеляў. Для палегчання гэтае аперацыі мынцмайстры выкарыстоўвалі пунсоны з пазытыўнымі выявамі асобных элементаў малюнку манеты. За дапамогай пунсонаў на штэмпель наносіліся літары, лічбы, знакі, абводкі, дзяржаўныя гербы. Пасля гэтага мынцмайстру заставалася толькі падправіць, калі трэба, драбніцы і штэмпель быў гатовы да ўжытку.



**Рухомы манетны штэмпель**

Пунсоны былі прыватнай уласнасцю мынцмайстра – разьбяра штэмпеляў.

# Месцы сустрэч калекцыянераў

## БЕЛАРУСЬ

БАРАНАВІЧЫ: МДК на вул. Леніна, штонядзелю 10–12.
БЕРАСЦЕ: ДК прафзвязаў (Маскоўская 275), штонядзелю 11–14.
ВІЦЕБСК: ДК прафзвязаў, штонядзелю 10–12.
ВОРША: ДК чыгуначнікаў, штосуботу 17–19.
ГОМЕЛЬ: Сквер ім. Грамыкі (каля помніку), штонядзелю 13–17.
ГОРАДНЯ: Дом афіцэраў на вул. Ажэшкі (каля чыгуначнага вакзала), штонядзелю 9–13.
КОБРЫНЬ: Раённы ДК, штонядзелю 11–14.
МАГІЛЕЎ: МДК (Першамайская 47), штосераду 18–20.
МАЗЫР: Дом афіцэраў, штонядзелю 10–12.
МАЛАДЭЧНА: МДК, штонядзелю 10–12.
МЕНСК: ДК чыгуначнікаў (Чкалава 7), штосераду 14–18 і штонядзелю 9–13.
НАВАПОЛАЦАК: Палац нафтавікоў на вул. Моладзевай, штосуботу 14–16.
ПІНСК: ДК трыкатажнікаў, штонядзелю 12–14.
СЛОНІМ: МДК, штонядзелю 11–14.
СЛУЦАК: ДК імя Леніна, у другую і апошнюю нядзелі месяцу.

## ПОЛЬШЧА

БЕЛАСТОК (Białystok): Muzeum Wojska, ul. Kilińskiego 7, штосераду.
БЕЛЬСКА-БЕЛАЯ (Bielsko-Biała): Dom Kultury, ul. 1 maja, штопятніцу.
БЫДГАШЧ (Bydgoszcz): Szkoła nr 47, ul. Czartoryskiego, штočацвер, 16–18, а таксама Klub “POW” Pomorskiego Okręgu Wojskowego, 1 нядзеля месяцу.
БЫТАМ (Bytom): Plac Jana III Sobieskiego 1, штосуботу, 9–14.
БЭДЗІН (Będzin): Sączewskiego 17, штопанядзелак 15–17.
ВАРШАВА (Warszawa): Klub Kolekcjonera, Elektoralna 12, штоаўторак, 16–18, а таксама рынак “Кола”, штонядзелю.
ВАДЗІСЛАЎ СІЛЕЗКІ (Wodzisław Śląski): Zespół Szkół Średnich, штočацвер, 16–18.
ВРОЦЛАЎ (Wrocław): Zespół Szkół, Plac Teatralny 6/7, 1 серада месяцу, 16–17, а таксама Stare Jatki, штонядзелю, 9–13.

ГДАНЬСК (Gdańsk): Muzeum Archeologiczne, ul. Mariacka, 1 аўторак месяцу з 17.

ГДЫНЯ (Gdynia): Poczta Główna, ul. Władysława IV, штоачацвер, 15–17, а таксама 2 і 4 нядзелі месяцу.

ГОРАЎ (Gorzów): Klub Chemika, ul. Drzymały, штонядзелю, 10–14.

ГОРЛІЦЫ (Gorlice): ul. Kołłątaja 16, штопанядзелак, 19–22.

ЖОРЫ (Żory): Biblioteka Miejska, Os. Pawlikowskiego, штосераду, 17–18.

ЗДУНЬСКАЯ ВОЛЯ (Zduńska Wola), Dom Kultury "LOKATOR", 2 нядзеля месяцу з 9.

КАТАВІЦЫ (Katowice): Dom Kultury Kolejarza, ul. Dworcowa, штоачацвер, 14–16.

КАШАЛІН (Koszalin): Klub Osiedlowy, ul. Zwycięstwa, 1 і 3 панядзелкі месяцу, 17–19.

КЕЛЬЦЫ (Kielce): каля Wojewódzkiego Domu Kultury, другая субота месяцу.

КРАКАЎ (Kraków): AGH, budynek A-3, sala 33, 2 чацвер месяцу, 17–19, а таксама рыначак каля гандлёвага хола на ul. Grzegórzeckiej, штонядзелю, 8–14.

КРОСНЯ (Krosno): Dom Kultury, Kolejowa 1, 2 і 4 аўторкі месяцу з 17.

ЛЮБЛІН (Lublin): Dom Kultury, ul. Panny Marii 3, штоачацвер, 17–19.

ЛОДЗЬ (Łódź): Łódzki Dom Kultury, ul. Traugutta, штонядзелю, 9–16.

ПОЗНАНЬ (Poznań): Muzeum Archeologiczne, ul. Wodna 27, 2 і 4 чацвяргі месяцу, 16–18, а таксама Dom Kolejarza, ul. Królowej Jadwigi, 2 субота месяцу, 8–13.

ПШЧЫНА (Pszczyna): Dom Kultury, Rynek, першыя чацвяргі па 1 і 15 кожнага месяцу, 17–19.

РЭШАЎ (Rzeszów): III L.O. ul. Szopena, у 2 нядзелі месяцу.

САНАК (Sanok): Dom Kultury, Mickiewicza 24, 1 нядзеля месяцу, 9–12.

СВІДНІЦА (Świdnica): рынак каля ратушы, у 1 нядзелі месяцу.

ТАРУНЬ (Toruń), Instytut Archeologii, ul. Podmurna 9/11, 1 і 15 кожнага месяцу, 16–18.

ТЫХІ (Tychy): Polskie Towarzystwo Filatelistyczne, Aleja Niepodległości, штоаўторак, 16–18.

ХОЙНІЦЫ (Chojnice): Zasadnicza Szkoła Zawodowa Nr 2, ul. Angowicka 45, 1 і 3 нядзелі месяцу, 10–14.

ЦЕШЫН (Cieszyn): Dom Nauczyciela, Rynek 12, штоаўторак, 9–16.

ЧАСТАГОЎ (Częstochowa): Muzeum Okręgowe, Plac Biegańskiego 45, 1 і 3 пятніцы месяцу, 16–18, а таксама Stary Rynek za D.H."Kubuś" у канцы Aleji NMP, трэцяя субота месяцу.

ШЧЭЦІН (Szczecin): Książnica Pomorska, III piętro, штoчацвер, 15–17, а таксама Klub POCZTYLION, у трэція нядзелі месяцу.
ЭЛЬБЛЁНГ (Elbląg): Ośrodek Kultury, pl. Kazimierza Jagiellończyka, у 1 нядзелі месяцу, 11–14.
ЯСЛА (Jasło): Dom Kultury, ul. Kołłątaja 1, 2 і 4 панядзелкі месяцу з 17.
ЯСТРАБІНАЯ КРЫНІЦА (Jastrzębie Zdrój): Biblioteka miejska, Osiedle III, ul. Wielopolska, штоаўторак, 16–18.

## УКРАІНА

КІЕЎ: Expoplaza (на вул. Салютнай каля м.Ніўкі), штосуботу 6–12.
ЛЬВОЎ: школа (на вул.Замартынаўскай), штонядзелю 8–12.

## ЛЕТУВА

ВІЛЬНЯ: Дом гандлёвага звязу (Mykolaicio-Putino 5), штосуботу 8–12.
КОЎНА: Дом гандлёвага звязу (на вуліцы Кейстута), штонядзелю 8–12.

# Спіс жаролаў


1. В.Б. Антонович "О новонайденных серебрянных монетах с именем Владимира", сборник "Труды III АС", Киев 1878, т. 2.
2. Ю. Барейша "Об одной уникальной монете Великого княжества Литовского", тезисы докладов на Международной Нумизматической Конференции, Вильно, 26–28 апреля 2006 года, Vilnius 2006.
3. Ш.И. Бектинеев "Денежное обращение Великого Княжества Литовского в XIII–XV вв.", Минск 1994.
4. Е. Гончаров, О. Тростьянский "Монеты русских уделов Гедиминовичей", тезисы докладов на Международной Нумизматической Конференции, Вильно, 26–28 апреля 2006 года, Vilnius 2006.
5. А. Грамыка "Загадкі гербаў "Калоны" і "Падвойны крыж"", "Беларускі гістарычны часопіс", Мінск 6/2006.
6. А. Грамыка, Дзьм. Гулецкі "Псуцьцё рэгулярнае манэты ВКЛ Ягайлы ў 1388–1392 гадох", рэфэрат да 7-е міжнароднае навуковае канфэрэнцыі "Psucie pieniądza w Europie Środkowo-Wschodniej od antyku do czasów współczesnych", Białystok-Augustow 2006.
7. Дз. Гулецкі "Адзінкавая знаходка ранняе манеты ВКЛ тыпу "ПЕЧАТЬ-Звер" у Расіі", часопіс "Банкаўскі веснік", №16 (345), Мінск 06/2006.
8. Дз. Гулецкі "Помнікі працы майстроў Віленскае мынцы пачатку XVI стагоддзя: аспекты вытворчасці", часопіс "Банкаўскі веснік", №4 (333), Мінск 02/2006.
9. М. Догель "Неизданная русская монета XIV века", журнал "Записки нумизматического отделения императорского Русского археологического общества", т.2, №3–4, Санкт-Петербург 1913.
10. Т.І. Доўнар, У.М. Сатолін, Я.А. Юхо "Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года", Мінск 2003.
11. Г.А. Козубовський "Сіверські монети XIV ст.", центр пам'ятникознавства, бібліотечка "Пам'ятники археології", випуск 1, Київ 1992.
12. Г.А. Козубовский "Центры монетной чеканки на Украине в 14 ст. (Киев, Новгород Северский, Орда)", materiały z III Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej, Warszawa 1998.
13. И. Колобова "Клады фальшивых монет", часопіс "Банкаўскі веснік", №31(252), Мінск 11/2003.
14. И. Колобова "Полоцкий монетный двор XV–середины XVI вв. (фальсификация шиллингов Ливонского Ордена)", materiały z III Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej, Warszawa 1998.

15. А.М. Колызин, С.В. Литвинов, С.Б. Селезнёв "Алексинский клад монет XIV века (предварительная публикация)", Нумизматический сборник МНО №12, Москва 2005.
16. М. Котляр "Грошовий обіг на теріторії України доби феодалізму", Київ 1971.
17. Н.Ф. Котляр "Монеты Владимира Ольгердовича", сборник "Нумизматика и Сфрагистика", выпуск 4, 1971.
18. М. Котляр "Нариси історії обігу й лічби монет на Україні XIV–XVIII ст.", Київ 1981.
19. Матэрыялы сайту www.acoin.com.
20. Матэрыялы сайту www.antiquanova.com.
21. Матэрыялы сайту bno.khoz.ru.
22. Матэрыялы сайту coinsold.amazonit.ru.
23. Матэрыялы сайту www.gmcoinart.de.
24. Матэрыялы сайту grivnaklad.narod.ru.
25. Матэрыялы сайту www.hordecoins.folgat.net.
26. Матэрыялы сайту www.lnm.lt.
27. Матэрыялы сайту www.monetypanstwswiata.republika.pl.
28. Матэрыялы сайту www.numismatika.cz.
29. Матэрыялы сайту romaniancoins.ancients.info.
30. Матэрыялы сайту www.someoldcoins.org.
31. Матэрыялы сайту www.wcn.pl.
32. Матэрыялы сайту www.zeno.ru.
33. О. Погорілець, Р. Саввов "Карбування монети на Поділлі в другій половині XIV ст.", реферат на Міжнародній науковій конференції "Грошовий обіг в Україні, минуле та сучасність", Львів 2004.
34. В. Рябцевич "Нумизматика Беларуси", Минск 1995.
35. И. Синчук "Шеляжные" монетные дворы ВКЛ и медные солиды Яна Казимира в кладах", materiały z III Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej, Warszawa 1998.
36. К. Хромов, И. Хромова "Новгород-Северская монета Дмитрия Ольгердовича", on-line версия доклада на Международной Нумизматической Конференции, Булгар, 2005 год (http://www.hordecoins.folgat.net/Rpubl_Bulgar2005-conf.htm).
37. К. Хромов "Новое в изучении Новгород-северских подражаний джучидским дирхемам третей четверти XIV века", on-line версия доклада на Международной Нумизматической Конференции, Вильно, 26–28 апреля 2006 года (http://www.hordecoins.folgat.net/Rpubl_Vilnus-conf.htm).
38. К. Хромов "О монетной чеканке на территории Киевского княжества в 50-е годы XIV века (Киевские подражания монетам Джанибека)",

матэрыялы міжнароднае навукова-практычнае канфэрэнцыі "Проблеми охорони та відновлення фортифікаційних споруд Київської землі", Київ 2005.

39. Ф.М. Шабульдо "Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского", Киев 1987.
40. У. Юргенсон "Атрыбутацыя манет, якія традыцыйна адносяць да эмісій Святаполка І Яраполчыча Тураўскага", зборнік "Традыцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры Усходняга Палесся", Гомель 2006.
41. M. Gumowski "Mennica Wileńska w XVI i XVII wieku", Warszawa 1921.
42. J. Hána "Mincovní technika – mincovní stroje" (http://www.sweb.cz/numismatic).
43. E. Ivanauskas, M. Balčius "Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės lydiniai ir monetos nuo 1387 iki 1495 metų", Vilnius 1994.
44. E. Ivanauskas, R.J. Douchis "Coins of Lithuania 1386–1707", Vilnius 1999.
45. L. Kokociński "Pieniądz fałszywy", Łomża 1995.
46. A. Krzyżaniwskij "Czy w mennicy lwowskiej bito monety w latach 1383–1387", materiały z IV Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej, Warszawa 2000.
47. S. Kubiak "Monety pierwszych Jagiellonnów", Wrocław-Warszawa-Krakow 1970.
48. J. Kurpiewski "Fałszerstwa monet i banknotów", Warszawa 1990.
49. A.M. Kuźmin "Organizacja mennic i techniki mennicze w Polsce XVI–XVII w", Warszawa 2003.
50. "Lietuva medaliouse. XVI a. – XX a. pradžia", альбом, Vilnius 1998.
51. O. Lucian, G. Buzdugan, C. Oprescu "Monede si banknote romanesti", Bucuresti 1977.
52. J. Mękicki "Monety Rusi Czerwonej w XIV–XV w.", Warszawa 1983.
53. T. Ostrauskas "Nauji duomenys apie jogailos monetø radinius lietuvos teritorijoje", часопіс "Numizmatika", Nr.5, Vilnius 2006.
54. E. Remecas "Vilniaus žemutinės pilies pinigų lobis", Vilnius 2003.
55. S. Sajauskas, D. Kaubrys "Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės numizmatika", Vilnius 1993.
56. J. Smolík "Pražské groše a jejich díly (1300–1547)", Praha 1899.
57. Z. Żabiński "Rozwój systemów pieniężnych w Europie Zachodniej i Północnej", Wrocław 1989.

# ІЗРОЙ-MAGDUCLIT 2007. Монеты Беларуси (до 1707 г.)

История денежного обращения на Беларуси насчитывает долгие века, на протяжении которых наши предки пережили немало войн, эпидемий и голодов. Однако, эти негативные явления позволяют нам сегодня оглянуться и увидеть прошлое в материальном воплощении, взять в руки монету – небольшой кусочек металла, который так много говорит о том, чем когда-то жили они, независимо от своего названия: и белорусы-кривичи, и белорусы-литвины, и безымянные жители оккупированной земли. Монета – относительно недорогой и доступный реликт прошлого – очутилась в наших руках «благодаря» временам лихолетий, которые стали причиной того, что бесценные клады дожили до нашего времени и продолжают бередить нам историческую память и нести незабываемое чувство связи с прошлым.

Монеты на Беларуси ходили с античных времён, перебывало их за века немало как с Запада, так и с Востока, пока наконец наши предки не начали пользоваться своим собственным денежным средством – витебским *изроем*. Его появление датируется 12 веком. С формированием и централизацией древнебелорусского государства – Великого Княжества Литовского – в конце 14 в. появляются и первые мелкие монеты с легендами на старобелорусском языке. Одновременно с ними распространяется второй тип серебряной гривны – литовский *рубль*.

До конца 1390-х гг., когда усилилась централизация государственной власти в руках Витовта, нумизматику ВКЛ нужно рассматривать как эмиссии удельных княжеств. Наверняка определено, что кроме великого князя Ягайло в Вильно, свои монеты чеканили Владимир и Скиргайло Киевские, Дмитрий Новгород-Северский, Константин и Фёдор Подольские и другие князья. Кроме того, существует вероятность, что недостаточные усилия в археологических поисках на современном этапе являются причиной неизвестности монет некоторых удельных княжеств этого периода.

Около 1392 г., с завоеванием власти, начинает массовые эмиссии денариев Витовт Великий. На рубеже веков Витовт получил титул Великого князя и начал чеканить новый тип монет. Для этого периода характерна десятичная денежная система страны – первая в Европе: 1 рубль = 100 пражским грошам = 1000 денариев.

В конце 15 в. происходит вестернизация монетного дела Великого Княжества, монеты становятся похожими на западноевропейские и несут уже исключительно латинские легенды. Тем не менее, особая великолитовская денежно-весовая система продолжала своё существо-

вание и была отменена только при Стефане Батории, когда произошла полная унификация денежных систем с Польшей.

Монеты ВКЛ продолжали чеканиться с перерывами до начала 18 века, когда последняя из них – шестигрошовик Августа II – вышла из под станка монетного мастера.

Эти периоды денежного обращения и освещает справочник, который уважаемый читатель держит в руках. В нём впервые в Беларуси печатаются качественные фотоснимки всех основных типов монет, которые ходили на землях страны, указаны их ориентировочные цены на белорусских коллекционерских рынках. Наибольшее внимание уделено периоду возникновения первых местных денег – изроев, рублей и мелких монет.

Интерес к ним у белорусских коллекционеров необоснованно низкий. Это можно объяснить не столько их высокими ценами, сколько почти полным отсутствием основательных отечественных работ по ранней нумизматике ВКЛ. Поэтому, несмотря на популярный характер издания, в разделах, посвящённых первым монетам княжества, авторы позволили себе поместить научное исследование витебского нумизмата Александра Громыко. С его выводами могут быть не полностью согласны другие авторы справочника. Новейший материал о ранних монетах был собран им же, с помощью минского исследователя Дмитрия Гулецкого. Некоторые монеты публикуются в книге впервые. Также, в своей работе А. Громыко оценил степени редкости ранних монет ВКЛ по общепринятой в Центрально-Восточной Европе 8-балльной шкале (R1-R8). Для всех очень редких монет в других главах, независимо от степени редкости, даётся только указание на это в виде буквы R. Для менее редких монет проставлена ориентировочная цена среди белорусских коллекционеров.

Для этого и более поздних периодов приведена информация не только про отечественные монеты, но и про иностранные, которые ходили на белорусской земле. Монеты Великого Княжества пронумерованы в границах глав для облегчения определения монет при ссылке на справочник. Указаны приблизительные цены для монет сохранности VF. При том, что коллекционерский рынок подвержен частым перепадам цен, авторы постарались найти актуальное значение цены, за которую стоит приобрести монету, и при этом существует большая вероятность, что покупатель не переплатит.

В конце справочника помещена полезная для коллекционеров тематическая информация, которая также ранее не публиковалась в Беларуси в систематическом виде. Предложена шкала оценки сохранности монет, основанная на наиболее современных системах других стран и новых тенденциях коллекционерского рынка. Освещены основные приёмы чистки монет и разоблачения подделок. Для стимули-

рования интереса коллекционеров к исследованиям в области нумизматики и повышения уровня знаний про предметы собирательства освещены вопросы техники чеканки старинных монет. Собрана и опубликована информация про места встреч коллекционеров в Беларуси и соседних странах.

**Манеты Беларусі (да 1707 г).**

ІЗРОЙ-MAGDUCLIT 2007

Даведнік

СКЛАДАЛЬНІКІ:
Гулецкі Дзмітры,
Грамыка Аляксандар,
Крываручка Аляксандар

Падпісана ў друк 08.01.2007 г. Фармат 60x84 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура «Баскервіль». Ум. друк. арк. 14,46. Ул.-выд. арк, 15. Наклад 300 асоб.
Замова 876.

Выдавец І. П. Логвінаў, ЛИ 02330/013307 ад 30.04.2004 г.
220050, г. Мінск, пр-т Ф. Скарыны, 19–5. logvinovpress@mail.ru

Друк ТДА «НоваПрынт», ЛП 02330/0056647 ад 28.03.2004 г.
220047, г. Мінск, вул. Купрэвіча, 2.



Гісторыя грашовага абарачэння на Беларусі налічвае доўгія стагоддзі, цягам якіх нашыя продкі зведалі нямала войнаў, пошасцяў і галадамораў. Гэтыя негатыўныя з'явы адлі дазваляюць нам сёння азірнуцца назад і абачыць мінуўшчыну ў матэрыяльным увасабленні, узяць у рукі манету - драбнюткі кавалак кову, які так шмат кажа пра тое, чым калісьці жылі яны, незалежна ад свайго назову: і беларусы-крывічы, і беларусы-ліцьвіны, і безыменныя жыхары забранага краю.



Манета - адносна недарагі і даступны рэлікт былога - апынулася ў нашых руках "дзякуючы" перыядам ліхалеццяў, якія прычыніліся да таго, што бясцэнныя скарбы дажылі да нашых часоў і працягваюць цвяліць нам гістарычную памяць, прыносіць незабыўнае пачуццё повязі з мінулым.



**МЕНСК•ЛОГВІНАЎ•2007**

ISBN 978-985-6800-34-7

